26 лютага 2021 | № 8 (716)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

«Зіма ваша, вясна наша!»
Стар.20

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# «Веру ў перамогу, таму што ў нас немагчыма адняць салідарнасць»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Юлія Міхайлава выходзіла на шматлікія акцыі і не баялася выказвацца за перамены. Актыўнасць вылілася дзяўчыне ў чатыры адміністрацыйныя арышты і немагчымасць нармальна працаваць. Але ў Юліі не згасае ўпэўненасць у перамозе, як і не знікае яе ўсмешка, якая аднойчы прысароміла суддзю.**

### «Паверыла, што нешта можа памяняцца»

З Юліяй мы сустрэліся на чацвёрты дзень пасля яе выхаду з Акрэсціна. Да гэтага дзяўчына паспела пабыць на волі паміж затрыманнямі ўсяго два дні. Такое з ёй, дарэчы, здаралася ўжо двойчы. Агулам за час пратэстаў Юлія правяла ў зняволенні 57 дзён.

Мая суразмоўца — не з тых, у каго «расплюшчыліся вочы» летам-восенню 2020-га. Яе гісторыя пратэсту пачалася з Плошчы–2006 — тады Юлія была яшчэ падлеткам і насіла ежу ў намёты на Кастрычніцкай плошчы Мінска, названай дэманстрантамі Пляцам Каліноўскага.

— Тады я пачала разважаць, чаму некаторыя людзі супраць гэтай сістэмы. У нечым я была з імі нязгодная, мне здавалася, магчыма, яны недзе занадта нагаворваюць. Але, як паказалі вынікі мінулага года, яны мелі рацыю, — усміхаецца дзяўчына.

З тых часоў яна ўдзельнічала ў шматлікіх акцыях апазіцыі, а любімыя святы Юліі — Каляды і Дзень Волі. Упершыню пад рэпрэсіі яна трапіла 10 гадоў таму: паехала з паплечнікамі ў Дрыбін на суд да Змітра Дашкевіча, і ў выніку сама аказалася на сутках у дрыбінскім ІЧУ.

Пасля выбараў 2010 года Юлія адчула моцнае расчараванне, якое доўжылася фактычна да лета 2020-га.

— Я ўбачыла, што сталі заяўляць пра сябе людзі непалітычныя — Бабарыка, Цапкала. Хаця ўсё пачалося, напэўна, з каронавіруса — ён паўплываў на тое, што беларусы пачалі аб'ядноўвацца. Тады народ адчуў, што ён нешта можа.

Юлія Міхайлава вырашыла пайсці ў назіральнікі на выбарах. Каб зарэгістравацца, ёй трэба было сабраць 10 подпісаў у падтрымку сваёй кандыдатуры. Яна лёгка магла б сабраць іх сярод суседзяў, але для яе было прынцыпова важным паразмаўляць з рознымі людзьмі і пагладзець на іх настрої.

Яна назірала на ўчастках, дзе галасавалі жыхары вёсак Шчомысліца і Прылуцкая Слабада Мінскага раёна. Там галасы выбаршчыкаў палічылі сумленна: на кожным з участкаў каля 60% набрала Святлана Ціханоўская.

— Я бачыла, як маладыя хлопцы і дзяўчаты вялі сваіх бабуль, каб яны прагаласавалі. Таксама я была на выязным галасаванні. Некаторыя бабулі казалі нам: «Адвярніцеся, я зараз складу "гармонікам" — мне так унучка сказала». Тады я паверыла, што нешта можа памяняцца.

Але неўзабаве агучылі афіцыйныя вынікі галасавання, і Юлія разам з сябрамі штодня стала ездзіць у горад на акцыі пратэсту.

### У камеры называлі адна адну сёстрамі

Першы раз Юлію затрымалі 14 верасня каля Чырвонага касцёла, дзе штодня збіраліся на акцыі жанчыны.

— Тады я ўжо маральна была гатовая: у адзін дзень забралі адну дзяўчынку, на наступны — другую... Было цікава, бо «не сядзеў — не беларус», — узгадвае суразмоўца.

Тады суддзя Вольга Малашчанка прысудзіла Юліі 12 сутак арышту. Іх яна адбывала спачатку ў ІЧУ і ЦІП на Акрэсціна, потым паехала на чацвёра сутак у Жодзіна і яшчэ на чацвёра — у Сцяпянку.

Пасля вызвалення яна пабыла на свабодзе два дні — і яе зноў затрымалі.

— Другі раз я была зусім не гатовая да арышту. Я адвезла перадачу для жанчыны, з якой сядзела ў Сцяпянцы, бо ёй ніхто нічога не перадаваў, яна была не «палітычная». Потым мы сустрэліся з дзяўчатамі каля касцёла, набылі ружы і пайшлі гуляць. Мы не адчувалі нейкай небяспекі, бо што такога ў дзяўчатах з кветкамі? Але неўзабаве пачула голас адной дзяўчыны: «Блін, зноў!» Я паварочваюся і бачу — «аліўкі» стаяць.

Пасля першага затрымання Юлія паабяцала сабе, што будзе хутка бегаць. Дзяўчаты кінуліся на ўцёкі. Юлія пабегла спускацца па лесвіцы ў гандлёвы цэнтр «Сталіца».

— Мне здаецца, такая радасць апошні раз у мяне была ў дзяцінстве, калі ты адчыніў дзверы — і ўратаваўся. Але я адчуваю, як мяне хапаюць за паліто і выцягваюць. У мяне яшчэ ружа ўпала, і на лесвіцы так прыгожа пялёсткі ляжалі, — смяецца Юлія.

Пры затрыманні яна не страціла пачуцця гумару: сама ісці адмовілася, і ў выніку сілавік яе панёс на руках. Разумеючы, што вырывацца не мае сэнсу, Юлія закінула адну нагу за другую, абняла сілавіка за шыю і закамандавала несці яе да машыны.

Як і ў першы раз, Юлію завезлі ў Маскоўскае РУУС. Судзіла яе тая ж самая суддзя Вольга Малашанка, толькі на гэты раз яна выпісала Юліі ўжо не 12, а 15 сутак. Разам з Юляй на суткі «заехала» і яе сястра, арышт яны адбывалі разам.

— Адседзець другі раз мне было маральна складана, — прызнаецца дзяўчына. — Дзяўчаты, якія сядзелі са мной, казалі: «Мы перажываем, што нам далі суткі, а тут чалавек ужо другі раз — і нічога».

Юлія расказвае, што тады дзяўчат упершыню павезлі ў Баранавічы. У адной камеры (Юлія кажа — «пакоі») іх было 17 чалавек, і яны паміж сабой называлі сябе сёстрамі.

Працяг на стар. 5 »

# «Мяне мала цікавіла палітыка»

Яна ТРУСІЛА

**Мы задалі маладзёнам два пытанні: «Як пратэсты паўплывалі на ваша жыццё?» і «Ці адчуваеце вы сябе ў бяспецы?» І вось якія адказы далі студэнты розных універсітэтаў.**

**Ліка, 19 гадоў, БДМУ:**

— Пасля жніўня ніхто і ніколі не будзе ранейшым. У тым ліку і я. Я стала мацней любіць нас, беларусаў, і з кожным днём усё больш адчуваць адзінства і гонар за ўсіх беларусаў, якія нават у праліўны дождж і маразы выходзяць паказаць, што нас не зламаць. У мяне нарэшце з'явілася вера ў перамены! Гэтыя паўгода паказалі ў людзях унутраны стрыжань, паказалі, якім адважным і мужным можа быць чалавечае сэрца. Падзеі пасля 9 жніўня таксама паказалі, якімі ж сляпымі і прадажнымі могуць быць людзі.

Шмат маіх сяброў страцілі працу ці вучобу, былі вымушаныя з'ехаць. Цяпер ні яны, ні я не адчуваем сябе ў бяспецы ў роднай краіне.

**Аляксандр, 21 год, БДУ:**

— Пратэсты дазволілі пераасэнсаваць сябе, людзей навокал, даведацца, хто чаго варты. З аднаго боку, мяне расчаравала бяздзейнасць некаторых маіх аднагодкаў. Яе можна зразумець і неяк апраўдаць, але ад гэтага не становіцца лягчэй. З іншага боку, мне адкрылася шмат хлопцаў, гатовых кінуцца за табой у самае гарачае полымя, ад чаго ты і сам быў гатовы рабіць тое ж самае. Гэта бясцэнны вопыт, які яшчэ раз даказвае, што сіла не толькі ў рэсурсах, але і ў саміх людзях.

Я не адчуваю сябе ў бяспецы, таму што мая бяспека складаецца з упэўненасці ў будучыні, а ў Беларусі я такой упэўненасці пакуль не адчуваю.

**Вікторыя, 20 гадоў, ЕГУ:**

— У мяне знікла пачуццё непаўнавартаснасці ўласнага паходжання. Некалькі гадоў таму я паглыбілася ў беларускую культуру: пачала размаўляць на беларускай мове, цікавіцца тым, як можна «беларусізаваць» наша грамадства. У асноўным таму, што я хацела перамагчы гэта адчуванне бездапаможнасці і няважнасці як беларускі. Адчуванне, якое навязваецца дзяржаўнай рыторыкай, сістэмай, адукацыяй. А калі ў Беларусі праходзілі пратэсты, гэта пачуццё нейкай «незапоўненай чары», яно знікла, і для мяне больш не стаіць пытанне, наколькі я павінна ганарыцца сваім паходжаннем, таму што я ганаруся ім апрыёры.

Так, я не адчуваю сябе ў бяспецы тут, я вельмі моцна баюся людзей у балаклавах, у форме, прычым любой, баюся мікрааўтобусаў. Таму што быў адміністрацыйны арышт, вельмі доўга аднаўлялася, хадзіла да псіхатэрапеўта. І толькі праз некалькі месяцаў пасля «сутак» я магу сказаць, што стала адчуваць сябе больш упэўненай і паступова прыходзіць у сябе. Разам з гэтым пачуццём сусветнай небяспечнасці ёсць яшчэ і пачуццё агульнай мэты, вышэйшай ідэі — і гэта вельмі зараджае энергіяй на барацьбу.

**Аліса, 20 гадоў, БДУ:**

— Да выбараў мяне мала цікавіла тэма палітыкі. Вядома, былі моманты, якія не задавальнялі, але я не паглыблялася, спрабавала абыходзіць іх бокам. Пратэсты ўдыхнулі нейкае жыццё, надзею — у прыватнасці, спадзяванні на свабоду і перамены, але пры гэтым і расплюшчылі вочы на ўвесь абсурд і беззаконне, што кожны раз уражвае і дзівіць па-новаму. Хоць, здаецца, чым нас можна яшчэ здзівіць? Дна і блізка не відаць. Але гэта дае яшчэ больш упэўненасці ў тым, што гэтая ўлада зжыла сябе, яе сыход — гэта пытанне часу.

Не думаю, што можна быць у бяспецы ў краіне, дзе плююць хацелі на закон.

**Аляксандра, 22 гады, БДУКМ:**

— Лета і восень 2020-га я ўспамінаю з цеплынёй. Нядзеля была маім любімым днём, натхненне ад людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі перакрывала стомленасць ад кіламетраў, якія мы праходзілі па вуліцах. Я схадзіла на мноства дваровых чаяванняў і пасяброўвала з суседзямі. Страху не было зусім, пакуль мяне не затрымалі і не арыштавалі на 15 сутак. Сёння штодзённасцю стала абдумваць план дзеянняў на выпадак, калі раптам прыйдуць з ператрусам.

Канечне ж, я не магу адчуць сябе ў бяспецы, калі бачу, як кожны дзень невінаватых людзей кідаюць у турму.

**Валерыя, 20 гадоў, БДУ:**

— Пратэсты сапраўды змянілі маё жыццё. Мноства разоў я чула, што тэма пратэстаў станавілася каменем перапоны ў сем'ях, псавала адносіны. У маім выпадку наадварот: я зразумела, што жыву побач з выдатнымі людзьмі, якія падзяляюць мае погляды. Успамінаю лета 2020 года з рознымі пачуццямі: з жахам, са злосцю або з невераемнай цеплынёй. Я памятаю першы мітынг на Стэле — і цяпер, распавядаючы гэта, прабягаюць мурашкі па целе. Я памятаю, як упершыню ўбачыла, колькі нас, у мяне перахапіла дыханне. І пасля гэтага жыццё падзялілася на «да» і «пасля». З-за пратэсных рухаў я, на жаль, перастала даваць нават тэарэтычныя шанцы тым, хто яшчэ застаўся побач з гэтай уладай. І дараваць ім я не змагу.

Не магу сказаць, што адчуваю сябе ў бяспецы, але я ведаю, што я не адна.

# Я люблю сваю краіну

**Раман Руткоўскі, герой відэа, на якім хлопец уцякае ад затрымання на таксі, распавёў «Салідарнасці», што з ім адбывалася апошнія месяцы.**

Яшчэ нядаўна 19-гадовы Раман Руткоўскі вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце фізкультуры, марыў стаць трэнерам па самба і адкрыць свой клуб.

— У мяне ўсё было распланавана амаль на дзесяць гадоў наперад, — прызнаецца Раман. — Напярэдадні выбараў я быў амаль упэўнены не толькі ў тым, што пераможа Святлана Ціханоўская, але і ў тым, што не прызнаць гэтага не змогуць. Таму, калі позна ўвечары 9 жніўня ўбачыў пратакол на сваім участку з перамогай Лукашэнкі, не змог гэтага прыняць. Мы сtэлефанаваліся з сябрамі — і ўсе пайшлі на Нямігу.

23 верасня, пасля інаўгурацыі Лукашэнкі, Раман таксама не змог заставацца ўбаку.

— Я паехаў на Пушкінскую. Людзей у той вечар сапраўды было шмат. Потым прыехалі аўтазакі, мы пабеглі ў двары. Я трымаў дзверы ў адзін з пад'ездаў. Потым вырашыў зайсці за рог дома і разведаць абстаноўку.

Выйшаў — і ўбачыў велізарную колькасць сілавікоў! Хутка вярнуўся ў той жа пад'езд, але дзверы зачыніць ужо не паспеў. За мной ускочылі некалькі амапаўцаў, — расказвае Раман.

Хлопца выратавалі рэакцыя, хуткія ногі і таксіст Жэня.

— Усё сапраўды атрымалася як у кіно — успамінае Раман. — Пад'езд быў прахадны, я неяк ўмудрыўся выскачыць праз заднія дзверы.

Я бег і думаў, што перабягу праз дарогу і паспрабую дзесьці схавацца. Ужо завярнуў на праезную частку — і тут чую з таксі: «Скачы сюды хутчэй».

Аказваецца, Жэня ўбачыў, як я яшчэ выбягаў з пад'езда. Ён у гэты час стаяў на святлафоры і ўжо тады вырашыў, што будзе мяне ратаваць. Мы не былі з ім знаёмыя да гэтага.

Я заскочыў у машыну. Ва ўсіх эмоцыі зашкальвалі. Мы толкам нават не пагаварылі. Я падзякаваў, вядома, і мы абмяняліся тэлефонамі.

Відэа нарабіла столькі шуму, што я разумеў: мяне наўрад ці пакінуць у спакоі, рана ці позна ўсё роўна знойдуць.

Я хаваўся, падпрацоўваў грузчыкам, каб зарабіць трохі грошай на пераезд, звязваўся з рознымі арганізацыямі і фондамі. У выніку я пераязджаў па праграме Каліноўскага.

Сеў у аўтобус — кіроўца правярае дакументы, убачыў гуманітарную візу і кажа: «Ад АМАПу хаваешся? Рыхтуйся, што развернуць на мяжы, мы чакаць не будзем, нам такія не патрэбныя». Пасля гэтага я ўсю дарогу быў як на іголках.

Але, на дзіва, беларускую мяжу прайшоў без пытанняў. На польскай даведаліся, што ў мяне гуманітарная віза, адразу прапанавалі дапамогу, выклікаць лекара, даставіць у бальніцу. Я не чакаў такой увагі і клопату.

Потым запрасілі прадстаўніка эміграцыйнай службы. Ён стаў пытацца, ці маю я пры сабе якія-небудзь доказы пераследу або рэпрэсій. Я паказаў яму відэа — ён быў у шоку! Аказваецца, там усе бачылі гэты ролік. Яны казалі: «Цяпер чакаем таксіста яшчэ», — смяецца Раман, калі прыгадвае першую сустрэчу з палякамі.

Раман вучыцца на моўных курсах ва ўніверсітэце Катавіцэ.

— Мне далі інтэрнат і стыпендыю. Умовамі і людзьмі вакол я вельмі задаволены. З 50 чалавек на нашым курсе 10 беларусаў. У іх гісторыі больш трагічныя, усе хлопцы прайшлі праз Акрэсціна ў першыя жнівеньскія дні, вельмі шмат перажылі.

Раман не ведае, як надоўга яму давядзецца затрымацца ў Польшчы, плануе сустрэцца са сваім збаўцам Жэнем, і ні пра што не шкадуе.

— Я б хацеў працягнуць навучанне па сваёй спецыяльнасці, таму пачаў размаўляць з польскай Федэрацыяй самба. Жыць і вучыцца ў Польшчы вельмі цікава. Але я хачу вярнуцца ў Беларусь. Я люблю сваю краіну, хачу там жыць і працаваць.

## ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# Насця — ты наш герой

**Ведаем, што «Новы Час» выпісвае студэнтка Анастасія Булыбенка. Таму яе сваякі, сябры і проста салідарныя з ёй людзі вырашылі перадаць прывітанне і словы падтрымкі за краты.**

«Сёння табе надзвычай не проста. Але ведай, што ўсё не дарма! Узнялася велізарная хваля салідарнасці з палітвязнямі. І мы думаем пра цябе ўвесь час, наша сонца. Хочам, каб не сумавала і верыла ў цябе і нас. Хутка вясна — і ўсё абавязкова зменіцца да лепшага! Прывітанне ад К.».

«Ёсць законы фізікі, усяго астатняга, але галоўнае — не забывай пра Правіла трох "НЕ". Сонца, ты заўсёды свяціла вельмі ярка, і краты гэтаму не перашкода. Дзяніс».

«Хачу сказаць табе вялікі дзякуй за ўсё, што ты зрабіла і робіш для нас ды нашай краіны. Дзякуй за натхненне, цёплыя словы, падтрымку і лісты! Памятай, што мы цябе вельмі любім і чакаем! З любоўю, Ніка».

«Колькі сонейка за краты не садзі, але свяціць яно ўсё роўна будзе! Дык вось, ты і ёсць гэта сонейка, і мы ўсе падтрымліваем цябе! Ты не адна, запомні гэта!»

«Ты — наш герой. Ты вялікая малайчынка, дзякуй табе за тое, што ты ёсць, бо ты не даеш нам здацца — і мы не здадзімся. Мы ўсе верым у тое, што ўсё будзе добра, і спрабуем наблізіць гэты момант як мага хутчэй. Саша, жаночы марш :)»

«Нас могуць пазбавіць волі, але не могуць адабраць у нас усмешку і магчымасць саграваць любоў і веру ў нашых сэрцах».

«Маё сонца! Ты — адкрыццё гэтага года. Вельмі ганаруся і рады нашаму знаёмству. Ты натхняеш сваёй устойлівасцю і ўпэўненасцю. Ты — наша золата. Я цябе вельмі люблю і моцна абдымаю. Упэўнена, што зусім хутка мы з табой, як і ў мінулы раз, будзем бясконца гуляць па вуліцах роднай краіны!»

«Мая родная дачушка! Ты вельмі моцная і смелая, я так ганаруся табой! У гэтыя цёмныя і неспакойныя часы ты так адважна захоўваеш сваё святло, не дазваляючы нікому ўсумніць цябе. Верце ў дабро і любоў, а ты дакладна ведаеш, што гэта самае галоўнае ў жыцці! Вельмі сумую, мядзведзік, і так моцна люблю!!! Моцна трымаю цябе за руку, заўсёды побач з табой, мой герой!!! Разам назаўсёды!»

«Асенька, мы табой ганарымся, любім цябе, захапляемся табой, ты самая моцная і мужная дзяўчынка ў свеце. Ведай: каго вельмі чакаюць, той і з "пекла вернецца"! Мы цябе вельмі чакаем... Каця К.».

«Мы з табой разам ляпілі шашкі з хлеба і мылі адна адной галаву ў Баранавічах. Ты здаешся вельмі далікатнай, але на самай справе ў табе прыхаваная тая сіла, якую немагчыма перамагчы. Упэўненая, што перамога будзе на тваім баку, і ты паставіш шах і мат!»

«Сіла ў праўдзе, а праўда з намі. Дарагая Ася, мы ўсім сэрцам і душой тут, побач з табой. Хутка Сонца ўзыдзе. З любоўю, Мікіта і Кірыл».

«Не заўважая злыя твары/ Шукай! У снах юнацтва свае мары! Сябар Г.»

«Нас шмат — і мы разам! Мы побач з табой, трымайся! Хутка вясна»...

# Беражы сябе, родны!

**Гэты ліст даслала ў рэдакцыю жонка палітвязня Кіма Самусенкі. Паколькі ліставанне з мужам ідзе марудна, яна спадзяецца, што ён прачытае гэты ліст у газеце, якую яму выпісалі.**

«Каханы! У нас з Ладай усё добра, вельмі-вельмі кахаем і чакаем цябе! Мы ганарымся табой, заўсёды гатовыя падтрымаць цябе ў цяжкіх абставінах! Упэўнена, што ўсе нашы сямейныя планы і дамоўленасці будуць выкананыя, нягледзячы ні на што, проста крыху пазней :) У нас з табой усё ок :)

Лада спрабуе рабіць першыя крокі і стаяць самастойна без апоры. Ведае ўжо каля 5 слоў.

Са здароўем у мяне, Лады і маіх бацькоў усё добра. Тата адаптуецца ў рамках нормы, я таксама. Бацькі перадаюць табе прывітанне і шчырыя словы падтрымкі!

Віншую з усімі сямейнымі датамі цябе — надыходзячымі і якія прайшлі ў гэтым месяцы :) Памятай, што я заўсёды побач з табой душой і сэрцам, нават калі геаграфічна мы далёка адзін ад аднаго!

Я тебе дуже-дуже кохаю! Пишаюся тобою!

Беражы сябе, родны!

Тыя, хто любяць, — жонка Леся і дачка Лада».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не вельмі заўважнае, але важнае

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Вясна — на парозе. Ужо на наступны тыдзень абяцаюць цвёрды «плюс» па тэмпературы на вуліцы. Па кроплі — але надыходзіць час абуджэння.**

Прыкладна тое ж самае можна сказаць пра сітуацыю ў краіне. Адной з важных падзеяў тыдня стала сустрэча Лукашэнкі і Пуціна ў Сочы. З таго, што перадаюць пра гэтую сустрэчу ў СМІ нават журналісты «крамлёўскага пулу», бачна — гэтая сустрэча скончылася безвынікова. Пуцін і Лукашэнка, як зазвычай, паразмаўлялі. Лукашэнка паспрабаваў зноў «прадаць» Пуціну «інтэграцыйныя карты» (прычым, заблытаўся, колькі іх існуе, — раней пісалі пра максімум 31 карту, ён казаў пра 33). Пуцін на гэты конт не казаў нічога, — то-бок, «прагіб не залічаны».

Нічога не было сказана пра расійскі крэдыт у 3 мільярды долараў, які, нібыта, павінны былі абмяркоўваць два кіраўніка. Нічога не паведамлялася і пра абмеркаванне выканання абяцанняў Лукашэнкі — пра беларускую канстытуцыйную рэформу і адыход ад улады беларускага пакуль што кіраўніка.

Узнікае ўражанне, што Пуцін вырашыў узяць паўзу. Паводле трапнага выслоўя спецыяльнага карэспандэнта расійскага «Камерсанта» Андрэя Калеснікава, «не адбылося нічога такога, з-за чаго беларускаму народу варта было б радавацца ці непакоіцца». Сапраўды так: з аднаго боку, Пуцін не дэклараваў безумоўнай падтрымкі Лукашэнку, з іншага — не «павёўся» і на прамовы пра «інтэграцыйныя карты». Карацей, Крэмль сапраўды думае, што рабіць з Лукашэнкам.

Другая падзея, што выклікала пэўны рэзананс, — заява Святланы Ціханоўскай у інтэрв'ю замежным СМІ. Яна выказалася пра тое, што еўрапейскія санкцыі ў дачыненні да Лукашэнкі і яго набліжаных, недастатковыя і, нібыта, Лукашэнка з іх смяецца.

Не варта асабліва «наязджаць» на лідарку Беларусі, што знаходзіцца за мяжой. Проста яна не бачыць таго, што адбываецца менавіта ўнутры краіны. А насамрэч, санкцыі дзейнічаюць, хоць і апасродкавана. Кампаніі, якія працуюць з «набліжанымі да Лукашэнкі» бізнесамі, імкнуцца дыстанцыявацца ад сваіх «партнёраў» ужо цяпер. Справа ў тым, што калі супраць кампаній падсанкцыйнага бізнесоўца ўсё ж увядуць абмежаванні, то немагчымасць выканання кантрактаў з гэтай прычыны пацягне буйныя штрафы. Таму заходнія кампаніі страхуюцца.



Фота НЧ

Брытанская кампанія KAB Seating пацвердзіла, што не будзе пастаўляць сядзенні свайму партнёру — Мінскаму трактарнаму заводу да таго часу, пакуль у Беларусі не зменіцца бягучая палітычная сітуацыя. KAB Seating — сусветны лідар у вытворчасці працоўных сядзенняў для розных тыпаў транспартных сродкаў і ўваходзіць у міжнародную групу камерцыйных аўтамабіляў (CVG).

У Маладзечне на заводзе «Амкадор» «набліжанага да цела» Аляксандра Шакуціна ўжо дакладна няма паставак з завода фінскай кампаніі Kesla. Іх дэталі патрабуюцца для кабін лесапрамысловага комплексу, які пастаўляецца ў Карэлію. Завод пакуль працуе на запасах камплектуючых, але яны хутка скончацца. І паўстане праблема: альбо шукаць альтэрнатыўных пастаўшчыкоў вялікіх і складаных вузлоў, — а гэта няпроста, — альбо пераарыентавацца на вытворчасць чагосьці іншага.

У дзень, калі Лукашэнка сустракаўся з Пуціным, у Бруселі сабралася Рада міністраў замежных спраў краін ЕС. Сярод іншага абмяркоўвалася магчымасць прыняцця чацвёртага пакета санкцый у дачыненні да кіраўніцтва Беларусі. У новым спісе, які рыхтуецца для зацвярджэння, — 165 імёнаў у дадатак да тых 90 фізічных і юрыдычных асобаў, якія ўжо ўнесеныя ў абмежавальныя спісы. Але, як мы бачым па рэакцыі з Беларусі, важныя, насамрэч, не імёны, а прадпрыемствы, бізнес. Можа быць, таму чацвёрты пакет санкцый зацягнуўся з прыняццем.

Больш рашуча дзейнічаюць ЗША. У сувязі з прысудам журналісткам Кацярыне Андрэевай і Дар'і Чульцовай (яны атрымалі два гады калоніі фактычна за тое, што выконвалі сваю працу), Злучаныя Штаты ўвялі санкцыі супраць 43 грамадзян Беларусі. Як паведамілі на сайце Дзярждэпа, гаворка ідзе пра «высокапастаўленых афіцыйных асобаў у сферы юстыцыі, кіраўнікоў праваахоўных органаў, і шараговых супрацоўнікаў, якія затрымлівалі і ўжывалі гвалт да мірных дэманстрантаў, суддзяў і пракурораў, якія ўдзельнічалі ў прызначэнні турэмных тэрмінаў мірным пратэстоўцам і журналістам, а таксама кіраўнікоў у сферы адукацыі, якія пагражалі студэнтам за ўдзел у мірных пратэстах». А ўсяго ў санкцыйным спісе ўжо 109 чалавек.

Так, карная сістэма Беларусі працягвае працаваць. На мінулым тыдні пачаліся яшчэ два гучныя працэсы — гэта працэс па справе «Белгазпрамбанка», удзельнікам якога з'яўляецца прэтэндэнт на прэзідэнта Віктар Бабарыка, і працэс «Сарокіна — Барысевіч». Апошні нагадвае працэс «Андрэевай — Чульцовай», бо журналістку TUT.BY Кацярыну Барысевіч судзяць за тое ж самае — за адданасць прафесіі, за тое, што зняпраўдзіла хлуслівыя звесткі ўлады пра Рамана Бандарэнку — нібыта той быў п'яны ў час канфлікту, а забойства яго не «палітычнае», а «побытавае».

Відавочна, абодва гэтыя працэсы — сапраўды палітычныя. Няма сумневаў, што ў такім выпадку, як і ў выпадку Андрэевай і Чульцовай, суд вынесе такі вырак, які запатрабуе пракурор. Нездарма ж суд над Сарокіным і Барысевіч зрабілі закрытым.

Але, падаецца, сітуацыя ў адной асобна ўзятай краіне пераходзіць мяжу цярпення астатняга свету. У хуткім часе Рада ААН па правах чалавека падыме пытанне пра стварэнне механізму для расследавання парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі. А гэта значыць, што тыя, хто выносяць цяпер палітычныя прысуды, самі стануць фігурантамі расследавання, прычым, больш аўтарытэтнага і з цікавейшымі наступствамі. Яшчэ ніхто не адбіраў у ААН права ствараць Міжнародны крымінальны трыбунал для судовага пераследу асоб, адказных за генацыд і іншыя сур'ёзныя парушэнні міжнароднага гуманітарнага права. Такія трыбуналы апошнім часам былі створаныя па генацыдзе ў Руандзе і па падзеях у Югаславіі, што нам больш вядома.

Такім чынам, тыя, хто цяпер шчыруе на полі палітычна матываваных прысудаў, самі могуць атрымаць «квіток у Гаагу».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Кацярына Барысевіч



**У Мінску працягваецца суд па справе Кацярыны Барысевіч і Арцёма Сарокіна. Іх абвінавачваюць у выдаванні медычнай таямніцы, якая складалася ў тым, што ў момант паступлення ў бальніцу Раман Бандарэнка быў цвярозы.**

Родныя хлопца далі дазвол на публікацыю гэтых звестак. Тым не менш, журналістка TUT.BY і ўрач БХМД сталі абвінавачванымі па крымінальным артыкуле. Чацвёрты месяц яны знаходзяцца ў СІЗА. Суд прыняў рашэнне разглядаць іх справу ў закрытым рэжыме.

У суд сведкай выклікалі сястру Рамана Бандарэнкі Вольгу. Яна падкрэслівае, што ўвесь час, пакуль Раман знаходзіўся ў бальніцы, сваякі публічна распавядалі пра яго стан. Пасля, калі з'явілася інфармацыя, што нібыта ён быў п'яны, сям'я Рамана дала згоду на публікацыю даных лабараторных даследаванняў. У іх паказвалася, што ў крыві Рамана не было выяўлена этанолу.

Крымінальную справу ў дачыненні да Кацярыны Барысевіч і Арцёма Сарокіна распачалі 19 лістапада 2020 года. Іх абвінавацілі ў выдаванні медыцынскай таямніцы, што, на думку Генпракуратуры, пацягнула цяжкія наступствы. Максімальнае пакаранне па гэтым артыкуле — тры гады пазбаўлення волі.

## Леанід Судаленка



**Справу праваабаронца перадалі з Гомельскага абласнога Следчага камітэта ў Цэнтральны апарат СК у Мінску. «Рыхтуецца нешта незвычайнае», — лічыць палітвязень.**

Судаленка ўтрымліваецца пад вартай у гомельскім СІЗА №3 ужо больш за месяц — з 18 студзеня. Яго абвінавачваюць у фінансаванні і арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак (ч.1 і 2 арт. 342 Крымінальнага кодэкса). Праваабаронцу пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Леанід распавядае, што «па прычыне абсурднасці выстаўленых абвінавачванняў» адмовіўся сведчыць супраць сябе і супрацоўнічаць са следствам.

Судаленка — старшыня гомельскага аддзялення ПЦ «Вясна», праваабаронца з 20-гадовым стажам аказання дапамогі ў аднаўленні парушаных правоў грамадзян. Ён дапамагаў у падрыхтоўцы і накіраванні шматлікіх індывідуальных зваротаў у Камітэт па правах чалавека ААН.

Праваабаронцу затрымалі 18 студзеня па дарозе на офіс у межах крымінальнай справы, распачатай па арт. 342 Крымінальнага кодэкса («Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак») і змясцілі ў ІЧУ. Пазней яму прад'явілі абвінавачанне па ч.1 і ч.2 арт. 342 Крымінальнага кодэкса, а 21 студзеня перавялі ў СІЗА №3.

## Мікіта Залатароў



**У Беларусі, падобна, з'явіўся самы малады палітвязень. 22 лютага суддзя Чыгуначнага раёна Гомеля Дзмітрый Дэбой пакараў 16-гадовага Мікіту Залатарова 5 гадамі выхаваўчай калоніі.**

Разам з Залатаровым асудзілі Леаніда Кавалёва — 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму і Дзмітрыя Карнеева — 8 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. Іх вінавацілі ў масавых беспарадках, гвалце ў дачыненні да міліцыі, у незаконных дзеяннях з гаручымі рэчывамі («кактэйлі Молатава»), а Леаніда Кавалёва — яшчэ і ва «ўцягванні непаўналетняга ў супрацьпраўныя паводзіны». Усе трое, паводле слоў пракурора, адрэагавалі на заклікі з Telegram-каналаў і ўзялі ўдзел у «масавых беспарадках», якія суправаджаліся «пагромамі, падпаламі, узброеным супрацівам прадстаўнікам улады».

Але ў Гомелі не было ані пагромаў, ані падпалаў. Адвакаты зазначалі, што ў дзеяннях іх падабаронных няма складу злачынства.

16-гадовы Мікіта Залатароў хварэе на эпілепсію. Яго бацька расказваў журналістам, што Мікіту білі ў міліцыі і СІЗА. На гэта адвакат падаваў скаргу, але органы «не знайшлі» складу злачынства. Мікіта заявіў, што яго білі не толькі ў жніўні, але і 29 снежня ў гомельскім СІЗА. Таксама падлетак сказаў, што ў СІЗА яму не даюць неабходных лекаў. «Канваір сказаў: "Ты палітычны, здохнеш"», — распавёў Мікіта Залатароў.

# «У месцах зняволення лягчэй спісаць забітага асуджанага, чым службовага сабаку»

Сяргей ПУЛЬША

**У цяперашні час стыль адміністрацый усіх папраўчых устаноў — стварыць максімальныя нязручнасці чалавеку, які быў у іх падпарадкаванні. Калонія ў Горках і палітвязень, сузаснавальнік арганізацыі «Платформа» Міхаіл Жамчужны — не выключэнне.**




Ужо ў 7 гадзінаў раніцы яго пад канвоем даставілі на чыгуначную станцыю ў Горках і пасадзілі на цягнік да Воршы — каб паплечнікі, якія прыехалі яго сустрэць, не здолелі гэта зрабіць.

Таму ўсім зацікаўленым — праваабаронцам, журналістам і сябрам Жамчужнага, — давялося даганяць цягнік і сустракаць спадара Міхаіла на аршанскім вакзале. А ўжо адтуль — у Віцебск, дзе жыве Жамчужны. Па дарозе НЧ паразмаўляў з палітвязнем.

***— Вы, напэўна, адзіны з вязняў, які так і не пайшоў у атрад у калоніі ў Горках, і ўвесь тэрмін адседзелі там у ПКТ і ШІЗА. Гэтая сітуацыя даволі нетыповая...***

— Я прайшоў па трох калоніях і пяці турмах. Я выдатна сябе адчуваў паўтара года ў Віцебскім СІЗА падчас следства — там былі сяброўскія адносіны сярод зняволеных, я там шмат каму дапамагаў. Пасля прысуду спачатку я трапіў у калонію № 14 у Навасадах — там у мяне таксама былі нармальныя адносіны са зняволенымі. Там былі добрыя ўмовы — і спорт, і магчымасці для вернікаў, і шыкоўны клуб, і людзі сядзелі даволі развітыя, было з кім пагаварыць.

А потым я дастаткова жорстка паявў сябе ў адносінах да адміністрацыі — выкрыў крадзяжы медыкаментаў і прадуктаў са сталовай супрацоўнікамі калоніі. Я звярнуўся ва ўпраўленне ўласнай бяспекі, была вялікая праверка, а супрацоўнікі той калоніі фактычна жылі за кошт зняволеных: не толькі раскрадалі медыкаменты і ежу, ім калонія аплачвала нават камунальныя плацяжы. У сувязі з гэтым ад мяне паспрабавалі пазбавіцца. Спачатку адправілі справу ў суд, каб мяне перавялі ў турму. Але мы выйгралі гэты суд, і мяне перавялі ў калонію ў Ваўкавыск.

У Ваўкавыску ў першы ж дзень мяне загналі ў каранцін з «блатнымі», і яны пачалі мяне «выхоўваць». Але з «выхаваннем» нічога не атрымалася, і адміністрацыя калоніі мяне таксама прыбрала — у Горкі.

У Горках я сапраўды толькі два дні пабыў ва ўмовах калоніі — мне давялося запатрабаваць бяспечныя ўмовы ўтрымання, і я заняў месца ў адзіночнай камеры памяшкання камернага тыпу. І зусім пра гэта не шкадую, таму што гэтая калонія прызначаная для таго, каб з усёй Беларусі збіраць туды непажаданых для ўлады людзей, палітычных зняволеных, і зламаць іх там.

На сцяне камеры, куды нас пры пераводзе першапачаткова змясцілі, было напісана, што ў гэтай калоніі «нас забіваюць знутры». Тут чакаць ад «спецкантынгенту», які шчыльна супрацоўнічаў з адміністрацыяй калоніі, можна было чаго заўгодна. У нас у месцах зняволення лягчэй спісаць забітага асуджанага, чым службовага сабаку.

Таму са жніўня 2017 года я быў у адзіночнай камеры. Але мяне яны не зламалі.

***— Вы сказалі, што гэтая калонія прызначаная для «палітычных». Там нейкія спецыфічныя ўмовы?***

— Гэта не толькі мая высновa. Яе я вывеў з перапіскі з асуджанымі. У прыватнасці, Мікалай Дзядок мне пісаў, што ў гэтай калоніі жорстка ставяцца да палітвязняў, ён мяне пра гэта папярэдзіў. На першай жа сустрэчы з начальнікам калоніі, палкоўнікам Лапаткам, ён мне адразу сказаў, нават асабліва не разбіраючыся, хто я такі, што яму тэлефанавалі з Віцебска, з КДБ, і паведамілі, што я здраднік, што я здрадзіў Беларусі, і што ў калоніі мяне задушаць. Гэта было сказана ў прысутнасці ўсіх яго намеснікаў, і, натуральна, усе яго намеснікі на гэта зрэагавалі. Праз зняволеных, што супрацоўнічалі з адміністрацыяй, мяне і паспрабавалі зламіць, правакавалі, ціснулі.

Напрыклад, «наглядчык за калоніяй» нібыта атрымаў цыдулку з калоніі ў Ваўкавыску, што я, нібыта, браў са зняволеных рэчы за тое, што дапамагаў ім пісаць скаргі і абараняць свае правы. Такога ніколі не было, відавочна, што гэтая цыдула была складзеная адміністрацыяй. Я запатрабаваў прадставіць доказы. Ціск быў даволі жорсткі, і я вымушаны быў перамясціцца ў адзіночную камеру.

Іронія лёсу: гэтага «наглядчыка за калоніяй» потым перавялі ў Ваўкавыск, адкуль, нібыта, ён атрымаў кампраметуючую мяне цыдулу. Там даведаліся, што ён ад іх імя падсунуў фальшыўку, і даволі сур'ёзна, наколькі я ведаю, пакаралі за гэтую справу.

***— ШІЗА, ПКТ, «адзіночка» — гэта вельмі складаныя ўмовы. Як вы сябе падтрымлівалі, што вам не давала ўпасці духам?***

— У ШІЗА я двойчы знаходзіўся па сто сутак запар, і ўмовы там, канешне, жорсткія, асабліва ўзімку. Спаць там можна было толькі пасля прысяданняў — там настолькі нізкія тэмпературы, што, калі адключылі ацяпленне, крапля вады на кране замярзала. А з адзення адбіралі амаль усё — не давалі ніякіх уцепленых рэчаў. Я ўпершыню ў жыцці адчуў, што значыць «дрыжэць усім целам». 45 хвілін прысяданняў — і потым можна гадзіну паспаць, пакуль арганізм не зразумее, што яго «падманулі». Праз гадзіну прачынаешся — дрыжыш ад холаду. Зноў пачынаеш прысядаць, рабіць практыкаванні, — потым зноў гадзіна сну... З 9 вечара да 5 раніцы гэтым спортам і займаешся.

Ну, я па жыцці спартсмен, да гэтага часу лічу сябе чальцом нацыянальнай зборнай па дэльтапланерызму, паколькі ніхто мяне адтуль не выганяў. Таму фізкультура — звыклы занятак.

***— А акрамя спорту? Міхаіл Пастухоў паведамляў нам, што вы ў калоніі займаліся навуковымі распрацоўкамі — нешта звязанае з плазмай?***

— Вядома, умовы для навуковай дзейнасці ў калоніі ніякія, — не трымаюць там у бібліятэцы навуковай літаратуры. Я карыстаўся ў асноўным сваёй памяццю. Вельмі дапамог мне часопіс, які мне выпісалі праваабаронцы — амерыканскі часопіс «Папулярная механіка». Аказалася, што тое, што я ў Беларусі распрацоўваў у 1997-м, замежнікі да гэтага дайшлі толькі ў 2017-м. Я зразумеў, што тыя распрацоўкі актуальныя да цяперашняга часу — я займаўся новымі тыпамі энергетыкі, вадароднай энергетыкай, я думаю, самай перспектыўнай у цяперашні час. Яшчэ ў 2000-я гады дэманстраваў свае ўстаноўкі па раскладанні вады на вадарод і кісларод, і на падставе гэтых распрацовак я напісаў у калоніі манаграфію, — што важна, на роднай мове. Я яе, праўда, чатыры разы перапісваў, але вынік мне, прынамсі, спадабаўся. Цяпер яе трэба апублікаваць.

А яшчэ я напісаў дапаможнік палётаў на дэльтаплане, каб захаваць жыцці нашым авантурыстам паветра. Я з 1992 года лётаю, і назіраў шмат катастроф, траўмаў, смерцяў. У Беларусі мы закопвалі па адным пілоце кожны год. Таму я вырашыў выдаць такую кніжку, каб паспрабаваць захаваць жыцці экстрэмалаў, якія будуць займацца гэтым, на маю думку, самым лепшым відам спорту.

Уявіце сабе — узляцець з пагорка, набраць вышыню ў 2000 метраў, і лунаць там столькі, колькі хопіць здароўя, кіраваць апаратам. І сесці «ў тыя ж самыя тэпцікі», адкуль узляцеў. Адчуваеш сябе ў небе свабодна, шчаслівa, і з дзвюх тысяч метраў разумееш, хто ты такі на гэтай зямлі — калі нават бачная яе крывізна.

Дарэчы, на вышыні прыкладна 1100 метраў ясна бачны пласт, дзе збіраюцца ўсе адкіды нашых вытворчасцяў — чорны гарызонт, усе дымы, якія збіраюцца з заводаў, канцэнтруюцца там. Уражанне жудаснае — разумееш, што экрануецца чыстае паветра, разумееш, чаму адбываецца парніковы эфект... Дый наогул, зверху відаць, як мы загаджваем прыроду.

Калі я лётаў пад Наваполацкам у раёне шклозавода, ён сваімі выкідамі пакрыў шклом найбліжэйшы лес. Нават летам, калі лётаеш над гэтымі дрэвамі, яны выглядаюць шклянымі, блішчаць, як быццам у інеі. А гэта ўсё — у лёгкіх людзей, якія там жывуць і працуюць...

***— Калі вы выходзілі з калоніі, у вас забралі нейкія паперы і дакументы. Навуковых прац гэта не закранула?***

— Якраз, на жаль, закранула. Абедзве кнігі былі канфіскаваныя без усякай на тое падставы. Цяпер палітыка супрацоўнікаў калоніі — усё рабіць на шкоду асуджаным, каб яны адчувалі сябе як мага горш. Знішчаюць дакументы, каб перашкодзіць прававаой абароне, у мяне вось гэтыя дзве кнігі канфіскавалі... Добра, што яны ў мяне засталіся ў галаве, і я іх вельмі хутка адназўлю.

І, вядома, былі знішчаныя тыя дакументы, якія апраўдваюць мяне па маім абвінавачванні, каб перашкодзіць майму апраўданню і рэабілітацыі ў будучыні. Тым не менш, я іх дубляваў, і я адаптаваны да ўмоў агрэсіўнага навакольнага асяроддзя ў калоніі. І можна сказаць, што выйшаў практычна без стратаў.

***— Шмат людзей вам пісала ў калонію?***

— Пісала мне шмат людзей — нават з ЗША, з Чэхіі, нашы беларусы ў Бельгіі мне пісалі. У месяц атрымліваў да сотні лістоў. На ўсе лісты, якія мне прыходзілі, я адказваў абавязкова, ніводнага ліста без адказу не пакідаў. Перапіска была досыць інтэнсіўная — да канца 2020 года. Потым — як абсекла. Мне прыйшлі лічаныя лісты. Я ведаю, што мне даволі актыўна пісаў Міхаіл Іванавіч Пастухоў, са студзеня ён даслаў мне чатыры лісты. Я адправіў яму ў адказ пяць лістоў — і ён не атрымаў ніводнага.

Такім чынам адбываецца разбурэнне сацыяльных сувязяў. У маіх рэспандэнтаў ствараецца ўражанне, што я не хачу з імі мець зносіны. Шмат людзей трапляецца на гэта, і пісаць перастаюць. Дарэчы, гэта тычылася не толькі мяне — усе ў калоніі ў апошні час скардзіліся, што з перапіскай стала вельмі цяжка.

Адзінае, што нас ратавала, — гэта газета «Новы Час». Усе навіны мы так ці інакш дазнаваліся праз яе. Здымаю капялюш перад дзяўчатамі, якія працуюць у гэтай газеце. Усе асуджаныя вельмі зацікаўленыя ў гэтым выданні, і нават зрабілі мне замовы, каб я іх падпісваў.

Прыходзілі раней «Белгазета», «Народная Воля»... Я ўжо згадваў часопіс «Папулярная механіка». У мяне бралі шмат газет, па іх фактычна чарга стаяла. Вялікай папулярнасцю карыстаецца часопіс «Наша Гісторыя» — вельмі цікавы, і я сам, і шмат зняволеных багата даведаліся новага адтуль. На жаль, шмат газет больш да нас не даходзіла, яны спынілі выхад, адзінае выданне, што засталося, — «Новы Час».

Я нават падазраю, што гэтую газету ўлады пакінулі спецыяльна, каб адсочваць публікацыі «нязгодных». Як у свой час пры камуністах пакінулі «Літаратурную газету», дзе друкаваліся розныя дысідэнты.

***— Як вы бачыце цяперашнюю беларускую сітуацыю? Як яна бачная з калоніі?***

— Асноўнае, што я бачу, чым я ўражаны, — гэта салідарнасць беларусаў, якія без асаблівага ўдзелу апазіцыі збіраюцца па дварах, п'юць гарбату з малінай, удзельнічаюць у ланцугах салідарнасці. Я бачу тут вельмі добрую перспектыву стварэння самакіравання, самавызначэння, адхілення ад дыктатуры ўлады на мясцовым узроўні.

У нас развітыя прасунутыя людзі, у нас выдатныя навукоўцы, і застой, які правакуецца рэжымам Лукашэнкі, адкідвае краіну назад — як у эканамічным, так і ў тэхнічным, навуковым плане. Трэба змагацца з гэтым застоем, каб хаця б будучым пакаленням давялося жыць у іншых умовах.

Энтузіязм у народа Беларусі вельмі вялікі: мяркуючы з пратэстаў, якія не спыняюцца са жніўня мінулага года. Я бачу вялікую будучыню нашай краіны. Будучыня за намі — я больш чым упэўнены.



# «Веру ў перамогу, таму што ў нас немагчыма адняць салідарнасць»

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1



Цёплымі ў гэтым зняволенні былі хіба што адносіны паміж арыштанткамі. У камеры ж панавалі жудасны холад і вільгаць, па «кармушцы» і сценах сцякалі кроплі кандэнсату.

— Сястра зняла і павесіла на ноч майку, а раніцай яна ўся была вільготная — яна не магла яе надзець.

Дзяўчаты запатрабавалі паляпшэння ўмоваў, але замест гэтага прыйшла праверка, і стала яшчэ горш: забралі кіпяцільнікі, забаранілі сядзець на ложках з матрацам — яго трэба было скручваць.

— У такой абстаноўцы вельмі важна было падтрымліваць адна адну, і ў беларусаў салідарнасці не адняць, — зазначае Юлія.

Нягледзячы на часам не самае прыязнае стаўленне аховы да арыштантак, яна не трымае на іх зла.

— Некаторыя казалі, што імі трэба пагарджаць. Але калі ты там сядзіш, не хочацца пастаянна адчуваць нянавісць, ты і так знаходзішся ў дастаткова цяжкіх абставінах. Таму стараліся нават з імі знаходзіць агульную мову.

Хаця атрымлівалася гэта не заўжды. Па назіраннях Юліі, самыя жорсткія супрацоўнікі — у ЦІП на Акрэсціна. Яна нават выказвае здагадку, што іх адмыслова падбіраюць для такой працы.

— Яны нібыта з задавальненнем робяць табе брыдасці. Калі ў іншых месцах людзі саромеліся, спрабавалі сказаць, што гэта не яны, ім загадалі, то ў ЦІП гэта не так. Нармальных людзей туды не бяруць.

### За патрабаванне чаю і прагулак — карцар

Трэці раз Юлію Міхайлаву затрымалі 15 лістапада на Плошчы Перамен, дзе адбылася зачыстка народнага мемарыяла Рамана Бандарэнкі.

— Для мяне гэта стала самым моцным расчараваннем адносна рэжыму, бо прыйсці на месца, дзе вы забілі хлопца, і пачаць забіраць людзей — гэта немагчыма. Да нас падышоў Балаба (камандзір мінскага АМАПа. — НЧ) і сказаў прайсці ў службовы транспарт. Гаварыў, што нашы даныя проста перапішуць у РУУС — і нас адпусцяць.

У выніку нікога, канешне ж, не адпусцілі, і Юлія атрымала чарговыя 15 сутак, якія яе павезлі адбываць у Магілёў.

— Там — «савок», — апісвае свае ўражанні дзяўчына. — Яны баяцца зрабіць нешта добрае, над імі татальны кантроль.

У Магілёве Юлію пасадзілі ў карцар. Па яе словах, арыштанткам давалі ўсяго па два сантыметры чаю, вадкасці было вельмі мала, не было прагулак. А многія дзяўчаты пры гэтым хварэлі на каранавірус. Тады яны напісалі на паперы «Патрабуем чаю і прагулак» і прышпілілі гэтае патрабаванне да ложка. Праверка, калі ўбачыла гэта, толькі пасмяялася.

— Тады я ўзяла белы аркуш паперы і намалявала на ім чырвоную паласу — і падклеіла. Праз два дні зноў прыйшла праверка, убачыла і сказала, што мне канец. Яны спыталі: «Ты хоць разумееш, за што?» Я сказала, што не разумею, і ўвогуле не разумею, чаму я тут сяджу. Тады мяне прыгразілі адправіць на Акрэсціна, але ў выніку адправілі ў карцар.

Яго Юлія апісвае як «аднамесны нумар», дзе не было «жахліва». Яна нават узрадавалася магчымасці пабыць адной, бо ўжо стамілася ад пастаяннага знаходжання з іншымі людзьмі.

### Пагражалі згвалтаваць і вырваць пласкагубцамі пазногці

— Чацвёрты раз мне даўся лягчэй за ўсё, — гаворыць суразмоўца.

Забралі яе 31 студзеня ў цэнтры Мінска: яна з сяброўкай набыла ў Чырвоным касцёле лампадку і ішла з ёй. У той дзень па тэлеграм-чатах праляцела прапанова гуляць уздоўж праспекта Незалежнасці ў медыцынскіх масках і з пакетамі з крамы «Суседзі» ў руках. У Юліі з сяброўкай не было ні таго, ні другога, але іх затрымалі. Як і шмат іншых абсалютна выпадковых людзей.

Дзяўчат адвезлі ў ЦІП. Праз 72 гадзіны пасля затрымання яны сталі патрабаваць, каб іх адпусцілі. Але спачатку іх перавялі ў камеру, дзе ўжо сядзелі тры жанчыны з нізкім сацыяльным статусам, а ўвечары загадалі выходзіць.

— Мая сяброўка — юрыст. І яна сказала, што зараз паверыць у закон. Мы выходзім з ЦІПа на вуліцу. Я іду першая і бачу белы бус, з якога вылазяць двое мужчын у балаклавах і з дубінкамі. Я паварочваюся — а мая сяброўка ідзе яшчэ такая шчаслівая, і мне хочацца крыкнуць: «Стой, не ідзі сюды, вяртайся!»

Але іх усё ж завялі ў бус і павезлі ў Ленінскае РУУС, дзе дзяўчаты сядзелі 5 гадзін, пасля чаго іх зноў даставілі на Акрэсціна, толькі ўжо ў ІЧУ.

Яшчэ да гэтага неяк дзяўчат вывелі на праверку і паставілі да сцяны, загадаўшы пакласці на яе рукі. У Юліі быў бел-чырвона-белы манікюр.

— Там быў чалавек, які прадставіўся намеснікам начальніка ЦІП Сазановічам, паглядзеў на мае пазногці і сказаў, што зараз вырве іх пласкагубцамі.

Другі непрыемны выпадак здарыўся, калі Юлія памыла бялізну і павесіла сушыць. Так атрымалася, што яна была белых і чырвоных колераў.

— З батарэі ў камеры капала, і пад ёй стаяла каробачка. У нас было 30–40 хвілін, каб паспаць, пакуль вада набярэцца, потым пайсці яе выліць, паставіць каробачку на месца і зноў легчы спаць. Мы так па чарзе хадзілі. Я спала ля батарэі, няўдала павярнулася, і ў мяне намокла кофта. Я пабудзіла сваю дзяўчынку, пераапранулася ў сухое, мы сядзім сонныя, і тут адкрываецца «вочка», і мы чуем: «Калі вы зараз не прыбераце свае майткі, раніцай я іх вам скармлю».

Праз двое сутак знаходжання ў ІЧУ адбыўся суд. Па двух артыкулах — за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванне — Юліі далі 15 сутак. На яе сяброўку яшчэ склалі пратакол за хуліганства.

Дзяўчат пасля суда зноў перавялі ў ЦІП, дзе ў камеры на чатырох чалавек іх было восем, і спаць давялося на падлозе. Матрацаў у «палітычных» не было. Двойчы ім не перадалі перадачы.

За спробу адстаяць свае правы ў адзін з дзён дзяўчат ажно на дзве гадзіны вывелі на вуліцу. За гэты час у іх камеры падлогу залілі хлоркай.

— Але ў гэтым быў і свой плюс, бо ў нас поўзалі макрыцы, а пасля гэтага яны зніклі, — зазначае Юлія.

У камеры не хапала кіслароду, і дзяўчаты прывязалі да акна вяроўку, якой можна было рэгуляваць шчыліну і паступленне паветра. Але аднойчы ў шчыліне захрас лядзяш, акно зачыніць не ўдавалася, таму было холадна. Зняволеныя спрабавалі выправіць сітуацыю. Гэта ўбачыў адзін з супрацоўнікаў — калі Юлія правільна запомніла яго імя, Яўген Урублеўскі. Па яе словах, ён у нецэнзурнай форме прыгразіў дзяўчатам згвалтаваннем, калі яны не зачыняць акно. Пасля гэты ж чалавек груба абыходзіўся з журналісткай Любоўю Лунёвай, і праз гэта на яго напісалі скаргу.

— Потым ужо ўсё было спакойна, адзінае, калі мы папрасілі туалетную паперу ў яго змену, ён сказаў, што не прынясе, бо апошні раз, калі ён прыносіў паперу, мы напісалі на яго скаргу.

### «Мы вартыя лепшай будучыні»

Хоць Юлія і захоўвае аптымізм, арышты не прайшлі для яе бясследна. Яна таксама перахварэла на каронавірус, акрамя фізічнага стану пагоршыўся і псіхалагічны. Але яна перакананая, што зняволенне не спрыяе таму, каб людзі падалі духам і адступаліся ад сваіх поглядаў. Наадварот, гэта толькі яшчэ больш злуе і надае імпэту рабіць усё, каб такой несправядлівасці больш не было.

— Я верніца, і я перакананая, што Бог стварыў людзей для таго, каб яны любілі, атрымлівалі асалоду ад жыцця. І калі я бачу нейкія моманты несправядлівасці, мне не хочацца, каб так было, — тлумачыць яна сваю пазіцыю.

Выпрабаванні, праз якія прайшла Юлія Міхайлава за апошнія паўгода, надалі ёй мэтанакіраванасці. Таксама яна ўбачыла, на якія подласці могуць быць здольныя людзі дзеля захавання свайго дабрабыту. А яшчэ — палюбіла самоту і цішыню.

Самым цяжкім за гэты час для яе было ўсведамляць, што супрацоўнікі сістэмы — жывыя людзі, у якіх ёсць сем'і і тыя, каго яны любяць; прымаць тое, што людзі могуць паступацца сваімі прынцыпамі дзеля працы.

За апошнія месяцы Юлія плакала некалькі разоў — часцей гэта былі слёзы радасці ад салідарнасці, якую яна бачыла. Напрыклад, калі яна выходзіла пасля сутак, для яе ладзілі вечарынкі, спявалі песні, прыносілі падарункі. Але часцей за ўсё на твары дзяўчыны грае ўсмешка — нават у такіх невясёлых сітуацыях, як суд.

— Я ішла на суд (пасля затрымання на Плошчы Перамен. — НЧ) і разумела, што гэта будзе цырк. Ну што я кепскага зрабіла — свечку паставіла? Я здагадвалася, што суддзя будзе казаць, таму сяла і проста ўсміхаюся яму. Ён чытае, потым уздымае на мяне вочы і кажа: «Вы маглі б не ўсміхацца? Мне складана весці працэс». Гэта быў суддзя Міхаіл Макарэвіч з Партызанскага суда.

Юлія спадзяецца, што на тых, хто творыць беззаконне, будуць заведзеныя крымінальныя справы, — і гэтыя людзі адкажуць за тое, што зрабілі. Хоць цяпер многія стаміліся ад барацьбы, дзяўчына ўпэўнена, што трэба працягваць падбадзёрваць адно аднаго і бачыць мэту, да якой мы ідзём, быць у адзінстве. Калі чалавек у нешта верыць, і яго веру не зламіць, — гэта прыводзіць да выніку, гаворыць яна.

Дзяўчына прызнаецца, што таксама адчувае страх. Але нашмат страшней, чым выйсці на пратэст, думаць пра тое, што цяперашняя сітуацыя можа застацца.

— Мяне з самага першага дня пераследуе выслоўе з Бібліі: «Каня рыхтуюць на дзень бітвы, але перамога — ад Госпада». Нават калі чалавеку нешта зрабіць немагчыма, гэта магчыма Богу. Але я веру ў перамогу беларусаў, таму што ў нас немагчыма адняць салідарнасць. Мы вартыя лепшай будучыні, і мы павінны прайсці праз церні, і тады ўсё будзе цудоўна! — перакананая яна.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

# Спецрасследаванне: каго ці што абараняе «Беркут» у Беларусі. Частка III

Дзяніс ІВАШЫН

**Трэцяя частка расследавання цалкам прысвечаная інфармацыі пра выяўленых «беркутаўцаў» у шэрагах мінскага АМАП — сілавога падраздзялення, якое ўжо афіцыйна знаходзіцца ў статусе аб’екту санкцый ЗША. Супраць кіраўніцтва атрадаў АМАП задзейнічаныя і санкцыі Еўрасаюза, Канады і Вялікабрытаніі.**

Значную дапамогу ў межах гэтай часткі расследавання здзейсніла само Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, якое надало неабходную факталагічную інфармацыю. Гэтыя звесткі пацвердзілі ў тым ліку і вынікі ўсіх папярэдніх расследаванняў.

### Маштабная ўцечка інфармацыі з МУС РБ

У 2018 годзе адбылася ці не найбольш маштабная ўцечка даных асабовага складу сталічнага структурнага падраздзялення МУС РБ. Галоўнае ўпраўленне ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама апублікавала на сваім сайце імёны і прозвішчы падначаленых супрацоўнікаў, якія стаяць у чарзе на жытло па месцы сваёй службы. У спісах фігуравалі ажно 2149 (!) чалавек.

Апроч супрацоўнікаў Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў у спісах меліся даныя на прадстаўнікоў праваахоўных органаў з усіх дзевяці сталічных раённых падраздзяленняў УС, а таксама мінскага аддзелу ўнутраных спраў на транспарце. Для нашага расследавання самае важнае — тое, што ў апублікаванай інфармацыі маюцца звесткі пра 345 (!) байцоў мінскага атраду міліцыі асаблівага прызначэння. З улікам нізкага ўзроўню адтоку кадраў (да 2020 года) і пераводу нязначнай колькасці байцоў у іншыя падраздзяленні абсалютная большасць з іх служыла ў гэтым атрадзе да самага нядаўняга часу.

Гэтая інфармацыя размяшчалася на сайце ГУУС Мінскага гарвыканкама з некаторай актуалізацыяй ажно да сакавіка 2019 года. Усе гэтыя спісы і цяпер даступныя для ўсеагульнага вывучэння.

Варта зазначыць, што апублікаваныя мінскім ГУУС звесткі пра супрацоўнікаў АМАП цалкам пацвярджаюць сапраўднасць даных, прадстаўленых ініцыятывай BYPOL накошт асабовага складу сталічнага атраду гэтага падраздзялення.

У згаданым спісе супрацоўнікаў мінскага АМАП з пазначэннем іх пазіцый у чарзе на жытло фігуруе значная колькасць выяўленых у Беларусі байцоў «Беркута» — восем чалавек.




**Скрыншот старонкі сайта ГУУС Мінскага гарвыканкама з данымі байцоў АМАП**

Амаль у самым канцы спісу з пазіцыяй №333 быў мікалаеўскі «беркутавец» Сяргей Панасенка. Яго крыху апярэдзіў таварыш па службе Мікалай Стагарняк, які меў пазіцыю №329, і дастаткова далёка адарваўся ад іх наперад іх калега з Адэсы Сяргей Кімінчыжы, які займаў 291 месца. Пра іх мы ўжо пісалі ў другой частцы расследавання.

Цікава, што астатнія пяцёра колішніх «беркутаўцаў» пастаўленыя ў чаргу разам і ўмоўна аб’яднаныя ў адну групу з пазіцыямі, адпаведна, ад 255 да 259. Першае месца ў гэтай групе займала супрацоўніца роты міліцыі асаблівага прызначэння (РМАП) «Беркут» Галоўнага ўпраўлення МУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці Яўгенія Лысак.

Імя Яўгеніі Лысак таксама выяўленае сярод кантактаў фігурантаў папярэдніх расследаванняў, якія разам з ёй цяпер служаць у мінскім сталічным АМАПе.

### Ад дзіцячага стаматолага ў Мікалаеве да фельчара мінскага АМАП

Лысак Яўгенія Мікалаеўна (па-ўкраінску — Лисак Євгенія Миколаївна) нарадзілася 08.09.1984 годзе ў Рызе Латвійскай ССР. Пражывала ва Украінскім Мікалаеве. У 2002 годзе скончыла Мікалаеўскую медыцынскую вучэльню (цяпер Мікалаеўскі базавы медыцынскі каледж).

Да пераходу на службу ў РМАП «Беркут» ГУ МУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці працавала ў агульнаадукацыйнай школе сацыяльнай рэабілітацыі і ў гарадской дзіцячай стаматалагічнай паліклініцы Мікалаева.

Апазнаная на супольным фотаздымку байцоў мікалаеўскага «Беркута», зробленага падчас нарады гэтага падраздзялення, меркавана, у 2011 годзе.

У адрозненне ад большасці яе таварышаў па службе з мікалаеўскага падраздзялення «Беркут» — сённяшніх мінскіх ампапаўцаў, — Лысак не стала прыхоўваць горад, дзе яна жыве з 2014 года. У яе выяўленым акаўнце сацсеткі «ОК» яна пазначыла ў якасці месца свайго цяперашняга пражывання менавіта сталіцу Беларусі.

Паводле даных ініцыятывы




BYPOL, Яўгенія Лысак з’яўляецца фельчарам 2-й аператыўнай роты АМАП ГУУС Мінскага гарвыканкаму, мае званне старшы прапаршчык міліцыі.

Падчас расследавання было выяўленае групавое фота байцоў гэтай роты, у якім з доляй верагоднасці зафіксаваная Яўгенія Лысак.

Адразу за Яўгеніяй Лысак у спісе супрацоўнікаў мінскага АМАП у чарзе на жытло з пазіцыяй №256 знаходзіўся яе таварыш па службе, мікалаеўскі «беркутавец» Мікалай Чарэпін.

### Чарэпін Мікалай Мікалаевіч

Чарэпін Мікалай Мікалаевіч (па-ўкраінску — Черепін Микола Миколайович) нарадзіўся 11.08.1988 года ў Мікалаеве, УССР. Навучаўся ў Мікалаеўскім політэхнічным каледжы. Пасля праходжання тэрміновай вайсковай службы стаў байцом РМАП «Беркут» ГУ МУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці. У складзе свайго падраздзялення, меркавана, напрыканцы лістапада 2013 года быў накіраваны ў Кіеў на падмацаванне. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці разам са сваімі іншымі таварышамі па службе з’ехаў у Беларусь. Атрымаў грамадзянства Беларусі, а таксама працу ў шэрагах мінскага АМАП.

Праяўляе празмерную асцярожнасць у сацыяльных сетках, на гэты момант выяўлены толькі адзін яго акаўнт у расійскай сацсетцы «Мой мир@Mail.ru».

Мікалай Чарэпін апазнаны ў відэа дзяржаўнага тэлеканалу «СТВ», у якім раней ужо быў зафіксаваны фігурант папярэдняга расследавання капітан міліцыі Дзмітры Анцупаў. У сюжэце, апублікаваным на відэахостынгу YouTube, распавядаецца пра здачу іспыту на права нашэння чорнага берэта байцамі мінскага АМАП. Кваліфікацыйныя выпрабаванні праходзілі 20 лістапада 2019 года пад Мінскам, а таксама ў месцы дыслакацыі сталічнага АМАП на вуліцы Герояў 120-й дывізіі, 42.



**Чарэпін Мікалай Мікалаевіч**

У відэа можна пабачыць, як падчас апошняга этапу іспыту аператар здымае дынамічную сцэну спарынгу байцоў АМАП і вядзе тэлекамеру сінхронна іх перасоўваннем на імправізаваным рынгу. Аб’ектыў камеры фіксуе таксама іншых амапаўцаў, якія назіраюць за боем. Мікалай Чарэпін трапляе ў кадр літаральна на некалькі секунд (хронаметраж 1:27-1:31), якіх, аднак, было цалкам дастаткова для яго апазнання.

Паводле даных ініцыятывы BYPOL, Мікалай Чарэпін з’яўляецца камандзірам аддзялення 9-га ўзводу 3-й аператыўнай роты ГУУС АМАП Мінскага гарвыканаму, мае званне — прапаршчык міліцыі.

Цікава, што ў час відэафіксацыі Чарэпіна тэлеканалам «СТВ» яшчэ станам на 20 лістапада 2019 года ён меў званне старшыны міліцыі.

Падчас расследавання вызначана, што ўлетку 2014 года сям’я Мікалая Чарэпіна скарысталася паслугамі транспартна-экспедытарскіх кампаній для дастаўкі мэблі з Мікалаева ў Мінск. Згодна з пададзенай на сайце перавозчыка інфармацыяй, пагрузка грузу аб’ёмам да 2 тонаў была здзейсненая ў грузавы бус 17 жніўня 2014 года (1, 2).

Гэта — дадатковае сведчанне знаходжання сям’і Чарэпіна ў Мінску ўлетку 2014 года.

Вызначана, што праз паўгода, у лютым 2015-га, яго сям’я шукала тых, хто мог ім надаць сталую рэгістрацыю ў Мінскім раёне альбо вобласці, а таксама падавала абвесткі пра пошукі арэнднай кватэры ў мінскім мікрараёне Уручча, у якім, нагадаем, знаходзіцца база сталічнага АМАП.

### Рэмінісцэнцыя культу сілы

Са жніўня 2020 года рэжым самааддана спрабуе адрадзіць культ сілы і аднавіць ролю правадыра, якім вызначалася савецкае таталітарнае мінулае. Аднак для гэтага дыктатура ў Беларусі не валодае ані ўнутранымі сіламі і сродкамі, ані ключавым рэсурсам — згодай маўклівай большасці, — але як спараджэнне савецкай рэпрэсіўнай сістэмы імкнецца хаця б да знешняга з ёю падабенства. Пры гэтым гарантам захавання ўлады рэжыму Лукашэнкі выступае Расійская Федэрацыя, якая надае яму жыццёва неабходную сістэмную падтрымку.

У гэтых рэаліях стаўка на сілавы блок і дэманстрацыя гэтага набываюць стратэгічнае значэнне. Менавіта таму Лукашэнка ў атачэнні сілавікоў асабіста выходзіць на цэнтральны мінскі праспект са зброяй. Менавіта таму за дзень да Новага года, 30 снежня 2020-га, наведвае базу мінскага АМАП, дзе раздае дзяржаўныя ўзнагароды. Менавіта таму 27 студзеня 2021 года байцоў АМАП разам з іх сем’ямі запрасілі ў Палац Незалежнасці. Запрасілі не ўсіх, але толькі абраных. Агулам на апублікаваных фотаздымках з Палацу Незалежнасці зафіксаваныя абліччы больш за 30 мінскіх амапаўцаў, а таксама чальцоў іх сем’яў.

Сярод гэтых амапаўцаў выяўлены і Мікалай Чарэпін. Ён апазнаны на адным з фота з гэтага візіту, апублікаваных прэс-службай ГУУС Мінскага гарвыканкама.

**Працяг на стар. 19 »**




**Кадр з відэасюжэту «СТВ», Мікалай Чарэпін пазначаны колам**

Літаратурная Беларусь

Выпуск №2 (174)
(люты)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# «Чакае перамога нас»



### Гэта крык, што жыве Беларусь

Янка КУПАЛА,
Народны паэт Беларусі

*Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,*
*Ці запеў салавей, ці загагала гусь, —*
*Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,*
*Сваю матку-зямлю — Беларусь.*
<…>

*Тут усякая рэч як гавора з табой:*
*І крывая бярозка, і столетні дуб,*
*Снег халоднай зімой,*
*траўка летняй парой,*
*І асвер, і абцінены зруб…*

*А бурлівы ручай і зялёненькі сад! —*
*Хоць, брат, сэрца аддай*
*і душу хоць аддай!..*
*Сам садочак садзіў гадкоў*
*дваццаць назад,*
*А цяпер жа вялікі, як гай!*
<…>

*Ды і што гаварыць! —*
*дзе я толькі гляджу,*
*Бачу родненькі край,*
*сваю матку-зямлю;*
*Тут і людзі… ат… што!..*
*аб іх потым скажу…*
*Долі іх надта ж я не люблю!..*

*А вот як не любіць гэта поле, і бор,*
*І зялёны садок, і крыклівую гусь!..*
*А што часам тут страшна*
*заенча віхор, —*
*Гэта енк, гэта крык, што*
*жыве Беларусь!*

**[1905–1907 гг.]**

### Пагоня

Максім БАГДАНОВІЧ

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах, —*
*Ўспомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*

*Ў белай пене праносяцца коні, —*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць…*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

*У бязмерную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі — гады.*
*Вы за кім у пагоню спяшыце?*
*Дзе шляхі вашы йдуць і куды?*

*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За тваімі дзяцьмі наўздагон,*
*Што забылі цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*

*Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць…*

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль…*

*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*

*Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць…*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

**1916 г.**

### Покліч

Уладзімір ЖЫЛКА

*Пад штандар бел-чырвона-белы*
*Гартуйся, рыць, адважна, смела*
*Адважных, храбрых ваякоў!*
*І ўспомняцца старых вякоў*
*Паходы мужныя у славе,*
*Часы Альгерда, Ізяслава,*
*Грунвальдскі з немцам бой!*
*І боек даўні цяг з Масквой!*

*Пад знак Літоўскае Пагоні –*
*Абараняць краіны гоні,*
*Народ забраны вызваляць,*
*Ісці к святлу, святлом палаць –*
*Спяшайся той, хто к волі рвецца,*
*Ў кім беларуса сэрца б'ецца!*
*Збірайся – ўсе, як бы адзін, –*
*Арлы радзімых пушч, нізін!*

*Не плач, не плач па сыну, маці, –*
*Сягоння сорам быць у хаце,*
*Бо ўзнят за волю грозны меч,*
*Бо хутка будзе злая сеч,*
*Няхай і ён, юнак адважны,*
*Ідзе туды, дзе б'еццa кажны*
*За волю новую без слёз,*
*За лепшы Бацькаўшчыны лёс.*

*Пад штандар кожны здатны, гожы,*
*Досць нас наезнікам варожым*
*Трымаць ў прыгоне, беднаце,*
*Смяяцца нашай цемнаце,*
*Багацце краю нішчыць, пляжыць –*
*Чужынцу годзе намі княжыць*
*І карыстацца з нашых плеч!..*

*Мы к волі йдзем – з дарогі прэч!..*

**1920 г.**

### Ты чуеш, брат?

Максім ТАНК,
Народны паэт Беларусі

*Ты чуеш, брат, як на прадвесні*
*Вятры, лёд крышучы, гудуць,*
*Як на сваю радзіму з песняй*
*Зноў птушкі з выраю лятуць?*

*Пагоні сілы баявыя,*
*І вы рыхтуйцеся ў паход,*
*Каб знішчыў путы векавыя*
*Наш заняволены народ.*

*Глядзіце ў будучыню смела!*
*Настаў доўгачаканы час,*
*Пад сцягам бел-чырвона-белым*
*Чакае перамога нас.*

*Няхай жа меч Пагоні ззяе!*
*Гартуйма нашу еднасць, моц!*
*Вядзі нас, Воля прасвятая,*
*Да новай славы, новых сонц!*

**1930 г.**

Васіль БЫКАЎ,
Народны пісьменнік Беларусі, ветэран Вялікай Айчыннай вайны

*Бела-чырвона-белы сцяг ім, бачыце, ненавісны за тое, што яго насілі паліцаі. Дык паліцаі насілі ж і штаны, што ж тады вынікае з вашых… высноў, шаноўныя панове? Няма сумнення, усё гэта будзе смешна і недарэчна нават праз вельмі кароткі час. Але цяпер не смешна. Цяпер балюча і крыўдна, бо тупы жандарскі бот па-ранейшаму папірае і фізічнае існаванне нацыі, і яе стогадовыя духоўныя набыткі. Якія яна па крошцы выпрацоўвала ўласнымі высілкамі, высілкамі сваіх найлепшых людзей, збірала і зберагала — праз войны, голад, галечу, іншаземнае панаванне.*

Ніл ГІЛЕВІЧ,
Народны паэт Беларусі

— Як вы, Уладыка, ставіцеся да бел-чырвона-белага сімвала як сімвала нашага дзяржаўнага сцяга?

Мітрапаліт Філарэт:
— Як жа я магу ставіцца да сімвала крыві Хрыста, пралітай на белую плашчаніцу?! Толькі станоўча!
(1995 год, пасяджанне камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі пры вырашэнні пытання пра дзяржаўную сімволіку)

Рыгор БАРАДУЛІН,
Народны паэт Беларусі

***

*На белай кашулі чырвоны пісяг*
*Ад злосці падступнага меча.*
*Бел-чырвона-белы балючы сцяг*
*Склікае на сумнае веча.*
<…>
*Узвіўся, як крык, на крыжацкіх касцях —*
*І поган кіруе ў прадонне —*
*Бел-чырвона-белы крывіцкі сцяг*
*У вечным памкненні Пагоні!*

<…>
*Мы — ратаі святла,*
*Крывічы,*
*Верхачы неўміручай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*

*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*

# Вольга Бабкова: «Жывём, хоць і дыхаць цяжка»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Хто такая Вольга Бабкова? Пісьменніца, якая ажывіла стары Менск. Адна з купалаўцаў, якая пасля сямі гадоў працы ў тэатры ў знак пратэсту сышла разам з усімі. Архівістка, якая з асалодай чытае акты на старабеларускай мове. І яшчэ вельмі шчыры і таленавіты чалавек.**

**Спадарыня Вольга 27 лютага адзначае сваю «круглую» дату.**



**Вольга Бабкова.** Фота www.kupalauski.by

***— Спадарыня Вольга, чаму вы вырашылі звязаць жыццё з даследаваннем гісторыі?***

— І гісторыя, і тэатр вывучаюць чалавека. Я не пайшла ў навуку, бо мяне цікавіць менавіта адчуванне чалавека ў свеце: ён нараджаецца, праходзіць пэўныя этапы, але напрыканцы ўсіх чакае адно і тое ж. І гэтае адно і тое ж — самая вялікая таямніца.

***— Чым найбольш запомніўся тагачасны гістфак БДУ?***

— Я вучылася на вячэрнім факультэце, таму са мной побач былі людзі самых розных узростаў. Там я пазнаёмілася са сваім сябрам Фёдарам Крываносам, які цяпер — праваслаўны святар. Ён адкрыў для мяне дысідэнцкую літаратуру, якая на той час была забаронена. Аднойчы ён запрасіў мяне паехаць на Вялікдзень у Загорск (Сергіеў Пасад, — В.Ч.). Для мяне тады Вялікдзень — гэта было нешта прыгодніцкае і магічнае... Памятаю, што пад час вучобы над нашым менскім Аляксандраўскім скверам навісла страшэнная пагроза: там хацелі высекчы ўсе стогадовыя дрэвы. Калі я пачула пра гэта, то вырашыла, што калі прыедуць бульдозеры, я прыйду і лягу пад колы. Але, дзякуй Богу, гэтая ідэя пажыла ў шалёных галовах і знікла.

***— Ці думалі, чым будзеце займацца пасля таго, як скончыце вучобу?***

— Асабліва не думала. Спачатку я хацела быць мультыплікатарам, пасля — археолагам. Але выпадкова апынулася ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, там і засталася працаваць. Цікава, што самыя важныя і значныя для мяне людзі знайшліся менавіта ў архіве. У дыпломнай працы я параўноўвала выгляд рэканструяваных помнікаў сталіцы: як яны выглядалі раней і іх актуальны стан.

***— Ваша знітаванасць з Менскам — гэта вынік дыпломнай працы ці яна існавала яшчэ раней?***

— Калі б яе не было, я б не абрала такую тэму дыпломнай працы. Я любіла горад на падсвядомым узроўні. Гэтаму спрыялі мае бацькі. Хоць яны нарадзіліся не ў Мінску, але яны вельмі любілі яго фатаграфаваць. Калі пазней я прасіла бацькоў згадаць нешта пра Мінск, яны ўзгадвалі проста неверагодныя дэталі! Напрыклад, у якой краме чым пахла, якія гукі даносіліся з лабараторыі Медыцынскага ўніверсітэта... Памятаю, як я, зусім маленькая, ішла з татам па старой, яшчэ не перабудаванай Нямізе...

Мінск для многіх пусты і халодны савецкі горад, але я хаджу па ценях старых забудоў. Проста нехта бачыць гэта, а нехта — не.

***— Якім чынам з'явілася кніга, складзеная з вашых эсэ «...І цуды, і страхі»?***

— Я расчытвала ў архіве судовыя справы: маёмасныя спрэчкі, забойствы, абра́зы... Там знаходзіла дэталі, якія былі мне неверагодна цікавыя. Толькі ўявіце сабе, якія імёны былі ў людзей: Ян Зімапад, Васіль Клюйвада... Гэта ж цэлы свет! Я ішла на працу, дзе мяне чакалі неверагодныя адкрыцці і скарбы. Пасля зразумела, што нешта можна распавесці пра вяселле, дарогу, імёны... Эсэ я друкавала ў газеце «Наша Ніва». Аднойчы муж падаў некуды рукапісы, і яны перамаглі... У той час я ляжала ў шпіталі, таму ў мяне не было часу давесці іх да ладу. У выніку зусім хутка выйшла кніга «...І цуды, і страхі»...

У мяне мэта была зацікавіць простых людзей неверагоднай палітрай Сярэднявечча. Навуковыя кнігі не ўсе чытаюць... Аднак я не падавала гэтыя эсэ як літаратуру. У мяне не было адмысловага стылю, пісала так, як уяўляла. Самае вялікае нараканне было з боку гісторыкаў: я не пакінула спасылкі на вопісы, з якіх брала матэрыял.

***— Калі вы наогул пачалі пісаць?***

— Мая творчасць пачалася тады, калі мы ў сям'і вырашылі размаўляць па-беларуску. Гэта быў крок штучны, безумоўна, бо ў мяне не было нікога ў вёсках. Але гэта быў наш пратэст супраць савецкасці і бальшавізму, які сядзеў у галовах людзей. Сваё першае апавяданне «Крумкач і Франка» я напісала, калі зламала нагу і месяц нікуды не выходзіла. Але як доўга я гэтае апавяданне насіла ў галаве! Асабліва атрымліваецца запісваць назіранні пад раніцу, калі раскладваеш сябе, як слаісты пірог. Я пішу рэдка, але штодня занатоўваю свае думкі. Шмат ужо набралася такіх назіранняў... Аднак, мушу прызнацца, што я занадта шчодра раскідваюся часам. Мне падаецца, мы самі ўзялі і падзялілі час на рысачкі. Лічбы — гэта не маё, я заўсёды ў іх блытаюся.

***— Чаму пасля стольких гадоў працы вы раптоўна ў 2013 годзе сышлі з Нацыянальнага беларускага архіва працаваць у Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы? Надакучыла?***

— Не, не надакучыла. З канца 90-ых па 2013 год я працавала з дакументамі XVI–XVIII стагоддзяў. Навучылася чытаць старабеларускія і старапольскія тэксты... Мне захацелася нешта моцна змяніць. Калі доўга сядзіш на адным месцы, хочацца пабачыць іншыя даляглядьі. Я разумела, што ў мяне не такі ўзрост, калі можна ісці ў нейкія праекты. Але раптам патэлефанаваў Мікалай Пінігін і прапанаваў пасаду кіраўніка літаратурна-драматургічнай часткі. Гэтая прапанова дзіўным чынам адпавядала маёй празе да зменаў. З Мікалаем Мікалаевічам мы сустрэліся, паразмаўлялі, я сказала, што па жыцці я сацыяфоб. Я разумела, што я не ведаю спецыфікі працы, але мне хацелася паспрабаваць. Я зрабіла крок абсалютна для сябе нечаканы. Нехта мяне наогул не зразумеў. Але я не шкадавала аб такім рашэнні. Тэатр — гэта такая ж таямніца і гісторыя пра людзей.

***— Адразу ўцягнуліся ў працу?***

— Досыць павольна. Але для мяне там кожны дзень быў выклік. Мне часам званок складана зрабіць... А тут нам тэлефанавалі розныя драматургі, жанчынкі, якія былі перакананы, што іх тэма ў п'есе — самая важная. Адразу ж на мяне прыйшла скарга ў Міністэрства культуры, маўляў, я няветліва размаўляла з чалавекам...

***— Ці балюча было сыходзіць з тэатра разам з іншымі «купалаўцамі» ў знак пратэсту супраць звальнення Паўла Латушкі?***

— Мы зрабілі зварот супраць гвалту са сцэны Купалаўскага тэатра, калі яшчэ былі «купалаўцамі». Літаральна адразу ўсіх, хто стаяў на сцэне, загадалі звольніць. Але дырэктар сказаў, што звальняць нікога не будзе. Пасля прыехаў міністр культуры і са сцэны паведаміў, што дырэктара звальняюць, бо ў яго скончыўся кантракт... Я не разумею, навошта дарослым людзям хлусіць са сцэны? Тады мы падалі заявы на звальненне. Самае сумнае, што я не бачу канца ўсяму гэтаму. Ідзе татальная зачыстка беларускага свету. Зачышчаюць па д'яблавым плане...

***— Ёсць жыццё пасля звальнення з Купалаўскага тэатра?***

— Я вярнулася працаваць у архіў на палову стаўкі. Але мае ўсе думкі толькі аб тым, што цяпер адбываецца ў краіне. Цяжка дыхаць, прытым не толькі ад каронавіруса, але і ад таго, напрыклад, што мая лепшая сяброўка, з якой я пазнаёмілася ў архіве (Юлія Слуцкая, — В. Ч.), цяпер на Валадарцы. А колькі яшчэ маіх прыяцеляў — недзе? Я заўсёды думала: як у 1942–1943 гадах, калі пачалося знішчэнне мінскага гета на Нямізе, увесь горад працягваў жыць сваім жыццём? Людзі хадзілі ў філармонію, якая адчынілася, у кіно... А побач цяклі рэкі крыві. Людзі не маглі не ведаць, што там адбывалася. Горад увесь прапітаны крывёю. Цяпер я іду міма Валадаркі, ведаючы, што там сядзіць мая сяброўка, але я прыходжу дадому, гатую вячэру, п'ю каву і нават магу ўсміхнуцца... Столькі пакутаў вакол, але мы прыцягваем жыць. Зразумела, жыць не гарманічным жыццём, не шчаслівым жыццём... Але жывём, хоць і дыхаць цяжка.

Я вельмі сумую, што не магу прыйсці ў Купалаўскі тэатр, не магу сесці на адкідное крэсла... Але цяпер Купалаўская трупа рыхтуе вельмі цікавы спектакль. Я не буду раскрываць падрабязнасці, скажу толькі, што я спрычынілася да яго не толькі вычытваннем тэкстаў, але і тым, што перадала пару рэчаў для рэквізіту.

***— У адным з нумароў газеты «Новы Час» быў апублікаваны ваш ліст да Юліі Слуцкай. Магчыма, цяпер у Беларусі паўстае новы кірунак літаратуры — лісты за краты?***

— Калі мы перакрочым гэты страшны час, я думаю, што сапраўды гэта стане асобным кірункам у літаратуры. Толькі б нам застацца чыстымі, каб выйсці ні душой не пашкоджанымі, ні целам. Я напісала Юлі 10 лістоў — яна не атрымала ніводнага. Пра гэта сказала яе дачушка, якая атрымлівае ад яе лісты. А мае 10 лістоў Юля не атрымала. Я пісала ёй па адным вершу... Можа, іх спалохалі вершы?

***— Думаю, што вы ведаеце месцы ў Мінску, якія могуць надаць сілы?***

— Я вельмі люблю могілкі, асабліва чынам люблю Кальварыю. Паказальна, што ў касцёле на Кальварыйскіх могілках я хавалася ад тых чорных людзей, якія разганялі беларусаў. Люблю і Вайсковыя могілкі, і Чыжоўскія. Люблю касцёл святога Язэпа, які знаходзіцца каля Ратушы. Некалі гэта было месца, дзе трымалі ў зняволенні паўстанцаў Каліноўскага. Я жыву каля стаўка Мухля, якому больш за сто гадоў. У нас расце шмат груш, таму наш раён я ўмоўна называю «Падгрушшам» — ён знаходзіцца недалёка ад «Грушаўкі». Наш раён вельмі зялёны, таму калі я хаджу па ім, мне добра. Але ўмоўна добра. Сёння нідзе не бывае добра. Мы знаходзімся ў нейкім коміксе, толькі трагічным і крывавым. Памятаю момант, калі мы з сям'ёй стаялі на рагу Гарадскога вала і бачылі, як у бок Мельнікайтэ ехалі крытыя брызентам грузавікі з салдатамі... І тады я ўсвядоміла, што яны едуць па тэрыторыі былога гета. У мяне адбылося абсалютнае накладанне гістарычных часоў, бо была жахлівая акцыя, калі грузавікі з нямецкімі салдатамі заязджалі ў гета дзеля расстрэлу людзей. І зноўку адбывалася тое ж самае. Яны ехалі, каб чыніць гвалт супраць свайго ж народу!..

***— І — на завяршэнне: ці чакаць нам цыкл эсэ пра тэатр?***

— Магчыма, бо мне ёсць што згадаць. Напрыклад, як сябе паводзяць людзі, чым тэатр адрозніваецца ад архіва, якія эмоцыі віруюць... Паўсюль жа людзі! Мне падабаецца пісаць пра людзей, якіх я люблю. Калі ты пішаш, укладаючы эмоцыі, атрымліваецца жывы і цёплы тэкст.

Я знайшла цікавы дакумент 1778 года, буду яго апісваць. Наш намеснік дырэктара па навуцы прапанаваў увесну правесці цікавы круглы стол па тэме ўспрымання смерці ў грамадстве. Што такое тэстамент, апошняя воля чалавека? Як мы цяпер да гэтага ставімся? Як такое стаўленне змянілася са стагоддзямі? Людзі адны і тыя ж, а стаўленне да смерці змяняецца. Тое, што «за мяжой» — абсалютна нам невядома. Аднак усё самае важнае мы носім у самых сабе. Кожны чалавек — гэта сусвет. Чалавек жыве вельмі мала. І калі я думаю пра тое, колькі часу ён марнуе на спрэчкі і сваркі, то ў мяне ўсё перакручваецца... Як можна марнаваць такое кароткае і прыгожае жыццё на стварэнне ідэалогіі, якая забівае? Мы так мала жывём, каб траціць бяздарна свой час.

# Ноч Айчыны



Марыя БАРАВІК

**22 лютага Марыя Баравік адзначыла сваё 75-годдзе. Яна нарадзілася ў вёсцы Прэабражэнка Глыбоцкага раёна. Скончыла Перадольскую сямігодку, Падсвільскую сярэднюю школу і БДУ (аддзяленне журналістыкі). Аўтарка ўзнёсла-лірычных зборнікаў паэзіі і прачулых эсэ. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў г. п. Падсвілле Глыбоцкага раёна.**

### Два сэрцы на вадзе

*На шэрай плыні адзінокі птах —*
*Не мае шчасця ўзняцца на крыло,*
*Бо два патрэбны на нябесны ўзмах.*
*І маё сэрца разам паплыло.*
*Цяпер на возеры два сэрцы,*
*два трывожных —*
*На цёмнай плыні два бездапаможных.*

### На возеры крыло...

*Снег яшчэ нібы цёплы лепіць...*
*Душой гляджу, і ў гэткім стане*
*Яна ніяк не перастане*
*Сніць сон, як любіць неба лебедзь:*
*Крылом адзіным узмахне*
*І на вадзе ляціць у сне...*
*Прастору веяй заняло.*
*На возеры ляжыць крыло.*
*І пух на ім не лебядзіны.*
*На сіцхлай плыні ткуцца льдзіны.*
*Між імі дыхае рукаў;*
*Ён у вачах маіх — рака,*
*Што сіліцца стварыць цячэнне*
*Ў такім засіллі атачэння...*
*Дык у нявolі і вада?*
*Радзіма? Лебедзь? Во — бяда!*
*І ў думкі шлях балюча-кружны.*
*Адно нам застаецца — мужнасць.*
*Туды-сюды, як гэты лебедзь,*
*Зірну, дык толькі мара ў небе.*
*І во з яе была праліта*
*Мая асенняя малітва...*

### Ноч Айчыны ўскіне лічбу зорак

*Быў агонь на захадзе паўднёвым —*
*Калыхнуўся вірам у вачах.*
*Недзе за зубчастасцю хваёвай,*
*Мне здалося, жар яго ачах.*
*Ці паэт, ці казачнік паўторыць:*
*«Зоркі ў небе цяжка палічыць».*
*І зусім не ўбачыць іх падворак,*
*Дык я — во падумала аб чым:*
*«Аўтазакі ў тым баку — у зморы.*
*Працавалі — могуць паўтарыць...»*
*Сёння ноч ускіне лічбу зорак:*
*Тысячы, прыблізна, паўтары.*

**8 лістапада 2020 г.**

* * *

*Мой чытач, метафарай не грэбуй.*
*Зорка-вобраз мае прататып...*
*Шмат аб чым паэту кажа неба,*
*І святло падказвае матыў.*

*Як знутры напружылася вока,*
*З таямніцы веры і надзей,*
*Размаўляць мне з зоркаю высокай*
*Паэтычнай моваю прасцей.*

*Зоркі руху, вы не ў галаслове,*
*Неба дасць — надзею завяршыць.*
*Вы не ў затуманенай выснове —*
*Вы ў маёй галактыцы душы.*

* * *

*Збягае год імклівa, незваротна.*
*Ён ярка падвыразніў зрок народны.*
*Паставіў веру ў далягляды круг,*
*Бо нарадзіўся беларускі дух.*
*Народзе дарагі мой, не сумуй!*
*І той, хто за руку бярэ зіму,*
*І той, хто духам адштурхнуў турму.*
*Дык будзьма разам — не па-аднаму*
*Сярод зямной і зацяжной няволі!*
*І з'явіцца зара на белым полі!*

**26 снежня 2020 г.**

### Чорным фронтам — на жыццёвы колер

*Так дзіўна звыш нам дадзена святло —*
*Наш белы свет — агульнае жытло.*
*Ад гарызонта кажа нам чырвоным,*
*Што ноч для нас не зробіцца палонам.*
*Пакуль яно жыве, стаіць, гарыць,*
*Яго чакаем — працу паўтарыць,*
*Яго чакаем — радасць паўтарыць*
*І — да свабоды ўстойлівы парыў,*
*Бо зорка-сонца — свеціць нам з гары,*
*І на зары, у чырвані-віры,*
*Каб мы ў святле маглі, як дзень, расці*
*У бел-чырвона-белым пачуцці,*
*У гарце духу, думкі, без ныцця...*
*Дык паляванне ўбачылі на сцяг...*
*Такога не было яшчэ ніколі,*
*Каб чорным фронтам —*
*на жыццёвы колер.*
*«Без злосці, без замаху, без ironій*
*Мы ўсё ж жыццёвы колер абаронім!*
*Я патлумачу», — думаў Бандарэнка, —*
*Як разбурэнне трапіла у зрэнка...*



Фота www.photosight.ru

### Хачу гілёў!

*Якімі час навінамі расце?*
*Чакаць якога колеру падзей?*
*Сасновы бераг вунь — блакітны цень*
*Паклаў на грудзі белыя вадзе.*
*А што яшчэ ў нас блізка ад людзей?*
*Рабіны гронкі побач — анідзе.*
*Каліны гронкі побач — анідзе.*
*І птушачкі чырвонай на кусце...*
*Дык у вачах тут і кустоў няма.*
*Куды прыйшла ты, белая зіма?*
*Мяне прыпёк самоты вугалёк.*
*Не ведаю, ці ёсць у мары клёк —*
*Ёй для натхнення хочацца гілёў,*
*У куст, каб не маркоціўся галлём.*
*Чырвонагрудкі лёгкай, і на белым.*
*Мая душа тады спяваць хацела б.*

**11 студзеня 2021 г.**

### Бацькоў асветніцкія словы

*Сню: заблудзілася між кніжак, між тамоў;*
*Сню, што над імі схілены галовы...*
*А я нібы шукаю шлях дамоў —*
*Прарочыя пачуць ад бацькі словы.*
*Во той праўдзівы, просты татаў сказ,*
*Канкрэтны змест якога спраўдзіў час.*
*Якая далячынь ад той пары!*
*Як хочацца з бацькамі гаварыць!*

### Татава бярозка

*Ёсць месца за полем і вёскай...*
*І тое, дзе пуста, і тое,*
*Дзе дол засцілала бярозка*
*Увосень самотнай слатою.*

*Яна — самасейка над татам,*
*Насупраць вачэй яго прама.*
*Прайшла каранямі праз маму.*
*Паспелі — пагладзілі з братам...*

*Бывала, памацаю зрокам*
*З гары Гарадзішча здалёку —*
*Знаходзіла месца здалёку —*
*І поле прамервала крокам.*

*Дык зрэзана тая бярозка —*
*Не гладзіць мне сумныя плечы.*
*Цяпер яна — свечачка з воску;*
*Нібыта й суцешыцца нечым...*

### Ані хвілінкі

*Ніякай іншай мэты — духапраца,*
*Калі душа асветлена знутры.*
*Параіў Бог мне цудам захапляцца*
*І болем ззяць, як дзьмуць вар'ят-вятры.*

*На іншае няма ані хвілінкі*
*На рух да хлеба, слыннасці якой...*
*Ад болю загараюцца іскрынкі —*
*Ад Бога пасылаецца спакой.*

**20 лістапада 2020 г.**

# Прыход дня



Таццяна ЯЦУК

### На перавалах

*Том жыцця не першы прачытала,*
*Ды ўсё невукам лічу сябе.*
*Шчасце зведала і бед нямала,*
*Там, на тых няпростых перавалах,*
*Прызначала ростані журбе.*

*А жыццё свае іспыты ткала,*
*Рубцавала раны на шляху.*
*Доля закружылася навалай,*
*А цяпло па кроплі частавала*
*Сілай у пякельным бытнягу.*

*І святло далёкае вакзалаў*
*(Ростань і сустрэча — спарышы)*
*Адляцела, адплыло, растала.*
*І здалося неймаверна мала*
*Светлых дзён у шчасця на мяжы.*

*Ну, а я па лёсе веславала:*
*Кветкі на вясле і ледзяшы.*
*У маўклівых зараслях крушын*
*Так рашуча праўду ўваскрашала,*
*Адраджала вераю душы.*

*Адраджала, а ці адрадзіла?*
*Цяжка нам паверыць у цяпло,*
*Дзе сумёты снегу намяло.*
*Вечар лечаць кроплі дзівасілу,*
*І памалу ўваскрасае сіла*
*На шляху, дзе паміраe зло.*

### Снягі

*Я так люблю, калі ідуць снягі,*
*Няхай прабачаць за любоў шафёры:*
*Нялёгка ім зімы выносіць нораў,*
*Калі дарога — белыя кругі.*

*А я люблю ціхмяныя снягі,*
*Без мітусні, без бегатні і спешкі,*
*Калі на вуснах шчырая ўсмешка,*
*А на душы крышталікі тугі.*

*Бялюткі снег з адценнем нематы.*
*Нам мудрасці прыроды не парушыць:*
*Снег чысцінёю абнаўляе душы*
*І благаслаўляе іх у шлях святы.*

*Пусці, зіма, мяне ў свой снежны рай.*
*Хвілінак пяць мне дай, гадзіну, суткі...*
*Хай уладарыць ціхі сон бялюткі,*
*Хай засыпае снегам небакрай.*

### Груша над абрывам

*Кіпела горда над абрывам груша,*
*Была вясна, і салаўіны ранак*
*То песціў заварожаныя душы,*
*То галасіў, бы малады падранак.*

*А груша над абрывам гаманіла,*
*Сцвярджала праўду і жыцця аснову,*
*Нібыта лёс свой за сябе маліла,*
*Нібы шукала правільныя словы.*

*Яна была — у квецені шчаслівай,*
*І кожная галінка несла шчасце.*
*І ёй, разумнай, гордай, над абрывам,*
*Здавалася, не суджана — упасці...*

*Не быў да грушы вецер літасцівы:*
*Лёс не заўсёды правільна кіруе.*
*І, ветрам звар'яваная, з абрыва*
*Упала груша ў бездань ледзяную.*

*Спявалі птушкі, гаманілі росы,*
*Ніхто жыцця ні кроплі не парушыў,*
*Дзень прачынаўся, юны і цвярозы,*
*Ды не кіпела над абрывам груша,*

*І не прарочыла дабра і шчасця,*
*Не атуляла ад душы пяшчотай...*
*Не ведаем, дзе давядзецца ўпасці,*
*І думаем, што так бывае... потым.*

### Прыход дня

*Выспеў шэры досвітак у хмарах,*
*Цішыня над соннаю зямлёй.*
*Сонца промнем далягляд звязала,*
*Як араты поле баразной.*

*Страпянулася на небе зорка,*
*Зразумела: дзень крануў палі.*
*І на затуманеных пагорках*
*Росы крышталямі зацвілі.*

*Выйшаў бусел важна на пакосы,*
*У прыручны салавейкі свіст.*
*Новы дзень нясмелы, безгалосы,*
*Што напішаш ты на чысты ліст?*

*Чым ты зачаруеш? Ці акрыліш?*
*Ты ж філосаф строгі і мудрэц.*
*Ці з бядою справіцца асіліш?*
*Сейбіт ты, і хлебароб, і жнец.*

*У затоках часу ранак спее*
*Белізной лілеяў на вадзе.*
*Расцвітае ў туманах надзея,*
*Што шчаслівы дзень да нас ідзе.*

# Помнік



Віктар ВАРАНЕЦ



Фота www.rt.com

— ...Гэта была ўжо трэцяя пошта, абрабаваная за апошні месяц. І зноў абсалютна цэлыя замкі, неразбітыя вокны і аніякіх слядоў узлому. Быццам нячысцік які пагаспадарыў. Тым не менш, праца ёсць праца. Эксперты пачалі здымаць адбіткі пальцаў з дзвярных ручак, сейфа, шуфлядак. Калегі разышліся апытваць работнікаў пошты, а я па новай пайшоў блукаць па памяшканні. Ад уваходных дзвярэй праз калідор у адзін пакойчык, потым у другі, трэці і да сейфа. Адтуль назад да дзвярэй. І так кругоў пяць зрабіў. Версій нуль. Як раптам каля самага ўваходу ў цёмным вузкім калідорчыку (нават лямпачкі ў ім няма) у сцяне заўважаю нейкую амаль непрыкметную дзірачку. Дастаю з кішэні ліхтарык і пачынаю свяціць. Так і ёсць — нізенькія, ледзь да пояса, дзверы. Клічу начальніцу пошты. Аказваецца, гэта камора для інвентару прыбіральшчыцы, але ёй ніхто не карыстаецца з часоў, як у будынку зрабілі прыбіральню для супрацоўнікаў. Прашу адчыніць. Пусты квадрат прыкладна пяцьдзясят на пяцьдзясят сантыметраў. Павуцінне, пыл, а вось на падлозе ў гэтым пыле выразна бачныя два дзіцячыя сляды. Менавіта з іх мы і раскруцілі ўсю справу. У горадзе быў такі дамушнік Коля-малы — саракагадовы мужчына, рост якога ледзь дасягаў метра дзесяці сантыметраў. Ну і камплекцыя адпаведная. Дык вось, яго прыносілі на пошту ў вялізнай сумцы, адзін злачынца ішоў у залу, другі караўліў ля ўваходных дзвярэй. А Коля хуценька адкрываў каморку, дзе і заставаўся да ночы. Потым рабаваў пошту і праз фортку перадаваў грошы, каштоўнасці з бандэроляў, а пасля і сам вылазіў. Так што пільнасць і прыдзірлівая ўвага проста неабходны для міліцыянера.

Іван Пятровіч Конан скончыў пад апладысменты залы свой выступ і, хутчэй для захавання фармальнасцяў, чым з цікавасці, запытаў:

— Можа, ёсць пытанні?

На дзіва, у другім радзе імгненна ўзнялася рука, і хударлявая дзяўчына ў вялікіх акулярах бойка выкрыкнула:

— У мяне ёсць!

Дырэктарка ліцэя Зоя Паўлаўна незадаволена паглядзела на малую.

— Гэта, Іван Пятровіч, наша актывістка, староста другога курса Каця Ляпешка. Ну што за пытанне, Кацярына?

— Іван Пятровіч, дзякуй Вам за цікавае паведамленне пра працу нашай міліцыі. Вось вы казалі, што адслужылі ў крымінальным вышуку больш за трыццаць гадоў, багата налавілі злачынцаў за гэты час, прыклады прыводзілі. Цікава, а ці была ў вашай практыцы хоць адна нераскрытая справа, якая, тым не менш, помніцца і цяпер?

Конан усміхнуўся.

— Дзякуй і табе, Кацярына, за пытанне. Я зразумеў, пра што ідзе гутарка. Так, не заўсёды, на жаль, мы імгненна раскрываем злачынства, а вінаватых вядзем за краты. Але ніколі не гавары ніколі. Бывае, што колішняя нераскрытая справа праз дзесяць, пятнаццаць, нават дваццаць гадоў нечакана ўсплывае на паверхню. І мы зноў пачынаем яе раскручваць з самага пачатку. Ну а вынік... Дарэчы, калі вы не стаміліся, я раскажу пра адну такую справу, якая, як і прасіла Кацярына, мне вельмі запомнілася.

Было гэта ў канцы шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Толькі год прайшоў, як я выпусціўся з юрыдычнага факультэта і пачаў працаваць у Гродзенскім раённым аддзеле ўнутраных спраў. І вось неяк выклікае мяне начальнік аддзела Сымон Іванавіч Галуза.

— Іван, — кажа, — тут з'явіўся ў нас ананімны ліст. Хутчэй за ўсё гэта поўнае глупства, але праверыць даведзеную інфармацыю мы абавязаны. Закон ёсць закон. Вось ты і зоймешся гэтым. Даю тры дні, а ў пятніцу з дакладам да мяне.

І працягнуў ліст. Я вярнуўся ў свой кабінет, заварыў кубачак гарбаты і пачаў чытаць.

«Добры дзень, грамадзяне следчыя. Доўга не адважваўся напісаць гэты ліст, бо, з аднаго боку, даруйце, не вельмі люблю вас, а з другога — пабойваўся за сябе. Ніхто вы зразумееце, чаму. Але днямі дактары сказалі, што жыць мне засталося тыдзень-два... Анкалогія! Дык чаго цяпер баяцца?

Так склалася, што ў час вайны я служыў камандзірам паліцэйскай роты ў Гродне. Што прыввяло да такога выбару, расказваць не буду — гэта іншая і досыць сумная гісторыя. Дык вось, у сакавіку 1943 года нам паступіў загад: сумесна з чацвёртай карнай ротай дывізіі СС «Рэйх» ліквідаваць яўрэйскае гета, што мясцілася ў горадзе. Працавалі ўсю ноч. Як вынік — былі знішчаны больш за чатырыста яўрэяў, дзве з паловай тысячы адпраўлены ў лагер смерці Трэблінка. Потым мы пачалі абыход іх кватэр у пошуках каштоўнасцяў, золата. Зондэркаманда, якая падаспела на дапамогу, вырывала ў нябожчыкаў залатыя зубы, ператрасала адзенне, збірала каштоўныя рэчы. Але прыбытак быў не такі вялікі, як чакалася. І мы вырашылі, што асноўнае багацце яўрэі схавалі ў сваіх дамах. Таму пайшлі на паўторны вобыск, ужо больш шчыльны. І што вы думаеце? Мае хлопцы адшукалі ў доме старога Хейфіца замураваны ўваход у піўніцу, дзе былі роўна складзены брускі золата з кляймом Імператарскага банка Расіі. Як яны туды трапілі, невядома, але хутчэй за ўсё пад час рэвалюцыйнагаператрусу тысяча дзевяцьсот сямнаццатага года, калі рабавалі ўсе і ўсё і хлеб каштаваў даражэй за дыяменты. Золата мы адвезлі ў камендатуру і здалі Гродзенскаму павятоваму камісару, палкоўніку фон Плетцу. За такую знаходку Плетц выдаў кожнаму з нас грашовую ўзнагароду і нават паабяцаў, што мы будзем суправаджаць каштоўны груз у Берлін. А гэта два тыдні шыкоўнага і спакойнага ад вайны жыцця. Час ішоў, але ніхто нікуды нас не адпраўляў. У чэрвені 1944 года Саветы пачалі аперацыю «Баграціён». Мая рота была тэрмінова перакінута ў Кёнігсберг, дзе я неўзабаве сустрэў Міколу Харытончыка, які служыў перакладчыкам у фон Плетца і адначасова выконваў абавязкі сакратара. Мы пасядзелі ў нейкім бары, добра падпілі, і тут я ўспомніў пра золата. Што з ім сталася? Харытончык загадкава ўсміхнуўся:

— Памятаеш, чым захапляўся палкоўнік у вольную часіну?

— А як жа, ён займаўся кавальскай справай. Мы яшчэ смяяліся, што цягае за сабой невялікую кузню, як любімую кабету.

— Дык вось, — працягваў Мікіта, — апошнія дзве ночы перад эвакуацыяй Плетц не выходзіў са сваёй кузні і нікога не пускаў туды.

— І што?

— Ён плавіў знойдзенае і канфіскаванае золата.

— І вывез у Германію пры адступленні?

— Не, я ўцякаў разам з ім у бронетранспарцёры. Апроч двух чамаданаў, вельмі лёгкіх па вазе, ён нічога з сабой не вёз.

— А ў самім бронетранспарцёры не мог схаваць?

— Таксама не, — адказаў Мікола. — У Варшаве мы пераселі ў цягнік, пакінуўшы машыну ў гарнізоне. Хто ж кіне столькі золата?

— Тады дзе ж яно? — збянтэжана запытаў я.

— Думаю, што палкоўнік пераплавіў яго ў нешта і схаваў у памяшканні камендатуры.

Прыкладна праз гадзіну мы развіталіся з Міколам, і больш я яго ніколі не бачыў. У тым жа Кёнігсбергу абзавёўся дакументамі прымусова высланага на працу беларускага вяскоўца, дачакаўся прыходу рускіх і вярнуўся ў Саюз. А далей дваццаць гадоў штодзённага страху быць выкрытым, пазнаным... Перад смерцю я хацеў бы хоць крыху аблегчыць сваю грэшную душу. Таму і напісаў вам пра золата...».

Такі вось ліст. Праверку ўсёй гэтай інфармацыі я вырашыў пачаць з наведвання будынка былой камендатуры. Цяпер у двухпавярховым цагляным доме знаходзіцца аддзел жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Перш за ўсё мяне цікавіў падвал. У суправаджэнні слесара Дорахава, які працаваў тут з першага дня арганізацыі службы, мы пачалі падарожжа па неабсяжнай па памерах падвальнай тэрыторыі. Дорахаў аказаўся вельмі гаваркім чалавекам з нядрэннай памяццю для сваіх гадоў. Пакуль спускаліся па лесвіцы ўніз, стары не даваў мне сумаваць.

— Калі ў сорак чацвёртым вызвалілі Гродна, мяне прызвалі ў армію. Якраз васямнаццаць гадоў стукнула. Ну, зразумела, спачатку СМЕРШаўцы праверылі, што рабіў у акупацыі, папалохалі трохі, але не моцна. Ну і даверылі біць фашысцкую гадзіну. На прызыўным пункце далі абмундзіраванне, сухі паёк на два дні і павялі разам з іншымі навабранцамі на вакзал. І тут адзін з нашых хлопцаў заўважыў каля разбітага бомбай дома сваю знаёмую. Імгненна скочыў да яе са строю і — наступіў на міну. Выбух! У вачах агонь, а потым суцэльная цемра. Ачуняў ужо ў шпіталі. Усё як бы нічога, а кісць левай рукі як лязом зрэзала. Але, як сказалі дактары, яшчэ пашчасціла: трох з калоны адразу забіла, чацвярых параніла. Вось і ўся мая служба. Камісавалі па поўнай. Пасля выпіскі прыйшоў сюды працаваць. Спачатку без адной рукі цяжкавата было, але неяк патрохі прызвычаіўся. Далі нам вось гэты будынак. Добры, прасторны, а тут яшчэ ў падвале кузню знайшлі. Кажуць, нямецкі камендант забаўляўся. І добрая такая кузня. Мы яшчэ гады тры яе выкарыстоўвалі: ці падкову якую зрабіць, ці вечка, засаўку. Дзе тады купіш? А жалеза навокал хапала. Так і выкывалі. Ну а потым разабралі кузню і выкінулі.

Мы агледзелі ўважліва адзін пакойчык, другі. Я нават праступаў некаторыя прасценкі. Дорахаў з цікавасцю назіраў за мной, пакуль нарэшце не вытрымаў:

— А што ты шукаеш?

— Ды ёсць інфармацыя, што тут дзесьці можа быць схованка.

Тады стары дастаў са свайго слясарскага чамаданчыка, што трымаў у руцэ, малаток, падышоў да адной са сцен і моцна па ёй стукнуў. Адна з цаглін правалілася ўнутр. За ёй другая, трэцяя.

— Вось твая схованка.

У мяне ад здзіўлення ледзь мову не адняло.

— Адкуль вы, Мацвей Іванавіч, ведалі пра схованку?

— Ну дык я яе ўчора сам заляпіў. Бачыш, яшчэ і не прыхапіла як след.

Я ажно сеў на падлогу.

— А навошта заляпілі?

— Учора прыходзілі два вашыя супрацоўнікі, папрасілі дапамагчы разабраць сцяну. Затым дасталі адтуль дзве скрыні і пагрузілі ў машыну. Добрыя людзі. Нават на бутэльку далі.

У маёй галаве замітусіліся думкі. «Значыць, у лісце напісана праўда. А золата з'ехала з нейкімі фашысцкімі недабіткамі».

Стары сеў каля мяне.

— А што ты так занерваваўся?

— Дык гэта ж былі не нашы, а немцы. А ў скрынях ляжала нарабаванае золата.

Мацвей Іванавіч са спачуваннем паглядзеў на мяне і нават правеў шурпатай рукой па галаве.

— Маладзенькі ты яшчэ, вось і любіш розныя казкі выдумляць. Якія ж гэта немцы, калі Пятроўна аднаго з іх ведае з малога?

Я недаверліва паглядзеў на дзеда.

— Яна якраз прыбірала ў калідоры, калі гэтыя міліцыянты са скрынямі ішлі. Зразумела, ніякай увагі на яе не звярнулі, а Пятроўна, баба цікаўная, добра іх разгледзела. Потым і пытаецца ў мяне: «А што тут Андросік робіць?».

— Андросік — гэта імя ці прозвішча?

— А Бог яго ведае. Я не перапытваў.

Ужо праз гадзіну я ведаў адрас Пятроўны і стаяў каля дзвярэй яе старога драўлянага дома. Адчыніла мне сталага ўзросту жанчына неверагодных памераў. Здаецца, шырыня яе цела перавышала вышыню.

— Вам каго? — строга запытала кабета.

— Васілісу Пятроўну Кавальчык. Я з міліцыі.

Васіліса Пятроўна была жанчынай адзінокай і таму надта гаваркой. Пра што і каго я толькі не пачуў за дзве гадзіны нашай размовы! Але асноўная інфармацыя была атрымана. Андрон Сямёнавіч Хоўтан, злодзей, п'яніца, двойчы сядзеў у турме, жыў праз два дамы ад Кавальчык. Тыдні тры як аб'явіўся ў горадзе пасля чарговай адсідкі. Больш Васіліса Пятроўна па справе нічога дадаць не магла.

Падзякаваўшы за дапамогу міліцыі і гарбату з абаранкамі, пакрочыў я да дома Хоўтана. Яшчэ больш старая, чым у Кавальчык, крыху пахіленая ўбок будыніна цудоўна характарызавала яе гаспадара. Плот вакол дома адсутнічаў, двор зарос пустазеллем, затое былі прыадчынены ўваходныя дзверы (а, можа, яны і не зачыняліся...). Я ціхенька прасачыўся ў дзвярны праём і аказаўся адразу на кухні, калі так можна назваць пакойчык, у якім апроч печы, стала і аднаго крэсла больш нічога не было. Затое на падлозе адразу кідалася ў вочы паднятае вечка люка. Я асцярожна зазірнуў уніз. Нейкія неразборлівыя галасы, цені на сценках, шорганне. Дастаў пісталет, ліхтарык і асцярожна пачаў спускацца па лесвіцы. Падвал быў досыць вялікі па сваіх памерах. Можа, і пад усім домам... У дальнім куце стаялі два мужчыны і нешта перабіралі, схіліўшыся

над ледзь асветленымі газоўкай скрынямі. Я ўзняў пісталет і гучна крыкнуў:

— Рукі ўгору!

Адзін з мужчын спалохана азірнуўся і тут жа ўзняў рукі. А вось другі раптоўна кінуўся на зямлю, перакаціўся да нейкіх бочак і стрэліў. Балюча апякло плячо. Чыста механічна націскаю раз за разам спускавы кручок пісталета. У адказ чую кароткі енк. Не апускаючы зброі, падыходжу да ляжачага. Куля трапіла яму якраз у пераноссе. Імгненная смерць. Паварочваюся да другога бандыта. Той адразу пачынае верашчаць на дзіва тонкім галаском:

— Не страляйце! Прашу, пашкадуйце! Я больш не буду!

І, абхапіўшы галаву рукамі, упаў на калені.

На допыце Андросік, а гэта быў менавіта ён, расказаў, як два тыдні назад да яго завітаў незнаёмец, прынёс гарэлкі, закускі і, назваўшы прозвішча агульнага знаёмага, прапанаваў выпіць. Андросік, зразумела, згадзіўся. А ў застоллі Іван, так прадставіўся госць, выклаў план захопу дзвюх скрынь у памяшканні ЖКГ, паабяцаўшы нядрэнныя грошы. Што ў тых скрынях, Андросіку не сказаў. Аперацыя прайшла гладка: пасведчанні міліцыянераў, якія прынёс Іван, адыгралі сваю ролю. Скрыні вырашылі схаваць у доме Андросіка. Днямі Іван дзесьці адсутнічаў, а па вечарах шчыльна пераглядаў усе паперы, раскладаючы па розных мяхах. Андросіка ж папярэдзіў, каб маўчаў, інакш пасадзіць на пяро. Грошы абяцаў прынесці праз пару дзён.

Паперы аказаліся нямецкім архівам яшчэ з ваенных часоў. З гэтага ж архіву стала вядома, што Іван — Іван Іванавіч Зубаў, камандзір роты зондэркаманды вядомага забойцы, пакаранага Нюрнбергскім судом, капітана Золенгера.

Я адляжаў два тыдні ў бальніцы і вярнуўся на службу. Атрымаў павышэнне ў званні і грашовую прэмію. У мітусні штодзённых спраў пра золата неяк і забыўся. А ў 1995 годзе неяк у кнігарні на вочы трапілі мемуары былога нямецкага афіцэра палкоўніка фон Плетца. Мне падалося гэта прозвішча вельмі знаёмым, пакуль не ўспомніў, што так звалі каменданта Гродна, у якім пачыналася мая службовая кар'ера. Купіўшы кнігу, засеў за чытанне. У адной з частак Плетц падрабязна апісаў і знаёмыя мне падзеі: як паліцэйскай ротай было дастаўлена золата ў камендатуру, як імкліваe наступленне Савецкай Арміі не дало магчымасці яго вывезці з Гродна. І тады палкоўнік прыдумаў выйсце. У хляве за камендатурай валяўся помнік Іосіфу Сталіну, які немцы знялі з пастамента ў Гродне, калі акупавалі горад. Помнік быў з чыстай бронзы, таму яго не разбілі, як іншыя, а па загадзе каменданта перанеслі ў хлеў для кавальскіх забаў. І вось помнік спатрэбіўся. Плетц выліў з канфіскаванага золата руку Сталіну, па-майстэрску схаваўшы каштоўны метал пад слоем бронзы і «састарыўшы» яго. Палкоўнік слушна разважаў: Саветы, вярнуўшыся ў Гродна, абавязкова паставяць Сталіна на пастамент. Дзе той і дачакаецца вяртання нямецкіх войскаў, у чым палкоўнік не сумняваўся. Але гісторыя распарадзілася інакш…

Як вы разумееце, ужо назаўтра я быў у Гродне. Ішоў па вулачках старажытнага горада, і пачуццё настальгіі па мінулым усё больш мяне ахоплівала. А вось і знаёмы будынак, у якім, на дзіва, па-ранейшаму размяшчалася ЖКГ. Старшыня аддзела спярша вельмі здзівіўся маёй цікавасці да Сталіна, але потым патлумачыў, што помнік Сталіну быў дэмантаваны яшчэ ў 1956 годзе і прыкапаны на тэрыторыі ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Успомнілі пра яго ў 1992 годзе, калі вельмі спатрэбіліся грошы на гаспадарчыя патрэбы. Помнік з іншым каляровым металаломам адправілі на металургічны завод у Жлобін на пераплаўку.

Што было далей, старшыня не ведаў, паколькі ў той час тут не працаваў. Вось так і скончылася гэтая залатая гісторыя.

# Водціск быцця



Аляксей КАРПЕНКА

***

*Маўчыць паўсонны далягляд,*
*Прыціснуты нябёсным краем.*
*Размыла ўсе шляхі наўгад*
*Гадзін і дзён нуда густая.*

*Няхай бязглузда страшыць ноч,*
*Хай дзень праменнем не акіне —*
*Цяпер не збочыш. Кроч ды кроч*
*Па вузкай вымаклай сцяжыне.*

*Плячу — не цяжкі груз крыжа.*
*Аддаца шляху — на магіле.*
*Не азірайся. Хай імжа*
*Хавае пройдзеныя мілі.*

***

*Чуеш — час праходзіць мерна?*
*Чуеш водгук моў памерлых —*
*Жытніх злакаў шэпт размыты*
*Ціха ўплёўся ў ветра ніць.*

*Крочыць час хадою ўпартай.*
*Ці гатовы ты, як балты,*
*Ў нетрах земляў старажытных*
*Мову продкаў з цішай зліць?*

***

*З зорных промняў будуй Камелоты,*
*З мрояў — вычварных вежаў слупы.*
*Напляваць, што запэцканым ботам*
*Лёс іх стопча ў скрываўлены пыл.*

*Хай спрабуе даніштчыць жывое*
*У душы, растрапанай ушчэнт.*
*Час замесіць слязой і крывёю*
*Новых мрояў і дзеяў цэмент.*

***

*Хвалі сумуюць, і дні не ў гуморы,*
*Цягнуць часу жгуты.*
*Ные гітарным тупым пераборам*
*Свету абрыдлы матыў.*

*Час і прастора ад болю, няйначай,*
*Звіліся ў скрутку адным.*
*Повязь з найлепшымі днямі аплачаш*
*Енкам распятай струны.*

*Больш не шукай у напеве ссівелым*
*Мрояў сляпых міражы.*
*Тонкай зламанай свячой адгарэлі,*
*Зніклі ў дрыготкім дажджы.*

*Змыюцца тыдні чародкамі кропель,*
*Выльюцца ў змоўклы кацёл.*
*Соннай мінуўшчыны выдзьмуты попел*
*Болей не стане жыццём.*

***

*Куды, бядак, у прыцемках ішоў?*
*Згусцее сінь, зальe шляхі старыя.*
*Ад дзённых жахаў Бог цябе накрые*
*Нябёсаў перакуленым кашом.*

*Дарма шукаў між дзённае маны*
*Спакой душы ды спакушаўся нечым.*
*Сляпому паратунак у адным —*
*Забыць святло, разліўшыся ў цямрэчы.*

***

*Шукае рысаў скончаных аловак.*
*Шукае дзень змяркання і начы.*
*Старонак белізну шукае слова,*
*Каб у спакой радком перацячы.*

*А хтосьці на Парнас па ім даплысці*
*Спрабуе — і дарма шукае плынь.*
*Тупік быцця з сябе шукае выйсця.*
*…А я штодня шукаю напамін*

*У водгуках, вятрах і небакраі*
*Аб горадзе сівым і не старым,*
*Дзе між адбіткаў ты мяне шукаеш*
*У роўнядзі застуджаных вітрын.*

***

*Парахнеюць часу латы.*
*Сон сцірае думак вязь.*
*Белы свет пустой палаты*
*Сам сабе панок ды князь.*

*Ціша змушанага міру.*
*Хвіль размытых стыне мазь.*
*Сам сабе суддзя і вырак.*
*І бясплодных думак князь.*

***

*Народзін верша не чакай*
*У дні навязлага спакою —*
*Старонкі брудам паўрадкоўяў*
*Дарма абмахвае рука.*

*Хай верш народзіцца ў пару,*
*Калі рашуча не да вершаў.*
*І крыкам сам сябе давершыць —*
*Распудзіць клопатаў гару.*

*Пляваць, што ўздыхаў не стае*
*Між дзён — вар'яцкіх карагодаў.*
*У кволай музы прымеш роды*
*І на каленяў двух сталe.*

***

*Час заб'е сябе ўтрапёна*
*Колкім джалам скарпіёна —*
*Колам выгнуты ўваскрэсне —*
*Перальецца ў свой працяг.*

*Паміж тыдняў вязкіх, прыкрых*
*Застывае часу выкрык —*
*На закрэмзанай паперы*
*Водціск хворага быцця.*



Фота www.pictures.net

***

*Вакол цябе — не твой апошні свет.*
*Няма з малых перараджэнняў выйсця.*
*І ты не той, якім памрэш калісьці.*
*Нязменнай не знайсці ў сярод планет.*

*Твой свет мінулы і ўчарашні ты,*
*Прагнынутыя плынню інкарнацый,*
*Асуджаныя перанараджацца*
*За днём штодня — да вечнай немаці.*

*Змяняцца да жаданняў, мрояў, сноў,*
*Да жыццядайнай плазмы ў русле венаў…*
*Дзіцячы грэх — лічыць сябе нязменным —*
*Забудзь. І паўтары назаўтра зноў.*

***

*Шалеючы без прычынаў,*
*Сусвет праваліўся скопам*
*У розум — акно расчыненае,*
*Бы ў прагную глотку раскопу.*

*Фігурамі,*
*формамі,*
*фарбамі*
*Кіпела быццё стракатa,*
*Ірвалася ў розум аслаблены,*
*Крышыла замкі і краты.*

*І зносіла*
*плынню*
*вар'яцкай,*
*Шалёнай дурной ракою…*
*Але пакрысе, не знянацку,*
*Наблізіўся цень супакою.*

*І ў смутку заплакаў бязмежным*
*Над мёртвым суцішаным вірам,*
*Што белая панна у снежні*
*Шаўковай пятлёю забіла.*

*І песняў*
*вар'яцкіх*
*водгук*
*Падхопіць адна завея.*
*Апошні прамень знямоглы*
*Бадай да Каляд дакалее.*

***

*П'янай хваляй Дняпра ахрышчаны,*
*Ветрам стылым, тугім спавіты.*
*Сэрца слёзы па кроплі вышчыміш*
*На паперы малочнай пліты.*

*Хай зліюцца, застынуць, згорнуцца*
*Пырскі радасцяў, ісцін, болю.*
*Між адценняў губляюць розніцу,*
*Нараджаюць суцэльны колер.*

*Хай кладуцца на памяць горам,*
*Спевам, следам нябачных войнаў —*
*Як адчайная чырвань чорным,*
*Да нямой чарнаты чырвоным.*

***

*Жаданы велічны сусвет*
*Спрабуй абняць старой душою —*
*А ён зірне ў адказ пустою*
*Вачніцай з мошкамі камет.*

*Блукай між зораў, каб страчаць*
*Абдоймы мілае пустэчы.*
*Каго суцешыць, што залечыць*
*Амаль памерлы, збіты час?*

*Маўчыць гадоў сівая твань*
*У цемрадзі ўсяленскай комы.*
*Няўлоўны, срэбны, ртутны момант*
*Між друзу вечнасці дастань —*

*Мільгне між цемрадзі нямой*
*Сваім крывым адлюстраваннем, —*
*І сам тваім сусветам стане,*
*Пустэчу поўнячы сабой.*

# Спецзаданне

**Урывак з аповесці**



Янка ТРАЦЯК

Антось убачыў на сваім падворку тры постаці, адна была знаёмай — таварыш старшына. Падумаў, што партызанская нахабшчына не мае межаў: сярод белага дня ў адкрытую… А калі хто заўважыць і данясе немцам? Тады што?!

Яшчэ дзве постаці Антось заўважыў за гумном і дзве каля Пуценькавай хаты. Хата свяціла пусткамі — савецкі актывіст Пуценька знік бясследна ў першыя дні вайны; за ім знікла і жонка яго — Марта.

— Пройдзем у хату, — прагаварыў старшына. — Дзела есць.

— У хату не пойдзем, пойдзем у паветку, — прапанаваў Антось.

Калі што якое, дык Антось будзе мець хоць нейкі аргумент, маўляў, прыязджалі людзі з мястэчка, хацелі купіць сячкарню.

— Не, — запярэчыў старшына, — не спецыяліст я па паветках лазіць. Пойдзем у хату.

— Яно дык так, якія ж спецыялісты, партызаны сена не ядзяць, а там жа, у паветцы, адно сена, — адзначыў сумна Антось. — Але цяпер і ў хаце нічога няма.

— Не хвалюйся, тое, што нам трэба — мы знойдзем, — даволі спакойна прагаварыў старшына, не звяртаючы ўвагі на Антосеву рэпліку.

Зайшлі ў хату. З дзяцей былі толькі меншы Чэсік з суседскім Мікіткам (сынам Шаргуна).

— А дзе твае дзеўкі? — спытаў старшына.

— Якія дзеўкі?

— Дарослыя! Не аднеквайся — я сам бачыў. І нам добрыя людзі пра цябе шмат чаго цікавага расказалі…

— Няма ў мяне дзевак, ёсць толькі дзеці…

— Дзеці, кажаш? Ты старэйшую толькі што адмазаў ад вывазу ў Германію, і меншай гады ўжо падыходзяць… Мы ўсё ведаем. Мы нават ведаем тое, чаго немцы не ведаюць. Дык дзе дзеўкі?

— А няма, у мястэчку недзе…

— А калі будуць?

— А я не ведаю, могуць у сваякоў заначаваць…

— Так, дзеці, а ну пайшлі вон адсюль! — закамандаваў старшына, і калі Чэсік з Мікіткам выйшлі, звярнуўся да Антося:

— Нам спяшацца няма куды, у нас спецзаданне… Зараз сходзіш і прывядзеш сваіх дзевак.

— Таварыш старшына, — умяшаўся ў гутарку другі партызан. — У мястэчка пускаць яго нельга — там нямецкі гарнізон, хто ведае, што за чалавек… Вернецца з гарнізонам…

— Тагды будзем тут чакаць!

— Дык, пан старшына, а навошта дзеўкі? Вы ж гаварылі пра нейкае дзела…

— Фашызм аказаўся вельмі моцным арэшкам, і барацьба з ім зацягнулася не на жарты. А тут і дзела такое, што без дзевак тваіх аніяк нельга.

— Не, начальнік, вы дзевак маіх сюды не блытайце — малыя яшчэ. Калі што, можа, я спатрэблюся?..

— Ты?! — старшына рассмяяўся. — Там, дзе патрэбны дзеўкі, ты не справішся… Га-га-га!

— Не, так справа не пойдзе, неяк ужо самі вы там з фашызмамі сваімі разбірайцеся, без дзевак маіх…

— Разбяромся з усімі… А тут без дзевак тваіх аніяк, — быццам бы больш угаворваў, чым тлумачыў старшына. — Панімаеш, заданне ў нас баявое ад камандзіра нашага: знайсці яму верную саратніцу, вось такую Надзею Крупскую, якая і гаспадыняй магла б быць добрай і… ну, што тут казаць… і каб каханкай, і палюбоўніцай магла б быць спрытнай… Такое вось няхітрае дзела…

— Ах вось яно што! — ахнуў ад нечаканасці Антось. — Дык вам прасталытка патрэбная, а пры чым тут мае дзеўкі…

— Во, во, лытка якраз і патрэбна! А дзеўкі твае мне запалі ў вочы, я думаю, што і камандзіру спадабаюцца.

Тое, што дзеўкі яго западаюць у вочы мужчынам — гэта і сам добра ведаў Антось. Калі ўжо сам ксёндз барунскі кінуў быў вока, дык што ўжо гаварыць пра астатніх.

— Яшчэ, вось што, хазяін, — гаварыў старшына. — У цябе выхаду няма гэтак жа, як і ў тваіх дзевак: іх забяруць у Германію, і будуць там немцаў абслугоўваць у публічных дамах… А я прапаную выхад: быць баявой сяброўкай краснага камандзіра. Ты адчуваеш, дзядзька, розніцу?

— Абслугоўваць краснага камандзіра?

— Але ж розніца якая!

Антось чамусьці розніцы не адчуваў.

— А калі дачка не захоча быць сяброўкай твайго камандзіра? — спытаўся Антось у надзеі хоць на якую-небудзь чалавечнасць і разуменне ў такіх няпростых адносінах між жанчынамі і мужчынамі.

— Мы забяром яе сілай, а хоча яна ці не, ці ты гэтага не хочаш — нас не цікавіць… А там камандзір хай сам з ёй разбяроцца. У нас спецзаданне, панімаеш? За невыкананне спецзадання ва ўмовах ваеннага часу можна схлапатаць вышку, панімаеш?

Антось заўважыў, што старшына гаварыў добрай трасянкай, пры тым стараўся звяртацца да яго на беларускай мове, а да сваіх калегаў — на расейскай. З гэтага можна было зрабіць высновы, што старшына калі не быў з тутэйшых, дык быў з усходняй Беларусі, але ад гэтага Антосю лягчэй не рабілася.

Дочкі былі ў Старых Ракавічах. Разам з маці і меншымі дзецьмі капалі бульбу на цесцевым полі. Казалі, калі скончаць трохі раней, дык прыйдуць дахаты, а калі не — застануцца там начаваць. Даць ім знаць, каб не прыходзілі — зараз немагчыма. І Антосю заставалася толькі адно: глядзець у вакно на вуліцу і чакаць. Чаго чакаць?..

Дзеці, Чэсік з Мікіткам, знайшлі занятак на падворку: ладзілі сабе каламажкі. А пасля агледзеліся і кінуліся былі ўбок Старых Ракавічаў, і Антось абрадаваўся іх кемлівасці. Але напярэймы ім з вялікага куста бэзу выскачыў партызан і перагарадзіў дарогу. Яны нешта тлумачылі яму, нешта расказвалі, паказвалі, але далей бэзавага куста ён так іх і не пусціў…

— Таварыш старшына, ты кажаш — сілай, гвалтам, але што ж гэта за каханне такое, гвалтоўнае. Што ж гэта за любоў такая, калі бабу гвалтам — аніякай радасці, згадзіся…

— А ты хочаш, каб каханне ўзнікла? Каб красны камандзір тут з кветкамі пахадзіў, серэнады пад вакном паспяваў? Ты гэтага хочаш? — перабіў Антося старшына.

— Не, серанадаў тут не трэба… Мае дзеўкі непісьменныя, нейдэйныя, да таго ж каталічкі… неспрактыкаваныя… Камандзір будзе вельмі незадаволены такім выкананнем спецзадання…

— А камандзіру абы баба была…

— Слухай, начальнік, а вось, каб так прыйшлося табе, ты сваю дачку аддаў бы для такой ролі?

— Для мяне, як для бацькі, дачка з красным камандзірам — гэта быў бы вялікі гонар! — усклікнуў старшына, і відаць было, што ён і сапраўды ганарыўся б гэтым.

Не, відаць, разлічваць на нейкую чалавечнасць з гэтымі людзьмі не даводзіцца. А што рабіць? Чаму гэты свет такі няроўны?.. Ці гэта час такі… Чаму аднаму што ў радасць — другому ў гора?.. І дзе той выхад шукаць?..

— А ну-ка глянь, ці не твае там бабы цягнуцца? — перабіў Антосевы роздумы старшына.

З Багданоўкі, па дарозе праз Бутрымаўшчыну, няспешна ішлі тры жаночыя постаці. Вядома, што Антось іх пазнаў, і сэрца яго затахтала ў грудзях.

— Ну, твае?

— Я не магу пазнаць, — прагаварыў Антось. — Я нізкі на вочы.

— Затое я пазнаў. Вунь тую, вышэйшую, забяром, — старшына меў на ўвазе старэйшую дачку Стэфку.

Антось напружана глядзеў у вакно і чакаў.

— Ты глядзі — і меншая нічога. А ці не забраць нам абедзвюх? — гаварыў няведама каму старшына, гледзячы ў вакно. — У камандзіра выбар будзе…

Ну, вось і ўсё, падумаў Антось, паспее ён толькі адзін раз даць у гэтую ненавісную і абрыдлую морду, і ўсё для яго скончыцца.

Ён ужо і павярнуўся, каб добра размахнуцца, але тут убачыў, як адзін партызан разам з Чэсікам, быццам напярэймы, шпарка беглі ў хату, і гэтак жа шпарка, у адзін голас, з парога аб'явілі:

— Немцы!

— Дзе? — спахапіўся старшына.

— І там, і там, — у розныя бакі развёў рукою партызан.

— Значыць, ужо акружылі, гáды, — злосна прагаварыў старшына. — Нехта данёс…

— Ну не я ж, — адгукнуўся Антось.

— Так, сяржант, слушай каманду: всем быць на сваіх пазіцыях: хлеў, гумно, куст, лапухі; замаскіравацца і не выдаваць себя ні в коім случаі. Не страляць, што бы тут не прасходзіло. Адкрываць агонь толькі пасля майго выстралу. Усё, перадай астатнім. Я буду тут, у хаце.

Пакуль партызаны разбіраліся з пазіцыямі, Чэсік вышмыгнуў на вуліцу і пабег насустрач жанчынам.

— Во, смаркач, і не стрэліш! — злосна прагаварыў старшына ўслед малому.

І бачыў Антось праз вакно, як Чэсік дабег, нешта ім казаў, а пасля ўсе рэзка павярнулі назад і подбегам прыспешылі ў Багданоўку. Антось уздыхнуў з палёгкай: адно ліха на гэты раз пранесла другое.

— Калі не падзеля нас з'явіліся тут немцы, дык немцы прыедуць і паедуць, а мы застанёмся, — прагаварыў старшына. — Далёка твае дзеўкі не ўцякуць.

— Каб жа так, — засумняваўся Антось. — Вы прыходзіце і адыходзіце, а немцы пасля разборкі чыняць. Невядома з якімі мэтамі яны і цяпер наляцелі. Калі што, старшына, дасі мне пісталет, адстрэльвацца будзем разам.

Старшына паглядзеў на Антося, але нічога не сказаў.

Вёску ніхто не акружаў. Два матацыклы з каляскамі кацілі праз Бутрымаўшчыну, а невялікі бронетранспарцёр на добрай хуткасці ляцеў з Клышкаў. За ім сунулася крытая брызентам машына. Каля хаты Шаргуна адна і другая тэхніка спынілася. З вакна хаты добра праглядвалася ўся панарама падзеяў, якая адбывалася на суседнім падворку. Некалькі салдатаў і паліцэйскіх (старшына налічыў дзесяць чалавек) акружылі хату, а пасля вывелі ўсю сям'ю на падворак: старая маці, жонка Аксіння і пяцёра дзяцей — старэйшаму сыну было каля пятнаццаці, наймалодшай дачурцы — шэсць. Камандаваў гаўляйтар. Было відаць, як ён нешта напачатку гаварыў, а пасля пагладзеў на гадзіннік.

— Даў, відаць, хвіліну на роздум, на прызнанне, — прагаварыў старшына. — А ў чым справа, ты, дзядзька, не ў курсах?

— Гаспадар недзе знік з канём і возам, — неахвотна прагаварыў Антось, — а чуткі пайшлі, што ён у партызанах — на яго калі партызаны на заданні ездзяць у суседнія вёскі…

— А, вось яно што… За сувязь з партызанамі, значыць… А што-небудзь яго жонка і дзеці пра партызанаў ведаюць?

— Адкуль?..

А на падворку Шаргуна падзеі разварочваліся вельмі хутка. Гаўляйтар біў Аксінню кулаком у твар і нешта крычаў. Дзеці стараліся акружыць маці, але паліцэйскія раскідвалі іх у бакі рукамі і нагамі, а два немцы дабівалі прыкладамі. Заўважыў Антось, што паліцэйскія былі не тутэйшыя. Старая маці Шаргуна кінулася на калені перад гаўляйтарам, але ён ударыў яе нагой так, што тая злегла нерухома. Урэшце двое паліцэйскіх увішна пачалі здзіраць адзенне са старэйшай дванаццацігадовай дзяўчынкі і павалаклі за вугал хаты.

Антось не вытрымаў:

— Старшына, ты бачыш, што робіцца, ну, зрабі што-небудзь!

Старшына маўчаў, старшына быў спакойным.

— Вы, партызаны, маць вашу! — абурыўся Антось. — За гэты час мог бы хто-небудзь зайсці з боку гаю, даць чаргу з аўтамата, напалохаць немцаў, хоць здзеку і гвалту гэтага не было б… Старшына!

— Дзядзька! У нас ёсць загад: у аніякія сутычкі з немцамі і паліцаямі не ўступаць, тым больш, што мы на спецзаданні…

— На спецзаданні… курву знайсці для камандзіра…

— Да, спецзаданне… пад носам у самага немца, сам бачыш — гэта тое, што языка на фронце даставіць у штаб арміі… А ты тут такімі словамі кідаешся…

Антось рэзка рвануўся да дзвярэй — яму прыйшла шалёная думка пра карабін, які даў яму на схованку шваґер Яська, перад высылкай у Сібір. Карабін той быў прыхаваны ў застрэшку гумна. Да гумна можна было прайсці неўпрыкметку. Але да Антося гэтак жа рэзка кінуўся старшына з рэвальверам у руцэ і перагарадзіў дарогу.

— Выстрелю, — вельмі спакойна і пераканаўча працадзіў ён скрозь зубы.

А між тым на падворку Шаргуна крывавая бойня падыходзіла да свайго завяршэння. Гаўляйтар махнуў рукой аўтаматчыкам, сказаў нешта паліцэйскім. У крытую машыну паліцаі закідвалі акрываўленых дзяцей; туды ж запхнулі і Аксінню. Пасля адзін паліцай прыпёр карністру, прабег вакол хаты. Полымя рэзка шуганула ўверх. Немцы некалькі хвілін пастаялі, пасля няспешна ад'ехалі да гасцінца і там затрымаліся, перакурылі, спакойна пазіраючы на вогнішча над вёскай.

У хаце першым загаварыў старшына:

— Дзядзька, калі б мы адкрылі агонь па немцах, дык заўтра такое полымя было б над кожнай хатай, і ад вёскі засталіся б адны галавешкі і абгарэлыя чалавечыя косці…

— Дзевак зараз я сваіх не знайду, каб нават і сам моцна захацеў, — сказаў Антось. — Што я магу зрабіць? Можа, узамен табе нешта прапанаваць… карову, свінню, курыцу?

— Ты што, дзядзька, здзекуешся: я камандзіру заместа дзеўкі свінню падсуну?

— Тады прабач! Мне трэба падысці на папялішча, бачыш, людзі сабраліся.

— Ідзі! — дазволіў старшына. — Толькі май на ўвазе, калі што — ты на прыцэле…

Калі Антось вярнуўся ў хату, старшына сядзеў за сталом і як не ў чым не бывала жвава ўплятаў капусту з варанай у лупінах бульбай.

— Можа, дзе гарэліца ёсць? — пацікавіўся ён, убачыўшы Антося.

— Чамярыцы б табе, — абыякава адказаў Антось. — Але няма ні таго, ні другога…

— Ну а там што? — спытаў старшына, запальваючы папяросу і ківаючы ўбок папялішча.

— Там усё пагарэла… Старую заўтра хаваць будзем…

— Заўтра, кажаш… А твае заўтра аб'явіцца?

Антося пачынала разбіраць злосць:

— Слухай, старшына, а што, свет клінам сышоўся на маіх дзеўках?

— Ну, глянулася яна мне, спрытная такая, ладная… Такая камандзіру была б вельмі да спадобы… Нейкі ты, дзядзька, не згаворлівы… А я магу зрабіць так, што ты ўсёй сям'ёй прыляціш да нас у лес, шукаючы паратунку ад немцаў… У Мілідаўшчыне добрыя людзі хлеба папрасілі ў гаспадара, а ён выскачыў з абрэзам, шум падняў… ледзь уцяклі…

— І што? — не зразумеў Антось.

— Што? Пасля ў яго хата згарэла… Хто падпаліў, невядома… А каб каго застрэліў з партызанаў, дык і вёска магла б уся згарэць… Немцы… Няшчасны выпадак…

— Ах вось ты пра што!

— Вот іменна! У цебя нету выбару…

Антось маўчаў.

«І ён пра выбар. Але чаму так складваецца, калі ён сапраўды не мае выбару? І 22 чэрвеня, калі яго з сям'ёй вывозілі ў Сібір, не было выбару, але пачалася вайна, і сям'я засталася…»

— У цебя і шанцу няма, — гаварыў старшына. — Вайна… Ты ведаеш, дзядзька, мне прыйшла ў галаву вялікалепная ідэя: мы зараз, як добра прыцямнее, пойдзем з табой да тваіх дзевак, дзе б яны не былі, і адтуль пойдзем разам да камандзіра. Калі хочаш, можаш і ты разам пайсці, пазнаёмішся з зяцем… Гэта ж вялікалепна…

— Каб ты апрогся, вялікі лепнік, разам са сваім камандзірам, — спакойна прагаварыў Антось.

Старшына, было відаць, не зразумеў, і перапытаў:

— Ну дык як, пойдзем?

«А калі яго прыкончыць тут, — разважаў Антось, — знянацку патэльняй па галаве, пасля неўпрыкметку можна сысці з хаты, узяць дзяўчат, дзяцей і… куды? У лес, да партызанаў? Ці, можа, у Крэва, да летувісаў, да немцаў? І яны цябе пашкадуюць, прылашчаць… Дзяўчат, можа, і прылашчаць, а патрэбен ты ім з дзецьмі?..»

— Чаго маўчыш? У шмоньцы тарчыш, — перабіў яго роздум старшына.

І тут раптам Антось аж падскочыў, акрылёны ідэяй:

— А што, калі пашукаць у вёсцы дабравольцаў, для якіх спаць з камандзірам партызанскага атрада было б вялікім гонарам?! І гэтым уносіць свой уклад у абшчэнароднае дзела ў барацьбе з праклятымі ворагамі…

— Так, добра гаворыш, як агітатар. Але далей што? — зацікавіўся прапановай старшына. — Нам што — абвесткі развесіць?..

— Ёсць у вёсцы прыгожыя дзеўкі, але на людзі не паказваюцца, бо былі актывісткамі, камунаркамі. Вось такая за чырвонага камандзіра, калі што, і жыцця свайго, альбо, як поп кажа, жывата сваега, не пашкадуе…

— Ну, дзядзька, ты і сказануў… Жывот камандзіру ані ў якім разе не патрэбны — не да жывата зараз. А вось наконт камсамольцаў-дабравольцаў — гэта можа быць… А я думаў, што ты, дзядзька, трохі тупаваты…

— І камандзір будзе задаволены… бо яна ж будзе яму і ў рот, і ў куды хочаш глядзець…

— Мне б такую! — узрадаваўся старшына. — Абы толькі мордай выйшла!

— Можна пашукаць і з мордай, і з лыткай не брыдкай, і кумпяк не абы як…

— Так, так, бліжэй да цела: гэта ж — варыянт. Імя, прозвішча, дзе жыве?

— Не, пачакай, зараз прыйдзе мой старэйшы хлапец, хай ён напачатку перагаворыць з гэтымі дзяўчатамі, і калі будзе згода, наладзім вам сустрэчу ў дамоўленым месцы, каб ніякага гвалту, ніякага крыку, каб толкам усё было.



Фота www.russian7.ru

Пецьку доўга чакаць не прыйшлося. Антось коратка выклаў яму сутнасць справы:

— Падыдзеш да Зінкі, не — лепш да Клавы. Скажаш так: «Савецкі баявы ахвіцэр, камандзір партызанскага атрада, шукае сабе баявую сяброўку, якая дзяліла б з ім увесь цяжар суровых партызанскіх будняў у бязлітаснай барацьбе з ненавісным ворагам нашай неабдымнай савецкай Радзімы…».

— Стой! — перапыніў старшына. — Гэта скажу я, толькі мне запісаць трэба… Мне пасля камандзіру дакладваць… А ты, хлапчына, скажаш, што з ёй хоча сустрэцца адзін чалавек з Вялікай Зямлі па вельмі важнай справе, і не больш… Разумееш?

— А мне дык што… Як скажаце, так і зраблю. Усё? — Пецька з гатоўнасцю накіраваўся да дзвярэй.

— Калі Клава будзе згодна, прыйдзеш і даложыш, а Клаве скажаш, хай лямпу не запальвае, — дадаў Антось.

Клава прыехала аднекуль з Савецкай Беларусі. Перад вайной выйшла была замуж за Эдзіка Савіцкага, мясцовага хлопца з суседняй вёскі, і, можа, добра жылі б, калі б не трапіла Клава на вочы чырвонаму оперу Цэрберу. І неўзабаве Эдзік Савіцкі стаў асабістым ворагам Цэрбера, а пасля паступова «пайшоў на павышэнне»: абвясціў яго Цэрбер ворагам народа. А пасля Эдзік даведаўся, што ён яшчэ з'яўляецца англійскім, кітайскім і японскім шпіком. Дайшло да таго, што аформіла Клава з Цэрберам свайго мужа (каб не перашкаджаў ажыццяўляць савецкую змычку на вёсцы) этапам у Сібір. І закруціліся яны ў распусце, бо ведама: абодва актывісты — шмат агульнага. А калі пачалася вайна, знік недзе Цэрбер, кінуўшы яе адну на волю лёсу. І лёс гэты быў бы для яе пры немцах незайздросным як камсамолкі і актывісткі, калі б не адзін мясцовы паліцай, які стаў да яе заляцацца і ўзяў яе пад сваю паліцэйскую апеку. Так і атрымалася, што жыла Клава цяпер адна, і баяцца ей не было чаго, апрача партызанаў, якія могуць не зразумець Клавінай здрады савецкаму оперу Цэрберу. Ды, па вялікаму рахунку, ёй усё роўна было, з кім дзяліць цяжар вайны: з паліцаем ці з чырвоным камандзірам. Праўда, з чырвоным камандзірам яно можа і лепш, больш патрыятычней і, можа быць, больш перспектыўней…

Калі добра сцямнела, павёў Пецька старшыну на сустрэчу з Клавай. Тая, як толькі даведалася, з якой мэтай да яе завіталі партызаны, так і кінулася з радасным піскам старшыну на шыю…

Антось хутка справіўся з гаспадаркай і меў намер прылегчы і адпачыць, хоць і ведаў, што нармальнага адпачынку не будзе і наўрад ці ўдасца заснуць. Дзень сёння быў страшным. І як сябе не супакойваў Антось, але на душы, на сэрцы было цяжка і прыкра.

У гэтую ноч яны засталіся з Пецькам у хаце ўдваіх, астатнія там, у Старых Ракавічах. Пасля таго, як саветы сям'ю цесця арыштавалі і вывезлі, у яго хаце нейкі час жылі прыезджыя спецыялісты па «будаўніцтву савецкай дзяржавы». Цяпер хата пуставала і пераначаваць было дзе. А так яно, можа, і спакайней.

Сон не ішоў, і раптам Антось пачуў, як асцярожна рыпнулі дзверы ў сенцы, і там пачалася нейкая валтузня.

— Тата, вы ў хаце? — шэпатам спытаў Ясь.

Яго меншыя хлопцы, Чэсь і Ясь, неслі ў хату акрываўленага Мікітку.

Антось запаліў лямпу. Мікітка нешта трызніў. У малога, відаць, было прастрэленае плячо. Антось паслаў Яська па крываўнік і трыпутнік, а сам, з Чэсем, як умеў, прамыў рану вадой. Пасля ў шафе знайшлі нейкія стужкі паркалю і перабінтавалі плячо.

— Заўтра на раніцы збегаеце па маці, трэба, каб яна паглядзела, — разважыў Антось. — А зараз — спаць.

Зразумела, што пасля ўсяго, што адбылося, было не да сну. Трызніў Мікітка, шапталіся між сабою хлопцы, і Антось доўга ляжаў з адкрытымі вачыма. А пасля ўсё прыціхла, і Антось амаль што быў задрамаў, як тут бразнула клямка і аднекуль здалёку данёсся знаёмы і абрыдлы голас:

— Хазяін, ты гдзе?

«Што гэта, — падумаў Антось, — начны кашмар ці ўсё яшчэ дзённы працягваецца?..»

— Тата, чалавек пагаварыць хоча, — Пецька злёгку тузануў яго за нагу.

— Каб ты, сынок, ведаў, як гэты чалавек мне сёння надаеў сваёй гаворкай, дык задушыў бы яго па дарозе, — спакойна прагаварыў Антось, падымаючыся з ложка.

— Всё шутіш, шут, ну-ну, — не пакрыўдзіўся старшына. — Ты б відзеў, дзядзька, як яна мне на грудзі кінулася!.. Камандзір будзе задаволены… Я, так думаю, што і нам нешта перападзе…

Антось не адразу зразумеў, пра што гутарка. А старшына паказаў рукамі некалькі пахабных рухаў і гэтак жа пахабна рассмяяўся.

— Чаго хацеў, старшына? — Антось прыгледзеўся і ўбачыў, апрача Пецькі і старшыны, яшчэ дзве постаці.

— Першае: ты яшчэ раз скажы, як там: «Савецкі баявы камандзір партызанскага атрада шукае сабе…». Каго шукае?

— Прасталытку, — падказаў Антось. — Дык жа знайшоў ужо, чаго ты яшчэ хочаш?..

— Чаго знайшоў? О, там у цябе было добра сказана, усё роўна, як у партызанскай клятве, як там?

— Пецька, нагадай яму, я ўжо і сам не помню.

— Шукае баявую сяброўку, якая дзяліла б з ім увесь цяжар і нягоды суровых партызанскіх будняў. Здаецца, так, — успомніў Пецька.

— О! Суровых партызанскіх будняў. Слязу прашыбае. Трэба запісаць! — старшына дастаў з нагруднай кішэні шматок газеты і, слюнявячы аловак, пачаў пісаць.

— Старшына, я ж цябе прасіў больш у хату не заходзіць, — нагадаў Антось.

— Ну што за народ! Ніякай прыязнасці да гасцей. Што значыць не заходзіць? — абурыўся старшына. — Мы з табой, дзядзька, адно важнае спецзаданне камандзіра выканалі, засталося яшчэ адно…

— Усе астатнія заданні цяпер выконвай з Клавай, а мяне не чапай, — катэгарычна заявіў Антось.

— Засталася свіння! — амаль урачыста прагаварыў старшына.

— Якая свіння? — не зразумеў Антось.

— Ты ж казаў, магу даць карову, свінню, курыцу… Казаў?

— Дык жа я так, адчэпнага, казаў…

— Вось адчэпнага і давай. Толькі я тут сам сабе падумаў, а навошта нам курыца, праўда, хлопцы?

— Не, не! Курыца нам не патрэбна, — заківалі галовамі ў знак згоды хлопцы.

— Свінню давай! А не, дык будзем шукаць тваіх дзевак, не сёння, дык заўтра, паслязаўтра… пакуль не знойдзем… Праўда, хлопцы? — старшына кіўнуў сваім калегам. — А мы іх абавязкова знойдзем! Знойдзем, а там хай камандзір разбіраецца…

— Ты, гэта, старшына, сур'ёзна?.. Вам, што — рабіць няма чаго, як толькі гарэм для камандзіра збіраць?

— Якія жарцікі, вайна ідзе! А дзевак мы і сабе можам пабраць! Свінню давай, я табе сказаў! Нам вяселле камандзіру трэба будзе спраўляць.

— Дык няма ў мяне свінні…

— А калі знойдзем?.. Ты што, забыўся: «За сопротівленіе советской власті в условіях военного времені — расстрэл…». Пазорная смерць! Свінню давай! — апошнія словы старшына амаль што выкрыкнуў.

— Дык жа няма!

— Ты не понял! — і старшына рэзка ўдарыў Антося ў твар.

«А і сапраўды могуць забіць, — падумалася Антосю. — І хоць разумеем адзін аднаго без перакладчыка, але гэта ж такія чужыя людзі, як і немцы, як і "акаўцы", як усе тыя, хто праходзіў праз яго падворак, і тут ужо не важна, куды яны ішлі… Чакаць ад іх літасці — марная справа».

— Дык дзе свіння? — чуў ён над сабою голас старшыны. — Давай лепш ціха, па-добраму, каб ніхто не бачыў нас тут, каб не паўтарылася заўтра тое, што бачылі мы сёння на падворку Шаргуна. Давай, давай, табе ж лепей будзе без свінні! Совесць будзе чыстай…

— У хляве, справа, за драўлянай перагародкай…

— Во дзе народ! Пакуль у морду не дасі, нічога не даб'ешся, — задаволена прагаварыў старшына. — Пайшлі! А ключы?

— Пеця, дай ім ключы…

Пецька зняў са сценкі ключ.

— Сякеру! — зноў запатрабаваў старшына.

Пецька з-пад лавы выцягнуў сякеру.

— Во, цяпер пайшлі, — старшына кіўнуў галавой сваім ваякам.

— Пецька, будзь у хаце, я пайду, — Антось памалу падняўся з падлогі. — Толькі, старшына, мяне не ўблытвайце, я буду стаяць воддаль, каб не падумалі, што сам прывёў і аддаў.

— Стой дзе хочаш, — абыякава прагаварыў старшына.

Трэба прызнаць, што свінню яны забралі акуратна, без аніводнага лішняга стуку, свіння нават не піскнула, як цюкнулі ёй абухом па галаве, а потым чатыры чалавекі лёгка яе панеслі за гумно і ўскінулі на павозку. Відаць было, што добрыя спецыялісты былі яны ў гэтай справе. Антось да іх не падыходзіў, толькі не ўтрымаўся, калі ўбачыў партызанскі вазок і каня, — і падышоў бліжэй. Хоць ноч не была светлай, але немагчыма было не разглядзець плямістага гнядога коніка, падвязаную банцікам грыву і белую зорку на ілбе. Па гэтай зорцы Шаргун і каня свайго празваў Зоркай…

Антось шпарка адышоў ад каня, бо да яго сунуліся хлопцы са свіннёй, і стаў каля гумна. Апошнім ішоў старшына, і калі ён параўняўся з Антосем, ён ціха прагаварыў:

— Убачыш там можа дзе Шаргуна, раскажы, як было…

— Не раскажу…

— Чаму?.. Хай ведае чалавек…

— Забілі яго, — выбухнуў старшына і пайшоў да воза.

— Як? Хто? За што? — залпам выкрыкнуў Антось, але старшына нічога не адказаў.

Даганяць яго і паўтараць пытанні не было сэнсу.

# Зазірнуць за далягляд



Ігар ШАРАЙ

***

*Ну вось і развіталіся з даўгамі.*
*Ніхто ні ў чым не вінны, далібог.*
*Не блытаюся болей пад нагамі,*
*Хоць і хацеў прыснуць ля Вашых ног.*

*Сказалі, што вясна, вясна ўздыхнула.*
*А я — што хутка стрэціць халады...*
*І доля, як заўсёды, падманула.*
*Ды ў гэты раз, здаецца, — назаўжды.*

***

***Ульяне***

*Выбачай, жыву — нібы астрожнік,*
*Бы адзінай хваляю жыву.*
*Ды й дагэтуль звабна і трывожна*
*Зноў і зноў трымацца на плыву.*

*Сонца ацвярэзіць аблачынку*
*І не дасць азмрочыць новы дзень.*
*Штосьці ты яшчэ прысніш, дзяўчынка,*
*Пасярод сталеючых надзей.*

*Потым, уваскрэснуўшы ад сненняў,*
*Аж да дна душу перэтрасеш.*
*Толькі б не зазнаць супакаення*
*Тых, каго спакоем абаўеш.*

*Спі, мая гарэза, да світання.*
*Ночку, далібог, не абысці.*
*Да сустрэчы заўтра, да спаткання.*
*Да наступнай сцежачкі ў жыцці.*

***

*А можа, я прыгрэўся каля Вас?*
*Мо думаў: не суцешыць, дык накорміць?*
*Баюся слоў — то вымаўлю не ў час,*
*То неабходных не магу прыпомніць.*

*Што за трывога дыхаць не дае,*
*Якая ноч між намі праляцела?*
*Баюся сноў — Вы скардзіліся ў сне,*
*А я ізноў апраўдваўся няўмела.*

*Скажыце, прападаю ні за грош?*
*Скажыце, кім міжволі станаўлюся?*
*Баюся Вас, але ж усё-ткі больш*
*Сябе, непрадказальнага, баюся.*

***

*Ушчэнт разбіць увесь набытак,*
*Адгараваць, адгаманіць.*
*Маё жыццё — вучнёўскі сшытак,*
*Дзе ад памылак рабаціць.*

*Ушчэнт усё, што замінае*
*Мне зазірнуць за далягляд!*
*Бяда бясследна не мінае,*
*Хай не вяртаецца назад.*

*Хай шлях абраны не разбэсціць,*
*Каб не разменьваць на грашы*
*Доўгачаканай гэтай песні,*
*Што нараджаецца ў душы.*

***

*Як ты магла? Як мог?*
*Мо, гэта — пакаранне:*
*З усіх зямных трывог*
*Мы выбралі расстанне.*

*Дрыжыць сярод снягоў*
*Чый воклік ледзьве чутны?*
*З усіх зямных шляхоў*
*Мы выбралі пакутны.*

*І роспачы не збыць,*
*Пазбыўшыся палёту.*
*Няўжо і нам карціць*
*Прывеціць адзіноту?*

*Што ж, кожны з нас мастак:*
*Як можам, так і пішам.*
*Ды цягнецца няўзнак*
*Душа да зор і вышай.*



Фота Антона Кірыка



Андрэй СТАЛЬМАКОЎ

***

*Ад хаты да леса праз поле і яр*
*Сабраўся ў дарогу — у ноч гаспадар.*
*Завесіў акенца, свячу загасіў,*
*Паленца да брамкі з сасны прыхіліў.*

*Старая бярданка вісіць ля спіны.*
*Стаяць у цішы векавыя дубы.*
*Знаёмы з дзяцінства мясціны навокал:*
*І рэчка, і луг, і па лесе дарога.*

*Пралеглі сцяжыны мужчыны няпроста:*
*Па цемры прайсці трэба многія вёрсты,*
*Туды, дзе на лоне лясоў і балот*
*Атрад партызанскі збірае народ.*

*Не можа хавацца ў ліхую гадзіну,*
*Калі іншаземцы знішчаюць Радзіму,*
*Калі над народам пакуты і здзек, —*
*Не можа спакойна пражыць чалавек.*

*Таму і скрануўся ў мароз і па сцюжы*
*З жаданнем адным: хутчэй ворага*
*зджыць.*
*Абраў сабе сам ён такую дарогу:*
*Адпомсціць чужынцам за слёзы і гора.*



Сяргей ВАГАНАЎ

## З «НАРАЧАНСКАГА СШЫТКА»

### Крыж

*Яны ў крыжы драўляным бачаць бервяно.*
*У металічным — пуд металалому.*
*Не Ён і не Яна.*
*Яны — ЯНО*
*У курапацкім жаху крыжаломным.*

*Але не зломлены наш Курапацкі Крыж!*
*Не ададраць ад каранёў адвечных.*

*ЯНО, ты чуй, у пекле як гарыш?!*

*Бо ён нязломны — Беларускі Крыж*
*З пакутнай Памяці і костак чалавечых.*

### Па дурніцы

***Прывітанне, Купа! Купа дарагая!***
***Звонкая «кукушка»-паравоз!***
***Аркадзь Куляшоў.***

*Я помню, як рухавы цягнічок*
*Вазіў у пашчу пушчы па дурніцы.*
*Папросіш машыніста прыпыніцца,*
*Ды й у багун. Да болю — у вачох.*

*З купіны на купіну мяккі крок,*
*Дзе чуецца балота ўздых і выдых,*
*Што з багны вызваляе пухірок*
*Вады з паветрам зносінаў няспынных.*

*І ў галаве дурэе дурнап'ян.*
*Хаваючы кустоўя ў белых рызах,*
*Павіснуў перадранішны туман*
*На ягадах, ад прахалоды шызых...*

*А ўвечары ідзеш па шпалах зноў*
*І прыкладаеш зноў да рэйка вуха,*
*Бы да прасторы падаеш пазоў,*
*Каб адгукнулася далёкім колаў гукам.*

*І чуеш, як напружана гудзе,*
*Нібы струна, пад цягнічком рухавым...*
*Ці блізка ён, ці ён далёка дзе?*
*Ці ён нідзе...*

*Пайшоў па зніклых шпалах*
*Гадоў, што засталіся ў небыцці,*
*Якім наканавана толькі сніцца.*
*І дзякаваць таму, што ў жыцці*
*Быў цягнічок,*
*І Нарач,*
*І дурніцы...*

### У буру

*Прачнуўся...*
*Нібы цмок схаваўся ў коміне —*
*Рыпіць, вішчыць, пяе, мармыча нешта.*
*То ўчорашняй начной віхуры рэшта*
*Ад ранку ў сон грукоча да мяне...*

*А я хутчэй да возера! Хутчэй!*
*Туды, дзе разгарнуўся бурай ліпень.*
*Дзе цемра апраметная з вачэй*
*Сплывае ў нарачанскі белы кіпень.*

*Дзе хваля хвалю новай хваляй б'е,*
*Жадаючы навыперадкі бегчы.*
*Змяёй шыпячай на пясок паўзе,*
*Каб там, зусім знясіленая, легчы...*

*Аднекуль раптам чуецца здалёк*
*Надрыўны гук маторнай, быццам, лодкі...*
*У непагадзь каго ж завабіў Бог*
*Да бойкі з ім — смяротнай і салодкай?*

*І бачу, як ажно з-пад Чараўкоў,*
*І сам, як бог, — сівы, ў цяльняшцы сіняй,*
*Ляціць над хвалямі Міхась Лынькоў,*
*На ўсёй кіпучай Нарачы адзіны.*

*Чаму ж яму не любы ранні сон?*
*Ці ён, што ветразь той, шукае буру,*
*Каб сатварыць з яе літаратуру —*
*З «Міколкі...» аж да «Векапомных дзён»?*

*А мо з дзіцячай радасці ці здуру*
*Адчуць імкнецца Волі смак і стогн?*

*Хто ведае...*
*Хоць да самога дна*
*Ўглядайся ў Час, пакуль вякі не скралі,*
*Нічога не пабачыш. Бо здаўна*
*Адказ схаваўся ў нарачанскай хвалі...*

### Дранка

*З Мацеем сёння будзем дзерці дранку!*
*Ужо ляжыць, чакае бервяно.*
*Як ні салодка спіцца нам уранку,*
*Пад самы дах узведзена гумно.*
*А як прыгожа сталася ў двары!*
*Па кроквах шпацыруе промень сонца.*
*І круглякі ў смалістыя муры*
*Пакладзены трывала, шчыльна, моцна.*
*Бы на вякі...*
*І я дапамагаў*
*Мацею адбудоўваць гаспадарку:*
*Пілу з сякерай спрытна падаваў...*
*А сёння...*
*Сёння будзем дзерці дранку!*
*...Трашчыць, нібы жывое, бервяно.*
*Паблісквае скаба лязом жалезным...*
*То будзе ў Купе новае гумно,*
*Пасля вайны пастаўленае першым!*

### Пандэмія

*Яго хавалі — у зачыненай труне.*
*Для справаздачы — плюс.*
*Ад чалавецтва — мінус...*
*А ноччу прымаркоцілася мне,*
*Як з-пад зямлі каронавірус вырас.*
*Атрутны пах. Раскошная лістота.*
*З нябёс — паліў бясконцае хлусні...*
*Якая прыцягальная істота!*
*Ты паспрабуй што іншае сасні.*

*А раніцай успомніш, што нікога,*
*Нікога ля труны той не было...*
*Ці то нябожчыка хавалі.*
*Ці то Бога.*
*Ну а пасля — усё ў нябыт сплыло...*

### Быць альбо не быць

*А мы ўжо там былі, дзе не былі.*
*І зноўку там, дзе не былі, мы будзем.*
*Няўжо ва ўлонні матухны-Зямлі*
*Мы назаўжды, дзе мы былі, забудзем?!*

*Няўжо ў Сусвету памяці няма?*
*Няўжо ў тумане забыцця збялелым*
*І мы, і наша матухна-Зямля*
*Ў Сусвеце згінем камянём змярцвелым?*

*Дык ці былі мы там, прыйшлі адкуль?*
*І там, куды пайсці наканавана?*

*Заўжды былі і будзем мы, пакуль*
*Крывавіць нас Жыцця жывая рана...*

### Пра герб

*Адкуль ва ўлады гэткі сверб —*
*ізноў «мяняць» савецкі герб?*
*Ды ведаюць бары і гоні*
*Адзін нязменны герб — «Пагоня».*

### Пра шлях

*Я веру: мы ніколі ўжо не спынімся.*
*І пройдзем шляхам непарушнай еднасці*
*Ад плошчы, што пад вежай Гедымінаса,*
*Да шматпакутнай плошчы*
*Незалежнасці.*



Алена ВЕШТОРТ

# Жаночыя гісторыі

## Запальнічка

Яна прыязджала цягніком, і кожнага разу ён сустракаў яе з нейкімі падарункамі. Аднойчы заявіўся з галінкай атрутна-сініх, штучнага колеру хрызантэмаў. Бровы яе міжволі папаўзлі ўгору — спрадвечная немагчымасць стрымаць эмоцыі, — але, пазіраючы на шчаслівы твар і расцягнутыя ва ўсмешцы тоўстыя вусны, усміхалася ў адказ.

— Не падабаюцца? — спытаў ён.

Так, густу яму бракавала. І з выгляду быў падобны на пабітага жыццём сабаку з адданасцю ўваччу: вочы са знешняга боку былі крыху ссунутыя ўніз, — з пляскатым, як у баксёра, носам і са шнарам на лбе. Але ён называў яе ласкавым імем Запальнічка...

У душы ягонай назапасілася шмат незапатрабаванай пяшчоты і дабрыні. Жонка, аса з выгляду і па характары, была засяроджана выключна на сваёй асобе і даўно стала яму чужой. А тут, зусім выпадкова, сустрэлася гарадская жанчына, якой патрэбна была энергія цяпла і спагады, якою поўнілася ягоная душа. А яшчэ самотнікаў, хаця і жылі на адлегласці, злучыла пачуццё гумару, лёгкага ды праставатага, і прага жыццёвых прыгод.

Узімку яны часцяком сустракаліся на лецішчы. Аднаго разу ён ехаў туды, каб прапаліць печку перад яе прыездам, і машына захрасла ў снезе.

Не адчуваючы пад сабой ног, бегаў у лес, ссякаў яловыя галіны, падкладаў пад колы. Урэшце даехаў, спехам запаліў у печы і пагнаў легкавік на чыгуначную станцыю. А яна тым часам ужо блукала ў цемры, парна дыхаючы і выглядаючы ў змроку знаёмую постаць. Ведала: ён з'явіцца, бо абодва былі людзьмі даверлівымі і з пачуццём такой адказнасці, якая межавала з дурнотай. Аднойчы давялося спыніцца ў мясцовым гатэліку, і яна зарэгістравала нумар на сваё імя — каб ягоная жонка пра тое не дазналася. Жонка, на шчасце, не дазналася. Дазнаўся яе муж, з якім на той час ужо спрабавала развесціся. Дзяжурная ў гатэлі, асоба з высокай маральнай адказнасцю, не паленавалася знайсці тэлефонны нумар мужа і пазваніць.

А яшчэ яны ездзілі на рыбалку. «Мабілы» там часцяком не працавалі, і яму даводзілася лезці на дрэва, каб злавіць «сетку» і датэлефанавацца да жонкі. Папярэдзіць, што застаецца на рыбалцы з начоўкай. І пакуль ён аднойчы сядзеў на дрэве, узяўся вялізны шчупак, якога яна выхапіла з вады голымі рукамі. Баялася, што той сарвецца з кручка...

Не, яны не былі парай двух чобатаў. Ні ў якім разе. У яго былі гумовікі рабацягі, капальніка меднага дрота, а ў яе туфлікі з італьянскай скуры, якія носяць далікатныя паненкі. І яны выдатна разумелі, што іх сувязь часовая. Яна жыла надзеяй, што сустрэне некага больш вартага, а ён, адчуваючы гэта, зрываўся ў запоі з начнымі тэлефанаваннямі і п'янымі румзамі. Нарэшце яна прыехала апошнім разам і сказала: «У мяне ёсць іншы». Жонка якраз была ў ад'ездзе, ён накрыў стол і закаціў дыскатэку 80-х. І так, уперамежку са слязьмі і смехам, вінам і танцамі, яны развіталіся.

Нейкі час яшчэ тэлефанаваў. Але недзе праз год яна выдыхнула ў слухаўку: «Хопіць з мяне п'яных званкоў».

Потым доўга не магла прызвычаіцца, што цяперашні мужчына засынае першым. Той, які называў яе ласкавым імем Запальнічка, засынаў пасля яе і заўсёды казаў: «Ты спі, а я буду глядзець на цябе і любавацца».

## Будатрад

Пасля трэцяга курса медінстытута Ганна вырашыла запісацца ў студэнцкі будаўнічы атрад. Хлопцы з будатрада, трыццаць чалавек, мусілі ўзводзіць вялікую абору непадалёку ад Капыля, і ім патрэбны быў лекар і кухар. Інтарэсы камандзіра атрада, якому карцела зэканоміць грошы, узяўшы адну асобу замест двух, і Ганны, шукальніцы прыгодаў, супадалі.

Прыехаўшы на месца разам з некалькімі будатрадаўцамі, якіх паслалі ўпарадкаваць інтэрнат, Ганна, якая за ўсё жыццё смажыла адно яечню на матчынай кухні, задумалася: як і чым яна будзе карміць гэтую будатрадаўскую плойму?

У першы ж дзень камандзір Дзіма прывалок тушу кабана, паведаміўшы, што не зашкодзіла б паесці адбіўных са свежыны. Ганну ахапіў адчай, аднак праз хвілю, згадаўшы курс анатоміі, узяла навостраны камандзірам нож і стала ўпраўляцца з кабаном, аддзяляючы мяса ад костак.

Адбіўныя не надта атрымаліся. Калі іх смажыла, дык падгарэлі. І хаця пяцёра хлапцоў голасна яе суцяшалі, настрой быў сапсаваны.

Потым пацягнуліся працоўныя будні. Пад'ём быў а пятай раніцы. Калі, перабіваючы салодкія сны, абуджаўся будзільнік, Ганна прыціскала яго да грудзей і яшчэ некалькі хвілін спала. Але неўзабаве, схамянуўшыся, мусіла падымацца і, пазяхаючы, сунулася на кухню. Уключала святло і назірала, як заспетыя за разгрызаннем костак пацукі таксама сонна валакліся ў свае спраты. На пару з Ганнай на кухні працавала другая кухарка, якая гатавала абеды для рабацяг, якія таксама нешта будавалі непадалёку. Пасля яе гаспадарання даводзілася перамываць мясарэзку ды посуд, які яна ніколі не мыла.

Праз стому Ганна ўжо і не лічыла дні, аднак хутка прызвычаілася да суворай будатрадаўскай рэчаіснасці. Адно, што не давала спакою, — гэта стравы, якія гатавала і якія смачнымі нельга было назваць. Але вось у адзін з выхадных дзён яе наведала сяброўка з Менска. Алеська прыехала не з пустымі рукамі, а прывезла дапаможнік — вялізную таміну ў чорнай скуранай вокладцы пад назвай «Усё пра смачную і карысную ежу». 1948-га года выдання. А яшчэ распавяла, як з яечных жаўткоў і сталовай лыжкі каньяку згатаваць смачнае печыва. Гартаючы кнігу, Ганна дакорліва ківала галавой. Пра многія інгрэдыенты прыгатавання страў яна нават не чула, і думала пра тое, што Алеська магла б прывесці кухарскую кнігу з больш простай рэцэптурай.

Акрамя кухарскай кнігі Алеся прывезла інтрыгоўную навіну. Як высветлілася, сяброўка надоечы пазбавілася цнатлівасці. Дапамог ёй у гэтым сябар дзяцінства. Той вучыўся ў Піцеры і прыехаў на вакацыі.

— Усё гэта, скажу табе, даволі прыемна, — апавядала сяброўка, злёгку мружачы міндальныя вочы. А затым спытала: — А што ў цябе з асабістым жыццём? Відаць, нармалёк, бо тут столькі паклоннікаў...

Увагі з мужчынскага боку Ганне і сапраўды хапала. Але ўвесь час не пакідала думка, што хлопцаў цікавіць не зграбнасць яе постаці, а тое, калі, нарэшце, яна пачне іх карміць прыстойнай ежай. Навіну, якую паведаміла сяброўка, сустрэла з лёгкай усмешкай, аднак адчуванне, што тая апярэдзіла яе ў такой важнай справе, непрыемна казытнула самалюбства.

Пасля ад'езду Алескі абедзенны рацыён узбагаціўся, і падзякі ды кампліменты наведнікаў сталоўкі сталі гучаць усё часцей. Тады і прыйшла пара разняволіцца і прыглядзецца да кампліментшчыкаў.

Першым, на каго звярнула ўвагу, быў камандзір Дзіма. Гэты быў добра складзены кучаравы бландзін. Да таго ж, меў прыгожыя рысы твару: светлыя вочы пад густымі брывамі, круглы падбародак, амаль рымскі нос і далікатны абрыс вуснаў пад акуратнымі пшанічнымі вусамі. Яшчэ б дадаць расточку — і быў бы ваяр легіёнаў Юлія Цэзара.

Апрача камандзіра, які раз-пораз, нібыта няўзнак, яе абдымаў, былі яшчэ два залётнікі: неразлучныя сябрукі, якіх жартам звалі Труляля і Траляля. Яны ўвесь час парываліся дапамагаць ёй на кухні. Мылі посуд, чысцілі бульбу і рэзалі кіслыя яблыкі для кампоту. Яны нагадвалі Ганне спрытных і вясёлых шчанюкоў.

Урэшце, паглядзеўшы на супернікаў, «рымскі легіянер» пайшоў у рашучы наступ і аднойчы ўначы атрымаў поўную перамогу. Дзіўна, але начная прыгода Ганну не надта каб уразіла, і яна пераключыла ўвагу на аднаго з «шчанюкоў». На той час ёй патрэбна была ўвага і пакланенне, а не любошчы на рассохлым інтэрнацкім ложку.

Гэтая схільнасць да рамантызму далася ў знакі. Лагодны «шчанюк» неўзабаве ператварыўся ў агрэсіўнага мужа. Аднак і пакрыўджаны «рымскі воін» аказаўся не на вышыні і распавёў праз пару гадоў навапечанаму мужу — хто ў Ганны быў першым.

**Ірэна тады і ўявіць не магла, што абаяльны па меркаваннях шматлікіх фэйсбучных сяброўак мужчына надоўга захрасне ў яе жыцці. І потым, праз тры гады, яна сама сябе вінавацiла за сваю недарэчную даверлівасць, якая межавала з дурнотай**

## Стамбул

Усё пачалося з недарэчнасці: Ірэна спазнілася на свой самалёт на Менск. І вось калі яна, устурбаваная і крыху напужаная, выйшла з будынка аэрапорта імя Атацюрка, ёй сустрэўся турак з вішнёвымі вачыма і з тонкай цыгарэтай у бяскроўных вуснах. Як высветлілася, колісь ён вучыўся ў Баку і без праблем гаварыў па-расейску. Турка звалі Мустафа, ён ляцеў у той самы Баку і прапанаваў Ірэне засяліцца, у чаканні наступнага рэйса, у гатэль.

Пакуль уладальнік вішнёвых вачэй прымаў душ, Ірэна глядзела на размытыя смугой абрысы Стамбула і чарціла пальцам на шыбе свой маршрут. Ад пункта А — дванаццаціпавярховага гатэля пры аэрапорце імя Атацюрка, дзе іх пасялілі ў пракураным і няўтульным нумары, — да пункта Б — горада-героя Менска. Настрой быў трывожны. Ці варта было засяляцца ў нумар з незнаёмым усходнім чалавекам? Да таго ж, за вакном церусіў дождж, які канчаткова псаваў настрой. І яна вырашыла пайсці на рэцэпцыю і ўзяць сабе асобны нумар.

Ні лiслівыя манеры Мустафы, ні яго прыемныя інтанацыі (сапраўдны тэнар), ні жэстыкуляцыя прыгожых рук з нядбайна падгорнутымі манжэтамі кашулі яе не ўзрадавалі. У Ірэны была дакладная інтуіцыя, і яна з першага позірку ведала — чаго варты чалавек. Увечары наступнага дня яна паляцела дахаты, але, нечакана, надышоў час перапіскі ў Фэйсбуку. Мустафа хітра падвёў яе да думкі, што ён сур'ёзны і сумленны мужчына. Праўда, крыху нудкаваты. Але ж сапраўдны джыгіт і не павінен быць весялуном і блазнам. І душа хутка разамлела ад усходняй ветлівасці. Бо на адлегласці гэта выглядала вельмі прывабна. І вось, каб пакаштаваць смак турэцкай слодычы з імем Мустафа, яна другім разам выправілася ў Турцыю.

Абдымкі джыгіта былі прахалодныя. Апынуўшыся ў ложку, Ірэна зразумела, што цуду чакаць не даводзіцца. І калі засынала, падумала: усё можа выправіць раніца. Чалавек, магчыма, стаміўся — і ўсё адбылося занадта хутка. Але раніцай працягу не было. «О, не-не!» — выдыхнуў Мустафа, адкінуў Ірэніну руку і рашучым крокам рушыў у ванны пакой. Ён нагадваў жабянё з мультыку. Вялікае чэрава; энергічна задзёртае ўверх падбароддзе нарцыса; вузкая талія; шырокія і тлуставатыя плечы. І, галоўнае, маленькі віслы азадак. Гэты азадак і даў ходу наступнай думцы: «Няўжо ёй цяпер давядзецца глядзець на ўсё гэта, і няўжо гэты самаўпэўнены экзатычны тыпус з маланкава-ацэньваючым позіркам цёмных вачэй завалодае ёй?».

Ірэна тады і ўявіць не магла, што абаяльны па меркаваннях шматлікіх фэйсбучных сяброўак мужчына надоўга захрасне ў яе жыцці. І потым, праз тры гады, яна сама сябе вінавацiла за сваю недарэчную даверлівасць, якая межавала з дурнотай.

Вярнуўшыся з Турцыі, яна пайшла да варажбіткі. Тая практыкавала таро і запэўніла, што Мустафа і ёсць той самы мужчына, пра якога марыць жанчыны. Карты паказалі: усходняму прыгажуну ў жыцці не надта шанцавала, але калі яго падтрымаць, дык наперадзе іх абодвух чакае вялікая будучыня.

Дзякуючы раскладу карт, Мустафа прыехаў у Менск і атабарыўся ў яе кватэры.

Ірэна апекавалася здароўем свайго абранніка, спрабавала ўладкаваць на працу і цэлымі гадзінамі слухала аповеды пра стварэнне хай і невялікага, але даволі прыбытковага бізнесу. Пры гэтым усходні госць бавіў час эпікурэйца, смалячы тонкія цыгарэты і штогадзіны п'ючы згатаваную па-ўсходняму — у меднай турцы — каву. З працай нічога не атрымалася, і ён узяў на сябе цяжкія абавязкі хатняга кухара.

Аднойчы Мустафа ўгаварыў злятаць у Стамбул. Пазіраючы на горад маякоў, сіняй смугі, вострых водараў, крыху крывабокай Святой Сафіі і самавітых котак, зразумела, што яны не паедуць далей бліжэйшага гандлёвага цэнтра. Так і надарылася. Там, сярод людскога гармідару і непралазных, павешаных бясконцым шыхтом апранахаў, Мустафа мераў нейкія ружовыя порткі і жоўтыя кашулі і казаў, што заўсёды марыў мяняць пра такое жоўта-ружовае адзенне. Мост паміж Еўропай і Азіяй, дом-скарабей скульптара Мехмета, раён Султан-ахмет, дзе яна хацела набыць цемна-сінюю керамічную талерку «румі-хатаі» (пра гэта прачытала ў турыстычным аведніку) — так і засталіся ў марах.

Пасля вяртання са Стамбула яна зноў пайшла да знаёмай варажбіткі. Карты не абяцалі нічога добрага. Па дарозе дадому набыла ў шапіку газету з аб'явамі і знайшла здымную кватэру.

Увечары, калі Мустафа вярнуўся са свайго «скандынаўскага» шпацыру — з лыжнымі палкамі ў руках, — і пайшоў, як звычайна, у душ, яна хуценька сабрала ў валізу яго мэтлахі і ціхенька вынесла ў калідор.

# Сказ пра Кіджандон–II

**Фантастычнае апавяданне**

Сяргей БЕЛАЯР

Старшыня Сцяпан Цевель вельмі моцна не хацеў пакідаць «Бальшавіцкі ўгар» на апеку свайго першага намесніка Арцёма Пухныша: «мажор» менш за ўсё падыходзіў на ролю кіраўніка калгаса. Вось толькі рабіць было няма чаго: другі «першы намеснік» Алаян пакацў з чарговым вар'яцкім пражэктам вяртання сябе любімага ў вялікую палітыку ў сталіцу, сакратарка Лізачка сядзела на бальнічным з тэмпературай, механік Марда быў заняты экстраным рамонтам. Старшыню тэрмінова выклікалі на селектарную нараду ў суседні раён. З удзелам Самога.

— Сустрэнеце высокага госця, Арцём Баніфацьевіч, і пакажаце яму наш калгас і Бульбянку. Але толькі добрае — каб стварыць у вачах сусветнай супольнасці станоўчы вобраз Рэспублікі для народа.

— А яно ёсць? — першы намеснік слухаў старшыню з адным бесправадным навушнікам «Apple AirPods» у вуху. Нават за два метры была чуваць расійская папса: драў горла ўлюбёнец састарэлых матронаў, «падкаблучнікаў» і дробных зладзеяватых чыноўнікаў Нікаля Баскаф.

— Што мы, горшыя за іншых? — абыякавасць першага «першага намесніка» раздражняла старшыню, аднак выгнаць Пухныша ў шыю Цевель не мог — бо той быў прызначэнцам «сур'ёзнага чалавека». — Пакажаце саўдзіту Музей народнай культуры Палесся, борці дзядзькі Язэпа, нафтаправод «Дружба», дом Алаяна, аддзяленне Міністэрства правільнадумства і паводніцкага накіравання мас, камень вікінгаў, аграсядзібу. Пра Мардавыя аўтаматоны не забудзьцеся… Вы мяне слухаеце?

Першы намеснік пераключыўся на тэлефонную размову з такім жа недарэкам, як і сам, і адцягнуўся толькі пасля таго, як старшыня ляпнуў далоняй па стале.

— Не зганьбіце сябе, Арцём Баніфацьевіч. Госць з Саудаўскай Аравіі збіраецца ўкласці ў «Бальшавіцкі ўгар» грошы. А інвестыцыі патрэбныя калгасу як паветра. Казна пустая, так што выкручвацца прыйдзецца нам самім.

Быць прадаўжальнікам «слаўных» традыцый князя Пацёмкіна Цевель гідзіўся, аднак без «паказухі» было ніяк не абысціся: зажратыя еўрапейцы і амерыканцы не спяшаліся ўкладваць у Рэспубліку для народа крэўныя долары і еўра. А кітайскія падачкі былі горшыя за кабалу: лепш ужо адразу ў вір з камнем на шыі.

У сувязі з тым, што нават Камітэт Захавання Сацыяльнай Стабільнасці не ведаў, куды дакладна прыедзе саўдзіт, вырашана было акультурыць усе вёскі і пасёлкі раёна. Але з-за хранічнага дэфіцыту бюджэту рамонт выйшаў касметычным.

Неабходнасць тэрміновага прыцягнення ў Рэспубліку для народа замежнага капіталу патрабаваў і загад сталічнага начальства — кур'ер дзяржаўнай фельд'егерскай сувязі з'ехаў пяць хвілін таму, прымусіўшы ў сябе на вачах спаліць канверт, крывава-чырвоны ад шматлікіх штампаў «Зусім сакрэтна!».

— Чаму я? — працаваць першы «першы намеснік» не любіў. Любая праца выклікала ў Пухныша алергію з вострым жаданнем перакласці абавязкі на іншых. На каго заўгодна. Толькі б нічога не рабіць самому.

Цевелю стала зусім сумна: ад віду лайдака будучыня рэспублікі малявалася выключна ў цёмных танах. Саўдзіт, нягледзячы на запэўніванні рэспубліканскіх уладаў у стварэнні для яго самага спрыяльнага клімату, быў выключэннем з правілаў. Але і мільён долараў на зямлі не валяецца. Асабліва ў Бульбянцы.

— Выпішу прэмію з калгаснага фінансавага рэзерву.

Пухныш фыркнуў. Увесь «Бальшавіцкі ўгар» разам з калгаснікамі, прыбыткам за ўраджай пшаніцы на чвэрць стагоддзя наперад і выручкай ад рэдкіх замежных турыстаў, якія заблудзіліся сярод палескіх балотаў, каштаваў менш за ягоны новы айфон.

Старшыня цяжка ўздыхнуў і, чаго трываць не мог, ударыў ніжэй пояса:

— Давядзецца патэлефанаваць вашаму бацьку.

— Базару няма, Мікалаевіч! Толькі тату не турбуйце!

З кабінета першы намеснік выйшаў у моцным раздражненні. Ідыёцкае даручэнне ад балвана не на сваім месцы. Яшчэ і ўказваць яму будзе!

Пры ўсім жаданні паслаць старшыню на тры літары Пухныш не мог, паколькі прыдуркаватаму роднаму бацьку, які засунуў яго ў дзірку пад назвай Бульбянка, нічога не каштавала ў гневе пазбавіць сына грашовага ўтрымання. І пад хатні арышт, з яго станецца, можа адправіць. А дома Арцём Пухныш на самаізаляцыі ад covid–19 насядзеўся. Нуда смяротная: ні выпіць, ні кабет паклікаць.

Церусіў халодны раннесакавіцкі дождж, што зусім не спрыяла з'яўленню добрага настрою.

— І дзе гэты чортаў чабурэк?

З прычыны невысокага ўзроўню IQ, розніцы паміж словамі «чабурэк» і «абрэк» першы «першы намеснік» Пухныш не бачыў, роўна як і нічога не ведаў аб правілах ужывання словаў. Што зусім не перашкаджала яму, не ведаючы гора, пражыць дваццаць няпоўных гадоў.

Госць прыбыў на звышраскошным лімузіне ў суправаджэнні эскорту з чатырох цяжкіх браневікоў, набітых узброенай да зубоў аховай, якая спрэс складалася з маладых мускулістых дзяўчын.

Ні сам лімузін піцідзесяціметраў даўжынёй, ні ахоўніцы ў залатых даспехах не аказалі на Пухныша адмысловага ўражання: набліжаныя да трону Самога жылі куды багацей. Яны і самі — без стратаў для ўласнага кашалька — маглі спансіраваць эканоміку Рэспублікі для народа, аднак аддавалі перавагу



Фота www.ok.ru

трымаць капіталы ў краінах з больш цёплым кліматам.

Саўдзіт — тыповы сярэдненеўзроставы араб — быў апрануты больш чым сціпла, і Пухныш адразу страціў да яго ўсялякі інтарэс. Які сэнс у багацці, калі ім нельга пышыцца?.. Першы «першы намеснік» быў гатовы паказаць, як варта правільна жыць, няхай толькі бацька дасць яму такую магчымасць.

— І як я буду з чорнажоп... з чорным без перакладчыка размаўляць? — збянтэжыўся Пухныш, раз'юшана праклінаючы старшыню за такую «падставу».

Хвалявацца Пухнышу давялося нядоўга — саўдзіт бліснуў беласнежнымі зубамі і вымавіў:

— Чорны вучыўся ва Універсітэце імя Патрыса Лумумбы. Асаляму алейкум. Мяне завуць Бахір Васік Муафа Абд аль-Азіз ібн Аль-Хатаб ан-Нума ібн Зута ібн Мах аль-Фарук Абу-л-Абас. І я хацеў бы даведацца ўсё пра адмысловы шлях Рэспублікі для народа. Што дазваляе вам заставацца астраўком стабільнасці ў акіяне рукатворнага хаосу?

— Чё? — складаныя пытанні Арцём Пухныш не ўзлюбіў з таго моманту, калі яму сунулі ў рукі буквар. На думку першага «першага намесніка», «гаспадары жыцця» не павінны абцяжарваць сябе разумовым працэсам. Куды важней умець марнаваць грошы.

— Я думаў, дыплом доктара філалагічных навук не створыць мне складанасцяў пры зносінах з аўтахтонамі, — саўдзіт засмуціўся.

— Чё? — з ашаломленага Пухныша можна было ляпіць скульптуру Мінатаўра.

— Пазнаёмце, калі ласка, мяне з вашай перадавой гаспадаркай, — зайшоў з іншага боку саўдзіт. На гэты раз спроба атрымалася паспяховай. Пухныш матнуў «бычынай» галавой і пацягнуў госця, які загадаў ахове застацца, да дома другога «першага намесніка» Алаяна.

Дробнаштучная плітка, выкладзеная ў выглядзе рэспубліканскага арнаменту ноччу ў неверагоднай спешцы, прымусіла саўдзіта падняць вялікі палец уверх, а флюарэсцэнтная расфарбоўка праезнай часткі выклікала непадробнае захапленне.

— Я ў сябе ў Саудаўскай Аравіі такую ж зраблю!

— Ха, — абмежаваўся сціплай канстатацыяй перавагі рэспубліканскай ідэі Пухныш. Спяваць дыфірамбы не трэба было: першы «першы намеснік» рызыкаваў не скончыць нават першага сказа.

Платы з металапрофілю са сцэнамі старажытнаславянскага побыту, што выдаваўся за нядаўняе мінулае Бульбянкі, саўдзіту таксама спадабаліся.

— Неверагодная архаіка!

— Чё?

— Рэспубліканскі народ вельмі старажытны.

— А то! — па вялікім рахунку, першаму «першаму намесніку» было напляваць. Але ў Аддзяленні Міністэрства правільнадумства і паводніцкага накіравання мас настойліва загадалі ўсяляк падкрэсліваць самабытнасць і мудрасць рэспубліканскага ладу.

Саўдзіт быў чалавекам начытаным, і з гэтай прычыны без цяжкасці правёў аналогію паміж ярка-пернікавымі хатамі Бульбянкі і дамамі з нямецкай казкі «Гензель і Грэтэль», запісанай братамі Грым. Сэрца саўдзіта сціснулася ад чорнай зайздрасці, і ён паабяцаў сабе не шкадаваць ніякіх грошай для таго, каб падняць дабрабыт грамадзян Саудаўскай Аравіі да бульбянскага ўзроўню.

Раскошны трохпавярховы асабняк экс-дэпутата, які праявіў злачынную непаваротлівасць пры націску на кнопку «За» ў час галасавання аб павышэнні пенсіённага ўзросту, як ніякі іншы падыходзіў для ілюстрацыі выбуховага росту дабрабыту грамадзян Рэспублікі для народа.

— У вас у рэспубліцы ўсе так жывуць? — саўдзіт відавочна быў уражаны да самай глыбіні душы: сад у французскім стылі займаў дваццаць пяць гектараў самай лепшай зямлі і абслугоўваўся самымі майстравітымі садоўнікамі. Разам з ярка-пернікавымі хатамі гэта ўзмацняла пачуццё траплення ў рай.

— Усё для людзей, — паўтарыў афіцыйны слоган Пухныш і спрытна палез у заднюю кішэню джынсаў «Dolce & Gabbana»: гукавым сігналам нагадаў пра сябе айфон, зроблены на заказ.

Саўдзіт слізгануў захопленым поглядам па золаце, плаціне і дыяментам і вярнуўся вачыма да дома другога «першага намесніка». Экс-дэпутат меў благі густ, змяшаўшы ў архітэктурным злепку ўсё, што толькі магчыма, і капітал, які хіба што кроплю не дацягваў да сукупнага багацця самых багатых сем'яў Саудаўскай Аравіі.

— Ёпта, новыя кросадавы! — крама фірмовага абутку з адрасатам паведамлення аб новай мадэлі красовак не пралічылася: Пухныш, не збянтэжаны цаной са шматлікімі нулямі, рвануў да ўласнага дома, каб паказаць на сайце нумар аплатнай карты.

Саўдзіт жа, удосталь налюбаваўшыся домам Алаяна, вырашыў працягнуць экскурсію па Бульбянцы. Ён быў цвёрда ўпэўнены, што дасягненні Рэспублікі для народа ў галіне арганізацыі побыту рэспубліканцаў, прышчэпленыя ў пясках Саудаўскай Аравіі, дазволяць той стаць хоць бы другой пасля Рэспублікі для народа звышдзяржавай.

Якім жа было здзіўленне саўдзіта, калі ён не ўбачыў побач гіда…

Вуліцы вёскі з прычыны самага разгару пасяўной кампаніі былі пустыя, так што звярнуцца па дапамогу не было да каго. Прыпадабняцца дзікунам, якія крыкам пазначаюць свой статус, саўдзіт не стаў. Пакрочыў па вуліцы ў напрамку сельсавета, на заднім двары якога высілася чатырохметровая пазалочаная статуя мужчыны з ярка выяўленымі манголаідна-бурацкімі рысамі.

І трэба ж было такому здарыцца — арганізму экстрана спатрэбілася пазбавіцца ад урыны. Саўдзіт пачаў азірацца ў пошуках прыбіральні, аднак на вочы не трапілася нічога падобнага. Вырашыўшы, што ў рэспубліканцаў пераважае духоўнае над матэрыяльным, саўдзіт сарамліва нырнуў у двары. І першым, што яму сустрэлася, быў цяжка гружаны смеццем прычэп ад трактара.

— А як жа клопат пра экалогію? — выказаў здзіўленне саўдзіт. Смеццевая гара відавочна брала свой пачатак у дагістарычныя часы. Мухі, якія хмарай віліся над прычэпам, памерамі маглі супернічаць з бамбардзіроўшчыкамі Б-52. Такіх памераў яны маглі дасягнуць толькі прытрымліваючыся спецыяльнай дыеты. Але каму патрэбныя мухі? Паўнавартасным бялком, наколькі было вядома саўдзіту, яны не былі багатыя.

Саўдзіт працёр вочы двойчы, аднак страшная карціна не знікла. Больш за тое — ударыла жудасным смуродам, прымусіўшы саўдзіта адступіць. Рухаўся ён спіной, таму і не заўважыў ямы.

— Khara!

Не мудруючы, «дарожнікі» проста заклалі яму дарожнымі знакамі і прысыпалі смеццем са злашчаснага прычэпа. І акуратнасці пры гэтым не адрозніваліся. Такога не магло быць у Рэспубліцы для народа. Таму што быць не магло ў прынцыпе.

— Варожыя інтрыгі, — вырашыў саўдзіт і рушыў далей: арганізм прымушаў. Але ўжо праз паўсотні метраў саўдзіт быў вымушаны спыніцца: погляду Бахіра Васіка Муафы Абд аль-Азіза ібн Аль-Хатаба ан-Нумы ібн Зуты ібн Маха аль-Фарука Абу-л-Абаса паўстала поўнамаштабная копія Пізанскай вежы. Праўда, выключна па змесце — у архітэктурным дачным збудаванне нагадвала нямецкую гранату на драўлянай ручцы.

Саўдзіт дастаў з-пад бурнуса спецыяльна прыхаваны для фіксацыі дасягненняў рэспубліканскай эканомікі лічбавы фотаапарат і, робячы фатаграфіі, нетаропка абышоў воданапорную вежу. Збудаванне ўзвялі

зусім нядаўна — ніякага іншага тлумачэння мноству драўляных падпорак і рэек быць не магло. У Бульбянцы пайшлі далей, чым у Італіі: каб пазбегнуць шкоды ад вандалаў і псіхаманьякаў нанеслі на збудаванне графіці, якое не пакідала вольнага месца для хуліганства. Фантазія ў дызайнера-выканаўцы была багатай: доктар філалагічных навук набраў матэрыялу для дзвюх новых доктарскіх дысертацый.

Вось толькі саўдзіт так і не зразумеў, які сэнс праекціроўшчык уклаў у люфт: варта было толькі не самай буйной вароне апусціцца на дах аналага Пізанскай вежы, як усё збудаванне затрэслася, як хворы ў прыпадку эпілепсіі.

Аднекуль са шчыльнай аднапавярховай забудовы, прымусіўшы саўдзіта падскочыць ад спалоху, данёсся злы крык:

— Пайшла прэч, падла!

У паніцы ўзляцелі яшчэ і галубы, якія выкарыстоўвалі пазалочаную статую Леніна ля сельсавета ў якасці адыходжага месца. Саўдзіт мімаволі пазайздросціў свабодзе птушыных і задаволена кіўнуў — на вуліцах Рэспублікі для народа спакойна нават ноччу. Міліцыя не дрэмле.

Грозны рык не паўтарыўся, затое з новай сілай нагадаў пра сябе мачавы пузыр. Саўдзіт закруціў галавой. Туалета не ўбачыў, аднак стаў сведкам таго, як старая як сам сусвет жанчына набірае ваду. Калодзеж аказаўся драўляным і патрабаваў пэўнага спрыту і высілкаў. Дастаткова было ўскубнуць сябе, каб зразумець, што гэта ніякі не міраж.

Саўдзіт з падвоенай сілай пачаў азірацца, але пацверджання збаўчай думцы не сустрэў: дакументальны фільм пра невыносны побыт сялян дзевятнаццатага стагоддзя ніхто не здымаў. І сутнасць розыгрышу не было зразумець, колькі саўдзіт не напружваў мозг.

Старая ў два заходы набрала вады і пацягнула за пятлю з бляшанай вяроўкі самаробную каляску з вядром, а ўражаны саўдзіт нават зазірнуў у калодзеж. У вадзе адбіўся здзіўлены твар Бахіра Васіка Муафы Абд аль-Азіза ібн Аль-Хатаба ан-Нумы ібн Зуты ібн Маха аль-Фарука Абу-л-Абаса: да музейных экспанатаў калодзеж не адносіўся.

— Не чакаў ад ІТ-краіны такой архаікі... — мінулае ў Саудаўскай Аравіі шанавалі і паважалі, але нават самыя фанатычныя вахабіты не жадалі зацыклівацца выключна на ім.

Адольваемы супярэчлівымі пачуццямі, саўдзіт пайшоў далей. Арыентавацца было цяжка: ні табе электронных інфармацыйных панэляў, ні паказальнікаў, ні таблічак на дамах не мелася, а дроны ў небе не віселі. Ды і самі дамы кардынальна адрозніваліся ад «цацачных» пабудоў ля сельсавета.

«Трушчобы», — вырашыў саўдзіт. Нават для самых багатых краін бедняк не былі чымсьці з шэрагу незвычайнага. Толькі не для Рэспублікі для народа. Бахір Васік Муафа Абд аль-Азіз ібн Аль-Хатаб ан-Нума ібн Зута ібн Мах аль-Фарук Абу-л-Абас для таго і прыехаў у Бульбянку, каб зразумець, як гэта рэспубліканцам удалося пабудаваць грамадства ўсеагульнага дабрабыту.

Саўдзіт бег зайцам і здзіўляўся: жыхары Бульбянкі карысталіся газавымі балонамі і абагравaліся дровамі. А яшчэ карміліся з зямлі: нават далёкаму ад сельскай гаспадаркі саўдзіту было зразумела, што для кветнікаў узаранай зямлі занадта шмат. І аралі зусім не трактарам.

Праз нейкі час саўдзіт выйшаў да аднапавярховага белацаглянага будынка з жалезнымі кратамі на вокнах. На ўваходных дзвярах вісеў гіганцкі замок. Такі саўдзіт бачыў у музеі Сярэднявечча. Шыльды на дзвярах не было, і саўдзіт зазірнуў у запыленае акно. Ад убачанага бровы саўдзіта ўзляцелі да самай куфіі: асартымент не цягнуў нават на статус прадуктовай крамы.

— Нічога не разумею.

Бахір Васік Муафа Абд аль-Азіз ібн Аль-Хатаб ан-Нума ібн Зута ібн Мах аль-Фарук Абу-л-Абас нарадзіўся за тысячы кіламетраў ад Бульбянкі, інакш быў бы ў курсе таго, што кожны дзень, за выключэннем суботы і нядзелі, з трынаццаці да чатырнаццаці нуль-нуль па агульнарэспубліканскім часе прадаўшчыца сельпо Клаўдзія фон Дурэмба карыстаецца сваім законным правам на абед. І прымусіць яе змяніць графік мог хіба што Армагедон.

Бела-чырвоная вышка сотавай сувязі вярнула было саўдзіту душэўную раўнавагу, але праселы дах зернятока зачапіўся як якар. З падручніка гісторыі саўдзіт ведаў, што хвалісты матэрыял называецца «шыфер», аднак толькі цяпер атрымаў магчымасць пераканацца, наколькі ён непрактычны: пад цяжарам часу лісты распаўзліся ў розныя бакі, пакінуўшы прарэхі. У некаторыя з іх мог свабодна пралезці дарослы чалавек.

Саўдзіт любіў навуковую фантастыку, але версію з патрапленнем у мінулае давялося адкінуць: неба над Бульбянкай рассякалі адразу тры рэактыўныя самалёты.

Частку вокнаў будыніны прыкрывалі лісты бляхі і жалеза. Усе яны былі рознага памеру і большай часткай апельсінава-аранжавай афарбоўкі, што сумесна з рагамі ад іржы і цэглай, якая рассыпалася, стварала ўражанне актыўнага выкарыстання будынка як арт-аб'екта п'янымі авангардыстамі, якія да таго ж не цураліся і цяжкіх наркотыкаў.

Са ступару саўдзіта вывелі цяжкія крокі за спіной. Мачавы пузыр ледзьве не апаражніўся сам: перад саўдзітам стаяў еці.

Папяроса ў роце пачвары літаральна ўдарыла саўдзіта пад дых. А затым еці яшчэ і загаварыў:

— Агн сць?

— Чё? — міжволі вырвалася ў доктара філалагічных навук.

— Агн сць? — еці моў забіць і смуродам, і лапатай. Адкуль у пачвары запэцканая ў чымсьці вадкім лапата-«шуфель» са слізготкім шмаццём, хацелася разбірацца менш за ўсё. Саўдзіт з усіх ног кінуўся наўцёкі. Дарогі не разбіраў.

— Знчц нм, — кіўнуў сам сабе вартаўнік Міхей Спартанец і вярнуўся ў зерняток, дзе яго чакаў чан з растворам: старшыня загадаў замазаць усе расколіны ў сцяне.

Саўдзіт мог бегчы доўга — страх і абанемент у дарагую фітнэс-залу дазвалялі. Аднак не дазволіў грузавік, які нечакана вырас на шляху: МАЗ, які здаўся саўдзіту хтанічным монстрам, з сілай ударыў у грудзі. Але ў горла не ўчапіўся.

Нервовае напружанне выплюхнулася істэрычным смехам. Калі на змену смеху прыйшла ікаўка, саўдзіт падняўся. І шумна праглынуў, адчуваючы, як пачынаюць варушыцца валасы па ўсім целе: Бахір Васік Муафа Абд аль-Азіз ібн Аль-Хатаб ан-Нума ібн Зута ібн Мах аль-Фарук Абу-л-Абас стаяў пасярод могілак разнастайнай тэхнікі, якая мела сельскагаспадарчае прызначэнне. Некаторыя машыны былі яшчэ зусім новымі.

— Koosomak!

Сотні, калі не тысячы тон металу проста гнілі пад адкрытым небам. Нават без уліку таго, што расцягнулі марадзёры, сума атрымлівалася астранамічная. На рамонт дакладна хопіць.

У аблвыканкаме саўдзіта горача запэўнілі, што ў вобласці няма ні адной адсталай гаспадаркі. Усё ж такі Рэспубліка для народа, а не якія-небудзь задрыпаныя ЗША. А асабісты вадзіцель не мог пераблытаць адрас. І тут саўдзіт успомніў яшчэ аб адным месцы, у якім таксама збіралася новая тэхніка.

Зона адчужэння Чарнобыльскай АЭС...

Саўдзіта накрыў дзявяты вал страху: з радыяцыяй жарты дрэнныя. Бахір Васік Муафа Абд аль-Азіз ібн Аль-Хатаб ан-Нума ібн Зута ібн Мах аль-Фарук Абу-л-Абас кінуўся прэч. А прырода і людзі, як у якім-небудзь малабюджэтным фільме жахаў, перашкаджалі выратаванню: бур'ян у рост чалавека, іржавы калючы дрот на гнілых тэлеграфных слупах, зарослыя меліярацыйныя каналы, горы пустых пластыкавых бутэлек, падмурак жылога дома, укапаныя ў зямлю аўтамабільныя пакрышкі, кінутыя акумулятарныя батарэі, рознапамерныя валуны і нястрымная расліннасць, якая жвава прачыналася пасля зімы.

Моцныя мары вельмі часта становяцца рэальнасцю — сустрэча саўдзіта з туалетнай кабінкай, сабранай з аполкаў, руберойда і шыферу, магла служыць пацвярджэннем. Бахір Васік Муафа Абд аль-Азіз ібн Аль-Хатаб ан-Нума ібн Зута ібн Мах аль-Фарук Абу-л-Абас атрымаў культурны шок: дзверы з какетлівым сэрцайкам віселі на адной іржавай пятлі, прагнілы насціл асеў пад небяспечным вуглом, над скамянелым калам вакол адтуліны віліся тлустыя мухі, гільза ад снарада калібру дзвесце пяцьдзясят міліметраў была напоўнена змятымі абрыўкамі афіцыйнай «Чырвонай Бульбарусіі» з характэрнымі фекальнымі мазкамі...

Смурод не пакідаў ніякіх сумненняў у тым, што прыбіральняй працягвалі карыстацца.

У стане глыбокага нервовага ўзрушэння Бахіра Васіка Муафу Абд аль-Азіза ібн Аль-Хатаба ан-Нуму ібн Зуту ібн Маха аль-Фарука Абу-л-Абаса знайшлі ратавальнікі. Асабістым самалётам у найстражэйшай сакрэтнасці яго адправілі ў Саудаўскую Аравію, дзе наступныя дваццаць пяць гадоў Бахір Васік Муафа Абд аль-Азіз ібн Аль-Хатаб ан-Нума ібн Зута ібн Мах аль-Фарук Абу-л-Абас праходзіў курс паглыбленай псіхалагічнай рэабілітацыі.

Першы намеснік Пухныш — дзякуючы пратэкцыі і грошам бацькі — абышоўся толькі вуснай заўвагай. Старшыня калгаса «Бальшавіцкі ўгар» Цевель атрымаў строгую вымову з занясеннем у асабістую справу: «за правал рэспубліканскай палітыкі прыцягнення замежных фінансавых сродкаў для паскарэння фарсіраванага рашэння дзяржава-будаўнічых задач у лакальных маштабах».

Праўда, гледзячы на асфальт на галоўнай вуліцы, брукаваныя дробнаштучнай пліткай тратуары, новыя платы з металапрофілю, саджанцы клёна і каштана, пасвяжэлыя фасады дамоў, знерваваўся не моцна.

— Затое Бульбянка хоць трохі палепшала.

На правядзенне рэспубліканскіх «Дажынак» Бульбянцы спадзявацца не выпадала.

# Ад мудрасці да дурасці — адзін крок



Уладзімір КАРОТКІ

***

*Ад мудрасці да дурасці —*
*адзін маленькі крок.*
*Ад дурасці, па мудрасці, прашу,*
*каб Бог збярог...*

***

*Пятро заўсёды голас меў –*
*Галасаваць, аднак, не ўмеў.*

***

*Праём разоў сто сорак мерыў, —*
*І ўсё ж не купіў не тыя дзверы.*

***

*Дурны асу ў далонях песціць –*
*Аса там хутка джала змесціць.*

***

*Сын бацьку смела павучае.*
*Каму з іх клёпак не хапае?*

***

*Жук гнаявы: «Я ўсё ж лятаю!*
*Арла няма — я замяняю».*

***

*Убачыў Певень жонку Кракадзіла:*
*«Нясе таксама яйкі —*
*вось дык дзіва.*
*Давай, — ён Кракадзілу кажа, —*
*жонкамі мяняцца...».*
*А што з таго абмену —*
*можна здагадацца.*

***

*Лізаў ланцуг сабака столькі год*
*За тое, што ланцуг свабоду перамог.*

***

*Змяя Арла схапіць хацела —*
*Вось толькі крылаў не займела.*

***

*Баран быць мудрацом жадае,*
*Ды галава перашкаджае.*

***

*Купіла Малпа акуляры.*
*І што з іх? Толькі шкло на твары.*

***

*Алень узяў ды скінуў рогі —*
*Не памаглі ва ўцёках ногі.*

***

*Свінні яды было ўсё мала,*
*Пакуль сама ядой не стала.*

***

*О, як сябе мы часта губім,*
*Калі адно сябе мы любім.*

***

*Рукі каханай дакрануўся:*
*Сябе забудзь — ты ў ёй прачнуўся.*

***

*Крумкач гняздо звіў на таполі,*
*А перапёлка — сярод поля.*
*Дзяцей іх гэткі ж лёс чакае:*
*Хто ў неба —*
*а хто з неба пазірае.*

***

*Усеўся ты калі на сук —*
*Піле тваіх не трэба рук.*

***

*Калі ты ў полі ловіш вецер:*
*Жыццю канец — прыходзіць вечар.*

***

*Каб кветкай летам любавацца,*
*Вясною трэба пастарацца.*

***

*Калі віно паставілі на стол,*
*То ад гасцей кілішкаў не хаваюць.*
*Віно заззвычай разам выпіваюць.*
*Інакш — навошта і віно, і стол?*

# Вятры агаляюць душы

## Роздум пра аўтарку і кнігу

Валер ГАПЕЕЎ

**Юльяна Пятрэнка. Харунжы. Verbera ventorum : раман / — Мінск: Кнігазбор, 2020. — 228 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; серыя «Пункт адліку»).**

Стаўленне маё да гістарычнай мастацкай прозы далёка не роўнае. Тут не проза вінаватая, а я сам: калі ў кнігах дзейнічаюць знакамітыя гістарычныя персанажы, хутчэй за ўсё, адкладу кнігу. Новую кнігу Юльяны Пятрэнкі «Харунжы. Verbera ventorum» пагартаў, уцяміў, што галоўны герой — шараговы ваяр, то з чыстым сумленнем стаў чытачом…

Нашы пісьменнікі тым і пісьменнікі, што кожны піша асабліва. Неяк давялося пачытаць, што ўласна літаратура — найперш стыль. Нехта піша мудрагеліста; чытаеш — бы пазл складаеш; у некага проза вязкая; тут — сухая і лаканічная; грувасткая; матэматычна-выверанная; мяккая-лагодная; жорсткая; музыкальная… Калі б магчыма было нейкім усяго адным словам характарызаваць прозу аўтараў, то ў адносінах да гэтай маладой пісьменніцы, не раздумваючы асабліва, ужыў бы выраз «настраёвая». І гэты настрой — радасць жыцця. Ці будзе гэта трагедыйная «Авяльга», драматычная «Няпрошаныя госці», — ты чуеш у мелодыях радкоў светлую музыку жыццядайнасці.

Кажу гэта таму, што мной прачытана большая частка з таго, што публікавалася ў перыёдыцы і выдавалася пад імем Юльяны Пятрэнка. За творчасцю гэтай маладой жанчыны сачу ад 2016 года, здаецца. І, прызнаюся, мяне вельмі ўсцешваюць усе яе публікацыі і поспехі.

Наша сустрэча адбылася ў віртуале: выдавецтва «Рэгістр» праводзіла конкурс «1 глава». Зразумела, выдавецтва шукала сабе аўтараў адпаведна свайму бачанню літаратуры, якая прынясе прыбытак на рынку. Сярод маладых аўтараў-канкурсантаў была і Юльяна Пятрэнка з тэкстам-фэнтэзі на рускай мове. Тады тэксты ўдзельнікаў конкурса я прачытаў усе, і, прызнаюся, замаркоціўся. Але тэкст Юльяны Пятрэнка здзівіў. Першае: тут быў той самы настрой, пра які я казаў вышэй, і нават больш: тут была зухаватасць, гульня, самая поўнасць маладога жыцця. А яшчэ я чытаў рускамоўны тэкст, а чуў беларускую мову. Гэта было нашае, адвечнае беларускае мысленне, наша беларуская логіка і пабудова. То і спытаў: а ёсць што напісанае на беларускай мове? Ёсць, быў адказ, ляжыць нешта накрэмзанае. Пачытаў. Здзівіўся і парадаваўся: тут быў стыль. Свой, асаблівы. Было сваё бачанне, быў цвёрды грунт ведаў і жыццёвага вопыту з россыпам каштоўных каменьчыкаў фальклору і народнай мудрасці, што назапасіла аўтарка ад сваіх продкаў.

Публікацыі Юльяны Пятрэнка ў часопісах «Маладосць», «Полымя», «Дзеяслоў», альманахах выклікалі да аўтаркі непадробную цікавасць. Было відавочна, што ў нас з'явіўся новы годны творца. Сапраўдны фурор сваімі творамі яна выклікала ў родным Гомелі — пераканаўча заваёвае Гран-пры абласнога конкурсу маладых літаратараў Гомельшчыны, зборнік апавяданняў «На досвітку» выдаецца асобнай кнігай і атрымлівае прэмію Кірылы Тураўскага. Аддзяленні двух Саюзаў пісьменнікаў — СБП і СПБ — пачынаюць апекавацца аўтаркай, разлічваючы займець яе ў сваіх шэрагах.

Але адбываецца нешта не самае звычайнае: у свае 30 з нечым Юльяна Пятрэнка паступае ў Школу маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Крок яшчэ той: яна вучылася разам з тымі, хто быў маладзей за яе. Спецыяльна акцэнтую на гэтым увагу. У той час, як некаторыя аўтары, нашмат маладзейшыя, выдаўшы пару (заўважым: не такіх і паспяховых) кніг, раптам ствараюць свае «школы пісьменніцкага майстэрства», Юльяна Пятрэнка ідзе вучыцца.

Кніга «Харунжы. Verbera ventorum» стала вынікам «саюзнага» навучання і атрыманых ведаў. Ад кароткіх апавяданняў, ад невялікай прыгодніцкай аповесці і дзіцячай казкі Юльяна Пятрэнка падышла да стварэння гістарычнага рамана. І справілася на выдатна.




Гістарычная праўда ў антуражы, у дэталях, у бытапісанні. Няцяжка здагадацца, што за кароткім радком у кнізе часам стаіць няпростая вышуковая праца. Такім чынам, аўтар не проста распавядае аб новых прыгодах сваіх герояў, але ўзнаўляе максімальна праўдзівы той час. Праўдзівасць у стварэнні вобразаў і антуражу ўрэшце стварае сапраўдную атмасферу тагачасся.

У Юльяны Пятрэнка свой пазнавальны паўсюль стыль. Яна — выдатны апавядальнік, умее не проста завалодаць увагай і стварыць настрой, але захапіць чытача гэтым настроем.

У чытача-мужчыны стаўленне да прыгодніцкай ды яшчэ ваеннай прозы, напісанай жанчынай, заўсёды трохі паблажлівае. Але што тычыцца Юльяны Пятрэнка, то хай бы хто з мужчын паспрабаваў апісаць лепш бой на шаблях у XVII стагоддзі, і каб пры гэтым не сагрэшыць супраць ісціны ў апісанні той самай шаблі і спосабаў яе мацавання да пояса ваяра. Ведаю, што пры стварэнні свайго рамана Юльяна карысталася не адной крыніцай, турбавала не аднаго даследчыка, распытвала не аднаго гісторыка.

Гэта тое, што лічыцца, так мовіць, тэхнічнай часткі.

Пра ідэйную сутнасць рамана «Харунжы. Verbera ventorum» можна гаварыць многа. Мне ж бачыцца асаблівая патаемная сувязь галоўнага героя рамана і самой аўтаркі. У пэўным сэнсе і харунжы, і Юльяна Пятрэнка ў свой час апынуліся на раздарожжы, што прадзімалася ўсімі вятрамі з розных бакоў. І кожнаму трэба зрабіць свой крок…

Вярнуся ў часе да конкурса «Рэгістра». Юльяна Пятрэнка, амаль не сумняваюся сёння, цягам часу дасканала авалодала б майстэрствам напісання фэнтэзі на рускай мове, публікавала б бясконцыя серыі на нейкіх рэсурсах, мела б грошы з продажу сваіх электронных кніг, — так бывае, і так ёсць, і так магло б рэальна быць. Талент, калі ён ёсць і не прыдушваецца побытам і асабістай ленасцю, заўсёды прабівае сабе дарогу і вяртаецца нейкім прыбыткам. Мог бы і для Пятрэнкі вярнуцца больш-менш істотнай фінансавай падтрымкай.

Яна ж выбірае беларускую мову ды ідзе туды, дзе ад пачатку не можа існаваць грашовага дабрабыту. Дзе напісанне — гэта толькі покліч душы, дзе ўся радасць ад выдання кнігі — першы момант дакранання да вокладкі, што пахне друкарскай фарбай, ды першая станоўчая рэцэнзія на твой твор. Юльяна Пятрэнка абрала шлях сучаснага беларускага пісьменніка з першым клопатам: дзе і за што выдаць кнігу і пасля з расцягнутым у часе другім клопатам пра тое, ці разыдзецца тыраж, ці рызыкне яшчэ раз якое выдавецтва на выданне новага твора. Згадзіцеся, яна б і тут яшчэ змагла зрабіць свой выбар: да якой суполкі пісьменнікаў падацца. Быць у адной — мець адно клопат ды чыста духоўную падтрымку і еднасць. Быць у другой — глядзіш, афіцыйныя мерапрыемствы кшталту Дня пісьменства, запрашэнні ў школы, бібліятэкі ды ўніверсітэты, інтэрв'ю ў праўладных газетах, граматы ды падзякі, магчымы кар'ерны рост у самой суполцы, а там і да медаля недалёка — іх сёння шмат раздаюць у СПБ: ад выпіленага з тонкай фанеры да сапраўднага кшталту «За вялікі ўнёсак у літаратуру» ці Францыска Скарыны нават.

Ведаю, Юльяна Пятрэнка пакуль на раздарожжы, можа, яшчэ і таму, што сама не ацэньвае сваю працу настолькі, каб звацца пісьменніцай. Дзівачка, праўда? У нас вунь з адным апублікаваным у часопісе апавяданнем гучна кажуць пра сябе «пісьменнік» — і ніколечкі не саромеюцца, і здзіўляюцца, калі ты здзіўляешся іх статусу, якім іх узнагародзілі сябры і сяброўкі па тусоўцы.

Гады маёй журналісцкай практыкі пераканалі ў тым, што беларускія карані творчага чалавека, толькі палі іх жыватворнай вадой падтрымкі і адвагі, ажываюць, ідуць у рост. На маім кароткім веку трое аўтараў, што пачыналі пісаць вершы і прозу на рускай мове, пасля пераходзілі на беларускую, нават дасканала не ведаючы яе, але ўцягваліся, адточвалі сваё майстэрства і казалі пасля, што ім… лягчэй, нават не валодаючы вялікім лексічным запасам, перадаць свае пачуцці на роднай мове. Менавіта таму мне так неабыякавая творчасць Юльяны Пятрэнка. У вельмі няпросты час яна зрабіла свой выбар, цяпер вось у найскладанейшы для ўсіх беларусаў час ёй трэба рабіць яшчэ адзін крок.

І ў гэты самы час, які літаратуразнавец Ганна Кісліцына назвала «не да чытання», выходзіць раман Юльяны Пятрэнка «Харунжы. Verbera ventorum». Гэтай кнізе будзе няпроста патрапіць да свайго чытача, няпроста будзе быць прачытанай, калі патрапіць, няпроста будзе быць зразумелай і ацэненай, калі будзе прачытаная. Хоць аўтарка і выбрала для свайго рамана самы лепшы падыход для гістарычнага твора: прыгоды з элементам дэтэктыву. На імклівую плынь прыгодніцкага аповеду накладваецца быццам і лёгкі флёр глыбокай ідэйнасці, філасофскіх разваг. Тут за бойкамі-пагонямі-пошукамі выяўляюцца як лепшыя якасці чалавечай душы, так і чорны яе бок. Тут за знешняй меладраматычнасцю расстання каханых прарастае адвечнае пытанне: каханая ці айчына?

Доўг ці пачуццё?

Выгода ці сумленне?

Вернасць ці скарэнне?

Хто скажа, што сёння гэтыя пытанні не ў цэнтры нашага жыцця?

…Некалі выйшла кніга Андрэя Федарэнкі «Мяжа». Помніцца, у адным крытычным водгуку пачуў: занадта рана непакоіцца аўтар пра лёс беларускай літаратуры. Мне таксама тады на нейкі момант падалося, што аўтар, агучваючы страту сувязі пакаленняў і прадаўжэння традыцый, трохі згусціў фарбы. Але сёння, сам дажыўшы да недалёкага 60-годдзя, азіраюся на бакі, і сумна: не бачу хоць бы дзясяткі два тых беларускамоўных аўтараў, якім цяпер па 20–40 гадоў і якія б свяціліся хай не звыш-новымі, але хаця б проста зорачкамі свайго неасрэчнага таленту. Калі памыляюся — папраўце мяне. Тыя постаці, якія бачу, можна пералічыць на пальцах рук…

Таму так важны нам кожны новы аўтар. Тым больш з тых, у каго з усіх жаданняў прэваліруе адно: пісаць. Хто не саромеецца вучыцца ў свае «трыццаць з хвосцікам», у гэтым узросце толькі пачынаць і звацца маладым пісьменнікам. Хто, ідучы ў літаратуру, ведае, што ўжо страціў усе шанцы быць адзначаным у шматлікіх конкурсах маладых аўтараў, бо па ўзросце выпаў з «абоймы маладых штыхоў», хто праляцеў з творчымі стыпендыямі для маладых аўтараў, не мае шанцаў на атрыманне гранта і не мае «карыснага сяброўства», якое ў наш час, будзем цынічна праўдзівымі, хай яшчэ не хлеб з маслам, але ж не дасць з голаду памерці.

Але тым не менш, ідзе.

І хай надта прыкра, што такіх мала, ды грэе сэрца і спараджае надзею тое, што ўсё ж — ідуць.



Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Спецрасследаванне: каго ці што абараняе «Беркут» у Беларусі. Частка III

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

На фота прэс-службы патрапілі і папярэднія фігуранты нашых расследаванняў — Сяргей Кімінчыжы і, з вялікай доляй верагоднасці, Сяргей Панасенка.



**Фотафіксацыя капітана міліцыі і камандзіра групы мінскага АМАП Сяргея Кімінчыжы падчас візіту ў рэзідэнцыю Лукашэнкі здзейсненая ажно на трох фотаздымках.** Выкадраванне з фота minsk.mvd.gov.by

На адным з супольных здымкаў з рэзідэнцыі Лукашэнкі Кімінчыжы зафіксаваны, з вялікай доляй верагоднасці, з яшчэ адным колішнім «беркутаўцам» — Сяргеем Панасенкам. Якасць фота і аптычныя аберацыі ў ім не дазваляюць на ўсе сто працэнтаў сцвярджаць, што гэта Сяргей Панасенка, аднак ёсць пэўныя прыкметы, якія дазваляюць казаць, што на фота, хутчэй за ўсё, Панасенка.

Праз запрашэнне ў сваю галоўную рэзідэнцыю рэжым Лукашэнкі выказаў своеасаблівае прызнанне і пашану байцам мінскага АМАП, сярод якіх былі і колішнія «беркутаўцы» — удзельнікі супрацьстаяння на Майдане. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу дэманстрацыйная публікацыя прэс-службай сталічнага ГУУС фотаздымкаў з адкрытымі абліччамі як амапаўцаў, так і чальцоў іх сем'яў, у той час, як на дзяржаўным узроўні рэалізуецца палітыка наўмыснага ўскладнення ідэнтыфікацыі іх асобаў у СМІ, а таксама падчас судовых працэсаў.

Наступныя пазіцыі ў спісе мінскіх амапаўцаў у чарзе на жытло займаюць фігуранты нашых папярэдніх расследаванняў — Сяргей Гаўрыляк і Анатоль Прымак — пазіцыі №№ 257 і 258 адпаведна. Замыкае групу з пяці байцоў мікалаеўскага «Беркуту» з пазіцыяй №259 іх таварыш па службе — Ігар Запалух.



**Ігар Запалух пазначаны колам.** Фота: БГАВ ОУС і УВ

## Запалух Ігар Юр'евіч

Запалух Ігар Юр'евіч (паўкраінску — Запалух Ігор Юрійович) нарадзіўся 17.04.1984 года ў вёсцы Куцуруб Ачакаўскага



раёна Мікалаеўскай вобласці, УССР. Пасля праходжання тэрміновай вайсковай службы быў прыняты ў РМАП «Беркут» ГУ МУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці. У складзе свайго падраздзялення, меркавана, напрыканцы лістапада 2013 года быў перакінуты на падмацаванне ў Кіеў. Разам з іншымі таварышамі па службе з'ехаў з Украіны ў Беларусь пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці. Супрацоўнік АМАП ГУУС Мінскага гарвыканкама.

Ігар Запалух ідэнтыфікаваны на супольным фотаздымку байцоў мікалаеўскага «Беркута», зробленым у ліпені 2009 года. На гэтым фота таксама зафіксаваны фігурант папярэдняга расследавання Дзмітрый Анцупаў.



**На пярэднім плане перад БТР стаяць у цэнтры — Дзмітрый Анцупаў (другі леваруч) і Ігар Запалух (трэці леваруч)**

Як і Мікалай Чарэпін, Ігар Запалух захоўвае інфармацыйную гігіену і не публікуе ў сацсетках уласныя фотаздымкі. Аднак дзякуючы яго сваякам у дачыненні да яго была сабраная ўся неабходная інфармацыя.

Родныя Ігара Запалуха маюць досыць шмат супольных фотаздымкаў, зробленых у беларускай сталіцы. Гэта ўласцівa большасці гасцей Мінска, якія захапляюцца яго архітэктурнымі славутасцямі і маляўнічымі краявідамі. А ў адным з акаўнтаў сацсетак былі выяўлены фотаздымак, зроблены яго сваякамі поруч ці не з галоўным сімвалам і атрыбутам рэпрэсіўнага сілавога падраздзялення, у якім служыць Запалух.

Падчас правядзення расследавання выяўлена, што Ігар Запалух з'яўляецца таксама паляўнічым. У акаўнтах яго сяброў і сваякоў былі выяўленыя супольныя фотаздымкі разам з ім і іншымі паляўнічымі, якія дэманструюць здабытыя падчас палявання трафеі. Фота зробленыя яшчэ да яго ўцёкаў у Беларусь, меркавана, у Мікалаеўскай вобласці.

У выніку выведкі адкрытых крыніц інфармацыі вызначана, што Ігар Запалух з'яўляўся ўдзельнікам спаборніцтваў і чэмпіянатаў МУС Украіны па прыкладной стральбе і па мнагабор'і сярод снайпераў. Так, у складзе каманды Галоўнага ўпраўлення мікалаеўскай міліцыі з 26 па 29 красавіка 2010 года ён удзельнічаў у чэмпіянаце МУС Украіны па прафесійна-прыкладных відах спорту, які праходзіў на базе Запарожскага юрыдычнага інстытута і палігона навучальнага цэнтра в/ч 3033. Удзельнікі спаборнічалі ў прыкладной стральбе з пісталета Макарава (ПМ) і аўтамата АК.

З 14 па 17 жніўня 2012 года Запалух удзельнічаў у чэмпіянаце МУС Украіны па шматбор'і сярод снайпераў, які праходзіў у Данецку і на палігоне в/ч 3037 у г. Ясынувата (як і Данецк, знаходзіцца пад кантролем расійскіх войскаў). У спаборніцтвах прымалі ўдзел каманды абласных падраздзяленняў украінскай міліцыі.

Праграмай чэмпіянату было прадугледжана выкананне стралковых практыкаванняў з пісталета ПМ, снайперскіх вінтовак калібру 5,6 мм і 7,62 мм, а таксама дуэльнай стральбы.

Ужо на тэрыторыі Беларусі Ігар Запалух быў ідэнтыфікаваны на супольным фотаздымку байцоў сілавых падраздзяленняў, зробленым пасля правядзення ведамаснага спаборніцтва.

Паводле інфармацыі ініцыятывы BYPOL, Ігар Запалух з'яўляецца намеснікам камандзіра звяна ўзводу аператыўна-баявога прызначэння (22-і ўзвод, АБП) АМАП ГУУС Мінскага гарвыканкама, мае званне старшага лейтэнанта міліцыі. Паводле штатнага складу, ён павінен спалучаць пасаду намесніка камандзіра звяна з выкананнем абавязкаў стралка-снайпера.

Узвод АБП — самае маладое падраздзяленне, якое ў структуры мінскага АМАП узнікла толькі ў красавіку 2018 года. Узвод з'яўляецца асобным і не ўваходзіць у аніводную з аператыўных ротаў. Адна з яго галоўных функцый — наданне ў выпадку неабходнасці падтрымкі падчас правядзення сілавых аперацый дзяржаўнымі ведамствамі.

Адбор у гэты ўзвод здзяйсняецца з найбольш падрыхтаваных і правераных байцоў атрада. Паводле арганізацыйна-штатнай структуры, ён складаецца з 4 звёнаў па 7 байцоў у кожным. Кожная з гэтых тактычных адзінак мае ў сваім складзе камандзіра звяна, яго намесніка-снайпера, як было ўжо зазначана вышэй, а таксама кулямётчыка, адмыслоўца ў мінна-выбуховай справе, двух адмыслоўцаў-вышыннікаў з альпінісцкай падрыхтоўкай і міліцыянта-кіроўцу.

Паводле даных (пра)расійскага прапагандысцкага рэсурсу strana.ua, Ігар Запалух не толькі прымаў удзел у супрацьстаянні з абаронцамі Майдану, але нават зазнаў лёгкае раненне. Згодна з апублікаванай інфармацыяй, ён быў паранены 18 лютага 2014 года, у дзень, калі пачаўся штурм Майдану, — вырашальны і самы трагічны этап Рэвалюцыі Годнасці, сёмую гадавіну якой Украіна адзначае ў гэтыя дні.

Паводле пазначанага часу і месца, Ігар Запалух быў паранены ў гэты дзень а 14.00 на вуліцы Грушэўскага непадалёк Марыінскага парку. Тады адбываліся брутальныя сутычкі паміж сіламі міліцыі, узброенымі «цітушкамі» з аднаго боку і абаронцамі Майдану з іншага.

Праз злачынныя дзеянні рэжыму Януковіча ў той дзень загінулі не менш за 20 пратэстоўцаў, звыш за 500 зазналі раненні рознай ступені цяжкасці.

Следчыя органы Украіны маюць выключнае права і поўную кампетэнцыю на правядзенне расследавання наконт раскрыцця дзейнасці Ігара Запалуха як снайпера і прафесіянала па практычнай стральбе ў складзе падраздзяленняў «Беркута» падчас Рэвалюцыі Годнасці. Не выключана, што следчыя могуць праводзіць гэтае расследаванне і ў кантэксце вывучэння дзеянняў так званай «чорнай роты», байцоў якой падазраюць у масавых расстрэлах людзей у Кіеве ў лютым 2014 года.

Пры гэтым варта асабліва зазначыць, што выяўлены акаўнт Ігара Запалуха ў сацсетцы «ОК» папросту перанасычаны допісамі з групаў «Антимайдана», усхваленнем мілітарысцкай велічы Расіі і сепаратысцкіх паблікаў, створаных у рэчышчы вядзення гібрыднай ваеннай агрэсіі супраць Украіны.

Цікавая асаблівасць: дзед Ігара, Зіновій Запалух, увосень 1990 года здзейсніў у Ачакаве патрыятычную акцыю. Ён дэманстратыўна выйшаў у цэнтр горада з нацыянальным сіне-жоўтым сцягам Украіны. За гэта яго і яго паплечніка тады жорстка збілі прадстаўнікі Камуністычнай партыі, якія разарвалі і спалілі ўкраінскі сцяг.

Аднак ані патрыятызм дзеда, ані прысяга пад гэтым сцягам на вернасць украінскаму народу не зашкодзілі Ігару Запалуху служыць рэжыму, які з'яўляецца найбліжэйшым сатэлітам дзяржавы-агрэсара, што топча гэты сцяг на акупаванай ёю тэрыторыі Украіны.

Далейшае ж разгортванне так званай «Саюзнай дзяржавы» пагражае ў перспектыве і непасрэдным задзейнічаннем ваеннага патэнцыялу Беларусі ў гібрыднай вайне РФ супраць Украіны. Учарашнія «беркутаўцы» могуць пайсці са зброяй у руках супраць сваіх жа суайчыннікаў, жыццё, правы і свабоды якіх яны прысягалі мужна ахоўваць не шкадуючы ўласных сілаў.

Такім чынам, на тэрыторыі Беларусі выяўленыя ўжо дзесяць экс-байцоў «Беркута». Маюцца дакументальныя сведчанні пра службу дзевяці з іх у атрадах АМАП МУС РБ, аднак і гэтыя лічбы не канчатковыя.



**Адзін з самых вядомых фотаздымкаў таго драматычнага дня. Збітыя байцамі «Беркута» кіеўскія навукоўцы, бацька і сын Мікола і Ігар Кузняцовы.** Фота Reuters

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІНДЫЯ. 45 трыльёнаў долараў кампенсацыі

Ва ўмовах цяперашняга эканамічнага крызісу ў свеце тэма кампенсацый за злачынствы мінулага атрымала новае развіццё. Прычым, апетыты краін таксама ўзраслі. Так, літоўскія палітыкі днямі агучылі лічбу 800 мільярдаў долараў. Менавіта ў такую суму цяпер ацэньваецца шкода ад савецкай акупацыі, хоць літаральна год таму Расіі як нашчадку СССР збіраліся выставіць рахунак на прыкладна 40 мільярдаў.

Зрэшты, усіх пераплюнула група індыйскіх эканамістаў. Яны падлічылі, што Лондан вінен індусам 45 трыльёнаў долараў за каланізацыю краіны з 1765-га па 1938 год. Як сцвярджаецца, падлічана літаральна ўсё — ад стратаў індыйскай эканомікі ў выніку прыходу на мясцовы рынак брытанскіх прадуктаў да шкоды за вываз культурных каштоўнасцяў.

У прынцыпе, асаблівых прычын сумнявацца ў падліках няма: Індыю рабавалі вельмі моцна. А вось наконт таго, што Лондан пачне выплаты, сумневаў хапае. Не толькі таму, што 45 трыльёнаў (прыкладна 17 гадавых бюджэтаў Вялікабрытаніі) — фантастычная сума. Наўрад ці грамадская думка на Альбіёне прызнае памылкі мінулага. Згодна з сацыялагічнымі апытаннямі за 2014 год, прыкладна палова англічан лічыць, што брытанскі імперыялізм быў пазітыўнай з'явай для жыхароў калоній.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. На арэне — прэзідэнт!

Прэзідэнт Туркменістану Гурбангулы Бердымухамедаў працягвае, як кажуць, адрывацца. Цяпер ён паспрабаваў раскрыць свой талент у якасці артыста цырка. Усё адбывалася ў цыркавым манежы Міжнароднага коннаспартыўнага комплекса, куды прыйшоў гарант. Спачатку Бердымухамедаў сядзеў на трыбуне ў абсалютнай адзіноце і глядзеў выступы гурта нацыянальных конных гульняў. Пасля заканчэння шоу ён уручыў наезнікам падарункі, у тым ліку дыскі са сваімі рэп-кампазіцыямі.

Гэтага Бердымухамедаву аказалася мала — і ён вырашыў даць артыстам майстар-клас ды паказаць ім прыёмы верхавой язды. Іх, дарэчы, дзякуючы трансляцыі на тэлебачанні, ацаніла ўся краіна. Варта зазначыць, што Бердымухамедаў надае пільную ўвагу коням і нават напісаў кнігу пад назвай «У каня ёсць і адданасць, і весялосць».

Таксама цікавыя каментары на выступ Бердымухамедава на інтэрнэт-форумах краін СНД. Некаторыя лічаць, што туркменскі гарант кінуў выклік на адрас сваіх калег-прэзідэнтаў, і хутка той жа Пуцін, каб выглядаць годна, таксама будзе скакаць на арэне цырка.

**Паводле туркменскай прэсы**

### КАНАДА. Агонія гумару

У Канадзе стартаваў незвычайны судовы працэс. У Вярхоўным судзе Майкл Уорд, мясцовы комік, які выступае ў жанры стэнд-ап, абараняе сваё права... здзекавацца з інвалідаў. Усё пачалося ў 2010 годзе, калі Майкл вырашыў пажартаваць з Джэрэмі Габрыэля — 13-гадовага хлопчыка, якому паставілі дыягназ "сіндром Трычара-Колінза" (захворванне характарызуецца чэрапна-тваравай дэфармацыяй). Ва ўзросце 6 гадоў хлопчык атрымаў слыхавы апарат з касцяной фіксацыяй і выявіў у сабе талент спевака. У 2006 годзе ён спяваў для Рымскага Папы, што зрабіла яго імя вядомым.

Каментуючы той выпадак, Майкл Уорд сказаў са сцэны, што людзі хвалілі здольнасці хлопчыка толькі таму, што ён хутка памрэ. Сям'я Габрыэля падала ў суд і заявіла, што такія жарты прывялі да здзекаў з сына, і ў 2016 годзе суд прысудзіў Габрыэлю кампенсацыю ў памеры 27 500 долараў ЗША. Аднак аказалася, што ў Майкла таксама ёсць фанаты. У тым ліку актывісты Руху за свабоду слова, якія дапамаглі яму падаць апеляцыю ў Вярхоўны суд. Калі верыць адвакату коміка, стаўка працэсу вельмі высокая. Калі яго кліента не апраўдаюць, «стэнд-ап як жанр знікне».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Губернатар у будцы

Незвычайныя наступствы атрымалі перастаноўкі, якія арганізаваў узбекскі прэзідэнт Шаўкат Мірзіёеў у кіраўніцтве Наманганскай вобласці. Больш за ўсё крытыкі дасталася хакіму (так ва Узбекістане называюць губернатара) Шаўкату Абдуразакаву. Перш за ўсё кіраўнік Узбекістану быў незадаволены тым, што дасюль не працуе сметнік у адным з раёнаў вобласці. Абдуразакаў зрабіў аператыўныя высновы. Не паспеў гарант з'ехаць, як чыноўнік заявіў, што будзе жыць каля сметніку, пакуль там не навядуць парадак. У доказ сваіх словаў ён прыцягнуў на сметнік кантэйнер-будку, які быў абвешчаны рэзідэнцыяй хакіма. Там цяпер намаганскі хакім і працуе.

Застаецца дадаць, што Абдуразакаў — не першапраходзец у гэтай сферы. У свой час Міхаіл Саакашвілі, калі быў губернатарам Адэскай вобласці, таксама знайшоў сабе новую незвычайную рэзідэнцыю. Яго часовым офісам стала палатка на адной з трас пад Адэсай, якую губернатар абяцаў пабудаваць. Трасу ў выніку пабудавалі, хаця гэта не выратавала Саакашвілі ад хуткай адстаўкі.

**Паводле ўзбекскай прэсы**



Фота www.gazeta.ru

# «Зіма ваша, вясна наша!»

Алег НОВІКАЎ

**Менавіта так гучаў у часы «Салідарнасці» лозунг польскай апазіцыі, які сёння ўзялі на ўзбраенне беларускія дэмакраты.**

Нарадзіўся той лозунг на мяжы 1982-га па слядах увядзення ў краіне надзвычайнага становішча (13 снежня 1981-га). У той жа дзень па краіне пракацілася хваля арыштаў усіх патэнцыйна падазраваных у «супраціве зацвярджэнню сацыялістычнага парадку». У выніку ў спецыяльных лагерах хутка аказаўся практычна ўвесь апазіцыйны актыў, што не дазволіла адразу супрацьстаяць новаму рэжыму, хаця спарадычныя акцыі супраціву, натуральна, адбываліся.

Акрамя таго, у першыя дні пасля абвяшчэння новага парадку Ярузэльскі адправіў на вуліцы безліч жаўнераў і міліцыянтаў. «Першыя месяцы ваеннага становішча маглі стварыць уражанне, што вуліцы гарадоў належаць толькі сілавікам — арміі і міліцыі, іх узброеным патрулям і калонам спецыяльнай аўтамабільнай міліцыі, якія кружлялі па гарадах», — успамінае адзін з сучаснікаў. Не кажучы пра тое, што ўмовы зімы (у той сезон яна была вельмі суровай) не вельмі пасавалі пратэставым вылазкам.

З іншага боку, у тую ж зіму пачала паўставаць сетка нізавога падпольнага друку. Аўтары ўлётак, інфармацыйных лістоў вельмі часта пісалі пра тое, што ў «Салідарнасці» будзе шанец. Стыхійна ў самвыдаце нарадзілася думка, што рэванш за снежаньскі хапун абавязкова будзе ўвесну. Стаўку на вясенні наступ узмацняла і лакальная традыцыя супраціву. У часы нямецкай акупацыі сябры падполля любілі казаць: «Im słoneczko wyżej, tym Sikorski bliżej» — «Чым сонца вышэй, тым Сікорскі (лідар эміграцыйнага польскага ўраду) бліжэй». Да таго ж сама атмасфера вясны міжволі спрыяе думкам пра змены.

Фраза пра «нашу вясну» і «вашу зіму» хутка аказалася настолькі папулярнай, што на яе неяк адрэагаваў сам Войцэх Ярузэльскі. «Вясна не будзе "вашай", а толькі сацыялістычнай і польскай», — сказаў генерал. Пазней падкарэктавалі дэвіз і аматары жартаў. У іх выкананні ён гучаў так: «Зіма ваша, вясна наша, а лета — мумі-троляў!» «Лета мумі-троляў» — так у польскім перакладзе называлася папулярная кніжка дзіцячай пісьменніцы Туве Янсан.

Што атрымалася ўвесну 1982-га? Апазіцыя сапраўды моцна пра сябе заявіла. У Варшаве на Першамай альтэрнатыўная дэманстрацыя сабрала пад 30 тысяч удзельнікаў. Падобныя маршы адбыліся ў той жа дзень у Беластоку, Гдыні, Лодзі, Шчэціне, Toруні… У Гданьску маніфестанты прыйшлі да будынка, дзе быў інтэрніраваны Лех Валенса, і з лозунгам «Вярніце Леха!» патрабавалі яго вызвалення.

**Сістэмныя вясеннія выступы дазволілі апазіцыі арганізацыйна і маральна выстаяць. Выстаяць да 1988-га, калі камуністычная эліта аказалася не здольнай лакалізаваць новую серыю страйкаў**

Гледзячы па ўсім, улада разумела, што кантраляваць вуліцу не атрымаецца. Таму яна прыдумала цікавую тактыку. Усе сілы былі сканцэнтраваныя на ахове ўрадавых кварталаў. Толькі ў Варшаве сюды сцягнулі каля дзесяці тысяч жаўнераў. Затое па месцах збору і па маршруце дэфіле апазіцыі сілавікоў не назіралася. Як пішуць гісторыкі, у Ярузэльскага, напэўна, разумелі, што разгон альтэрнатыўных мерапрыемстваў негатыўна адаб'ецца на іміджы рэжыму. Хаця там-сям (напрыклад, у Toруні або ў Бяла-Падляскы) справа дайшла да сутычак.

Збольшага ж усё закончылася мірна. Выступы «Салідарнасці» ўвесну 1983-га, а пасля ў 1984 і 1985 гадах таксама не прывялі да краху рэжыму. Усё гэта дазваляе задацца пытаннем: наколькі прадуктыўная аказалася тактыка вясенняй мабілізацыі апазіцыйнага актыву пасля зімовага анабіёзу?

У гісторыкаў няма адназначнага адказу на пытанне. Фармальна, вясенняя мабілізацыя не дасягнула сваіх мэтаў. З іншага боку, яна стала рэгулярным напамінам пра існаванне «Салідарнасці», якую ўлады беспаспяхова спрабавала сцерці з сацыяльнай памяці палякаў. У дадатак мабілізацыя трымала грамадства ў тонусе. Успаміны ўдзельнікаў вясенніх акцый дыхаюць эмоцыямі і верай у перамогу. «Усюды бела-чырвоныя сцягі і вымпелы "Салідарнасці", шмат кветак. Транспаранты з надпісам "Салідарнасць" шумяць на моцным ветры. Мы ўздымаем два пальцы ўверх — знак V — перамога. Хаця хто яго ўбачыць у такім акіяне, невядома! Скандуем: "Прэч з ваенным становішчам!", "Хопіць беззаконня!" [...] Натоўп рухаецца да базілікі Дзевы Марыі. На пярэдняй панэлі размешчаны транспарант: "Салідарнасць не загінула, пакуль мы жывыя!". Мы ідзем па горадзе, нідзе ніводнага спецназаўца або міліцыянера. Ніводнага!» — прыгадвае ўдзельнік першамайскай дэманстрацыі 1982 года ў Гданьску.

Таму заслугоўвае ўвагі думка, што сістэмныя вясеннія выступы дазволілі апазіцыі арганізацыйна і маральна выстаяць. Выстаяць да 1988-га, калі камуністычная эліта аказалася не здольнай лакалізаваць новую серыю страйкаў. У выніку яна пагадзілася на дыялог, і з часам — на перамовы аб трансфармацыі краіны.

У гэтым плане, напэўна, толькі вясну наступнага, 1989 года, калі ў Польшчы прайшлі свабодныя выбары, польская апазіцыя можа сапраўды лічыць «нашай». З другога боку, гэта кампенсуецца тым, што пасля 1989-га кожная вясна таксама цяпер належыць ёй.

# «Сітуацыя патрабуе салдата»

Алег НОВІКАЎ

**На прэзідэнцкіх выбарах 2022 года 20 працэнтаў французаў гатовыя прагаласаваць за генерала П'ера дэ Вільe. Прывід Шарля дэ Голя вяртаецца?**



Фота www.rg.ru

Французскі палітыкум застыў на нізкім старце. Хутка пачнецца прэзідэнцкая кампанія 2022 года. У прынцыпе, у спісе кандыдатаў шмат знаёмых асобаў. Натуральна, Эмануэль Макрон паспрабуе паўтарыць свой поспех. Няма сумневаў, што аспрэчыць яго амбіцыі будзе намагацца ўпартая Марын Ле Пэн. Як мінімум, паспрабуе праврацца ў фінальны тур кандыдат левых Жан-Люк Меланшон. Аднак ёсць і «цёмныя кабылкі», не заангажаваныя ў традыцыйныя партыі. Самага перспектыўнага незалежнага кандыдата завуць генерал П'ер дэ Вільe.

Увогуле, цяжка згадаць, калі ў гісторыі Пятай рэспублікі вайсковец такога высокага рангу (калі, натуральна, не лічыць Шарля дэ Голя) спрабаваў стаць гаспадаром Елісейскага палацу — рэзідэнцыі прэзідэнта Францыі. Цяжка нават сказаць, ці ведалі яшчэ ўчора простыя французы пра генерала і яго жыццёвы шлях.

Хаця біяграфія ў героя цікавая. Пачаць можна з таго, што ён належыць да арыстакратычнага роду. Шляхецкі патэнт яго прашчуру ў далёкім 1595 годзе асабіста выдаў славуты кароль Генрых Чацвёрты.

Пачынаў П'ер дэ Вільe сваю кар'еру ў танкавых войсках і даслужыўся да кіраўніка брыгады. У 2004 годзе яго прызначылі генералам і адправілі ў Афганістан. Пазней ён кіраваў аперацыямі ў Афрыцы, Іраку і Сірыі. Наступнай кар'ернай прыступкай стала прызначэнне ў 2014 годзе на пасаду кіраўніка Мінабароны, дзе ён галоўным чынам запомніўся як лабіст ведамства. Што тычыцца прыватнага жыцця, то ў генерала аж сем дзяцей.

Пра П'ера дэ Вільe ўся краіна па-сапраўднаму даведалася дзякуючы яго не вельмі паліткарэктнай фразе: «Я не дазволю, каб мяне так трахалі». Яе генерал эмацыйна сказаў у ліпені 2017-га на пасяджэнні парламенцкага камітэта абароны, які разглядаў праект скарачэння вайсковага бюджэту на 850 мільёнаў еўра. Эмацыйны каментар генерала прагучаў падчас закрытага пасяджэння, але адбылася ўцечка інфармацыі ў прэсу. Хутка стала вядома таксама пра асабістую кулуарную пікіроўку паміж П'ерам дэ Вільe і французскім гарантам, якая працягнулася ў Facebook.

У выніку ўсё скончылася адстаўкай. Пры гэтым пераможцам у двубоі паміж прэзідэнтам і генералам аказаўся апошні. П'ер дэ Вільe пакінуў Міністэрства ўзброеных сіл пад апладысменты цывільных асобаў і салдат, якія віталі яго ганаровай вартай. Шмат хто лічыў скандалам, што прэзідэнт публічна павучае кіраўніка штаба Узброеных сіл, які проста выконваў свой абавязак.

На пенсіі генерал не сумаваў ад бяздзейнасці. П'ер дэ Вільe напісаў аж тры кнігі, якія выклікалі інтарэс. Нарэшце, у лістападзе 2020 года Le Figaro паведамляла пра чуткі наконт магчымай балаціроўкі генерала на прэзідэнцкіх выбарах. У снежні вайсковец, быццам, схіліўся да таго, каб застацца на будучых выбарах простым назіральнікам. Аднак прэса ўпарта лічыць яго ўдзельнікам прэзідэнцкага марафону. А нейкі жвавы журналіст ужо напісаў фантастычны раман пра тое, як генерал перамагае на выбарах насуперак інтрыгам буйнога фінансавага капіталу, які робіць стаўку на Макрона.

**На фоне пандэміі і эканамічных турбулентнасцяў запыт на моцную руку ў Францыі вельмі прыкметна вырас. У сацыялагічных апытаннях наконт таго, ці патрэбны Францыі моцны лідар, становуча выказваюцца 82 працэнты рэспандэнтаў**

Якіх поглядаў прытрымліваецца генерал? У палітычнай сістэме каардынатаў ён агучвае, хутчэй, пастулаты галізму — суверэнітэт Францыі, адзіная Еўропа, моцны парадак. Так, ён выказваецца за стварэнне еўрапейскай арміі, дэпартацыю радыкальных імамаў і аднаўленне пампежнага кантролю на нацыянальных межах.

Не дзіўна, што генерал імпануе электарату сталага веку: 35% яго прыхільнікаў — французы, старэйшыя за 65 гадоў. Сярод тых, хто маладзейшы за 35 гадоў, толькі 16 працэнтаў гатовыя аддаць голас за П'ера дэ Вільe.

Аднак сацыёлагі кажуць, што ў яго ніядрэнны патэнцыял. Вобраз генерала арміі, увасабленне ўлады і адказнасці — досыць прывабны сярод выбаршчыкаў. На фоне пандэміі і эканамічных турбулентнасцяў запыт на моцную руку ў Францыі вельмі прыкметна вырас. У сацыялагічных апытаннях наконт таго, ці патрэбны Францыі моцны лідар, становуча выказваюцца 82 працэнты рэспандэнтаў. Амаль дзевяць з дзесяці (88%) дадаюць, што «аўтарытэт — гэта каштоўнасць, якую сёння занадта часта няправільна крытыкуюць». Дадатковыя галасы генералу можа прынесці і яго беспартыйнасць.

Дарэчы, генералу сімпатызуе правая прэса, якая традыцыйна негалосна агітавала за посталісцкую партыю «Рэспубліканцы». «Французы хочуць, каб прэзідэнт рэспублікі валодаў трыма якасцямі: шчырасцю, аўтарытэтам і патрыятызмам. У П'ера ёсць усе тры. Бываюць выпадкі, калі сітуацыя патрабуе салдата», — адзначае адзін з каментатараў Figaro.

Між тым, падаецца, што шмат для каго з французаў галісцкая рыторыка П'ера дэ Вільe выглядае дастаткова памяркоўнай. Апытанні на мінулым тыдні засведчылі рост папулярнасці публіцыста Эрыка Зімура, якога могуць падтрымаць аж 13 працэнтаў выбаршчыкаў. На фоне Зімура наш генерал — проста нейкі батанік. Зімур, які называе сябе галістам-банапартыстам, выступае за высылку ўсіх мігрантаў на гістарычную радзіму, ставіцца да гомасексуалаў як да ахвяраў чумы, крытыкуе жанчын-дэпутатаў, паколькі яны, маўляў, атрымалі свой мандат праз ложак.

Прэзідэнцкая кампанія ў Францыі, гледзячы па ўсім, будзе даволі незвычайнай.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксей Навальны



Расійскі апазіцыянер прайграў у Масгарсудзе апеляцыю па «Справе Іў Рашэ» і па пазове ветэрана вайны Ігната Арцёменкі наконт паклёпу. Вердыкт пуцінскай Феміды быў чаканы. Напэўна таму значна больш увагі прэсы прыцягнулі паводзіны падсуднага і змест яго апошняга слова.

Іх аналіз дазваляе некаторым сцвярджаць, што Навальны распачаў рэалізацыю нейкага новага плана пад умоўнай назвай «Святы Аляксей». Галоўная задача новага плана Навальнага — атрымаць статус галоўнага маральнага аўтарытэта для ўсёй апазіцыі. Калі нехта захоча гэта аспрэчыць, то падпадзе пад грамадскае асуджэнне. У сваю чаргу, прыхільнікі Навальнага, абапіраючыся на такі аўтарытэт, змогуць атрымаць вядучую ролю ў палітычным супрацьстаянні з уладай і выступаць лідарамі апазіцыі.

Менавіта таму, як пішуць некаторыя каментатары, падсудны ў апошнім слове нечакана прызнаўся, што ён верыць у Бога. А верніку, таксама заўважыў ён, лягчэй весці жорсткую палітычную барацьбу, чым атэісту, бо ў верніка ёсць запаведзі, якіх проста трэба заўсёды прытрымлівацца.

У прынцыпе, многія прагназавалі, што Навальны будзе спрабаваць стварыць сабе імідж другога Андрэя Сахарава. Аднак гульня ў «святога Аляксея» досыць рызыкоўная, паколькі офісныя работнікі і тынейджары — касцяк руху «навальністаў», — далёкія ад вечных пытанняў.

### Ён Міхай Пачэпа



Былы кіраўнік Securitate, румынскага Дэпартамента дзяржаўнай бяспекі, памёр у ЗША ва ўзросце 92 гадоў. Ён да канца жыцця захаваў мянушку Кароль Дэзінфармацыі.

Нават той факт, што экс-кіраўнік Securitate памёр сваёй смерцю, — сам па сабе дзіўны. Справа ў тым, што румынскі дыктатар Чаўшэску прысудзіў яго да смяротнага пакарання адразу пасля таго, як Ён уцёк на Захад у 1977 годзе. Адначасова ўся яго маёмасць была канфіскаваная, а сваякі зведалі рэпрэсіі. Такая жорсткая рэакцыя звязаная з тым, што Ён лічыўся асабістым дарадцам Генія Карпат (адзін з тытулаў Чаўшэску) і адказваў за сетку румынскіх шпіёнаў у Еўропе. У вельмі кароткія тэрміны Бухарэст павінен быў змяніць структуру замежных спецслужбаў, паколькі ўсю інфармацыю пра іх Ён зліў заходнім выведкам.

Але галоўны ўдар Ён Пачэпа нанёс па Чаўшэску на іншым полі. У 1987 годзе ён выдаў кнігу «Чырвоныя гарызонты», у якой распавядаў неверагодныя гісторыі пра Чаўшэску і яго сям'ю. Напрыклад, у кнізе Ён апісваў, як Чаўшэску праводзіў сафары на жывых румынскіх венграў, якіх заўжды падазраваў у нелаяльнасці. Ці тое, як сын Чаўшэску арганізоўваў сексуальныя оргіі. Паколькі на той момант Румынія была закрытай краінай, многія заходнія медыя верылі ў такія гісторыі. Гэтыя публікацыі неўзабаве праніклі ў Румынію і, як прызнаюць гісторыкі, адыгралі пэўную ролю ў дыскрэдытацыі дыктатуры.

Верагодна, таму пасля звяржэння Чаўшэску Вярхоўны Суд Венгрыі адмяніў смяротны прысуд Ёну і дазволіў яму вярнуцца на радзіму. Праўда, сам Пачэпа не скарыстаўся гэтай магчымасцю.

### Аксана Марчанка



Вядомая ва Украіне тэлевядучая і жонка лідара прарасійскай партыі «Апазіцыйная платформа — За жыццё» (АПЗЖ) Віктара Медведчука запісала зварот да ўкраінскага народа і паведаміла пра сваё рашэнне ісці ў палітыку. У гэтым выступе Аксана Марчанка фактычна абвесціла вайну Зяленскаму за ўвядзеныя супраць яе сям'і санкцыі па падазрэнні ў «фінансаванні тэрарызму».

Паколькі Марчанка мае статус поп-зоркі, многія эксперты ўбачылі ў яе рашэнні моцны палітычны ход. Аж да таго, што яна можа пайсці ў прэзідэнты на наступных выбарах. Сапраўды, у жонкі Медведчука ёсць відавочныя плюсы. У яе няма ўласнага антырэйтынгу, яна, як былая вядучая, — добры прамоўца. Нарэшце, важна, што Аксана — жанчына, а ваяваць з жанчынай Зяленскаму будзе апрыёры цяжэй, чым з Медведчуком. Тое, што яна пайшла ў палітыку, каб абараніць мужа, таксама павінна спадабацца частцы электарату.

Зрэшты, відавочна, што ў вялікай палітыцы Аксане будзе цяжка. За прарасійскага выбаршчыка (прыкладна 25 працэнтаў украінскага электарату) будзе шмат хто змагацца, а сама партыя АПЗЖ можа ў хуткім часе раскалоцца.

# «Дзеці — смелыя і сумленныя — плацяць за нашу абыякавасць»

**Ціхан Клюкач з Брэста летась скончыў школу, хацеў стаць цырульнікам-мадэльерам, паступіў у каледж побытавага абслугоўвання. Праўвучыцца ён паспеў тыдзень — хлопца арыштавалі на Маршы адзінства ў Мінску 6 верасня. Маладзёна абвінавацілі ў нанясенні надпісаў на шчыты сістэмы «Рубеж» разам з 18-гадовай Соф'яй Малашэвіч. Суд накіраваў юнака на 1,5 года ў калонію агульнага рэжыму. «Белсат» паразмаўляў пра Ціхана з ягонай маці.**

### Пасталеў за час зняволення

Іна Калацкая, маці Ціхана Клюкача — псіхолаг паводле адукацыі. Жыве разам з маці-пенсіянеркай, бабуляй Ціхана. Цяпер кожны дзень для іх — чаканне і надзея, што сумленне і закон пераможуць, і Ціхан вернецца дадому.

З 26 лістапада, калі Ціхана ўзялі пад варту, спадарыня Іна бачыла сына толькі на судах і падчас адзінага спаткання на пачатку лютага. Юнак цяпер у Мінску, у СІЗА на Валадарцы. Да суда Ціхана трымалі ў следчай турме ў Жодзіна, але 22 студзеня, пасля абвяшчэння Кастрычніцкім судом Мінску выраку, адвезлі на Валадарку. Паводле спадарыні Іны, умовы ў СІЗА прымальныя, «наколькі ўвогуле магчыма ў такім месцы».

Ціхан трымаецца добра, вельмі пасталеў за час зняволення, зазначае маці. Ні на што не скардзіцца. Засмучаны, што лісты даходзяць са спазненнем.

— Я памятаю, як плакала над ягоным першым лістом пасля арышту, — згадвае спадарыня Іна. — Сын пытаўся: чаму вы не пішаце, я думаў, што першы ліст будзе ад вас. Але я, як толькі з Мінску тады вярнулася, адразу напісала. А ліст спазніўся. Потым мы ўсе зразумелі, як цяжка з ліставаннем.

### Умее бачыць прыгожае вакол сябе

Спадарыня Іна кажа, што вырак стаў для яе шокам. Насуперак усяму, што бачыла, чытала пра іншыя суды, жанчына спадзявалася калі не на апраўданне, то хаця б на хатнюю хімію.

— Ён жа яшчэ дзіця зусім, толькі выйшаў са сценаў гімназіі, толькі 18 гадоў улетку споўнілася, не ведае гэтага жыцця, а яго вось так адразу — у мясарубку, — зазначае берасцейка. — Мне, як маці, вельмі цяжка гэтую жорсткасць прымаць і перажываць.

Паводле спадарыні Іны, Ціхан вельмі разважлівы, удумлівы, пераборлівы ў адносінах, у яго няшмат блізкіх сяброў, ён адкрываецца толькі тым, каму давярае, любіць жывёлаў.



Ціхан Клюкач з маці. Фота з асабістага архіву

— У нас заўсёды быў поўны дом гадаванцаў: і птушкі, і чарапахі, вуж жыў цэлы год, потым адпусцілі на волю. Не кажу ўжо пра котак і сабак, якіх мы разам з Ціханам ратавалі з вуліцы, і яны дагэтуль жывуць з намі. У кожным лісце сыну пішу, як яны сумуюць па ім.

Ціхан з дзяцінства захапляўся маляваннем. У мастацкую школу не хадзіў, ён самавук. Малюе збольшага партрэты, але часам і пейзажы.

— Ён любіць бавіць час на прыродзе — проста гуляць па лесе, хадзіць па грыбы, разбірацца ў раслінах, дрэвах, птушках. Умее бачыць прыгожае вакол сябе, — кажа спадарыня Іна.

Ціхан працягвае шмат малявацб за кратамі, дасылае малюнкі ў лістах сябрам.

### У міліцыі чытаў Янку Купалу

Сярод Ціханавых захапленняў — гістарычная літаратура, замежныя мовы, гісторыя і культура Беларусі. Яшчэ да школы навучыўся чытаць, і з таго часу не ўяўляе сябе без кніг. Ужо ў трэцім класе, згадвае маці, прачытаў «Графа Монтэ-Крыста». Улюбёныя творы — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзіміра Караткевіча, «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі на ўкраінскай мове. Ціхан валодае таксама англійскай мовай.

Калі трапіў у СІЗА, складаў спісы з кніг, прасіў, каб перадавалі яму, але, паводле спадарыні Іны, з волі літаратуру ў ізалятары не прымаюць. Тады Ціхан стаў карыстацца мясцовай бібліятэкай, стараецца знаходзіць там нешта цікавае, нядаўна, паводле спадарыні Іны, прачытаў «Архіпелаг ГУЛАГ».

Цікавасць да Беларусі ў сына прачнулася ў старэйшых класах, кажа маці. Цяпер маладзён добра размаўляе па-беларуску.

— Ведае напамяць шмат вершаў, баек. Калі ў верасні яго затрымалі яшчэ паводле адміністрацыйнага пратаколу, у міліцыі яму сказалі: «Вашае пакаленне нічога не ведае». У адказ на гэтыя словы Ціхан прачытаў напамяць «Хто ты гэткі?» Янкі Купалы.

У 2020 годзе Ціхан скончыў брэсцкую гімназію №1, але паступаць у вышэйшую навучальную ўстанову не хацеў.

— Казаў, што лічыць вышэйшую адукацыю не абавязковай, каб дасягнуць поспеху ў жыцці, і што калі яна яму спатрэбіцца, то паспее яшчэ паступіць, — кажа спадарыня Іна.

### Вырашыў застацца на радзіме

Ціхан ні ў якім разе не хацеў з'язджаць за мяжу, хоць яму і прапаноўвалі.

— Канечне, за мяжой у яго было б больш магчымасцяў, — кажа маці. — Але ён цвёрда вырашыў застацца. Ён працягвае верыць у справядлівасць і сумленнасць, сапраўды любіць сваю радзіму.

Пасля школы Ціхан паступіў у Брэсцкі каледж побытавага абслугоўвання, хацеў стаць цырульнікам-мадэльерам. У якасці экзамену трэба было здаваць малюнак, але Ціхан не змог, бо ўжо быў у следчым ізалятары, і таму яго «перакінулі ў групу звычайных цырульнікаў», кажа маці. Праўвучыцца паспеў літаральна тыдзень. А ў кароткі перыяд на волі паміж вызваленнем пасля адміністрацыйнага арышту і да затрымання паводле крымінальных артыкулаў забраў дакументы — разумеў,



Малюнкі з турмы



Малюнкі з турмы

што вучыцца там ужо не зможа, тлумачыць спадарыня Іна.

### Сынава затрыманне бачыла ў жывым эфіры

Затрыманне ў верасні — не першае для Ціхана Клюкача. Юнак трапіў пад хапун на самым пачатку — у паслявыбарчы вечар 9 жніўня. Ціхан тады выйшаў на родныя вуліцы разам з іншымі берасцейцамі, каб выказаць нязгоду з падлікам галасоў. «Выключна мірным шляхам», — падкрэслівае маці. Хлопца тады адпусцілі праз пару дзён без пратакола і суда — у тую хвалю, калі пачалі масава выпускаць усіх затрыманых.

Іна Калацкая была супраць, каб Ціхан ехаў на той Марш адзінства ў Мінск 6 верасня.

— Я адгаворвала яго, нібыта адчувала, што нешта можа здарыцца, але Ціхан сказаў, што ён мяне не пытаў, а паставіў перад фактам, што паедзе, — згадвае жанчына. — Як я магла забараніць даросламу сыну?

Паводле спадарыні Іны, Ціхан заўсёды быў упарты, меў уласнае меркаванне і ўмеў яго адстойваць, і калі ён у нечым перакананы, то адгаварыць яго амаль немагчыма.

Затрыманне сына на маршы Іна Калацкая бачыла ў жывым эфіры.

— Я якраз глядзела навіны ў інтэрнэце, нейкае відэа, і тут бачу — да майго сына падышлі і амаль панеслі яго, — распавядае жанчына. — Мы потым ледзь адшукалі яго на Акрэсціна — дужа цяжка было атрымаць хоць нейкую інфармацыю.

### «На судзе на справядлівасць спадзявалася толькі я»

Тады Ціхану далі штраф паводле артыкула 23.34 КаАП РБ, а таксама абвясцілі, што ён падазраваны ў крымінальнай справе. Але адпусцілі пад падпіску аб яўцы. Праз некаторы час, ужо ў Брэсце, Ціхана зноў затрымалі — як кажа ягоная маці, за ўдзел у жніўеньскіх акцыях, — паводле трох пратаколаў юнак адседзеў 45 содняў. 26 лістапада яго выклікалі ў Следчы камітэт у Мінск, і там абвясцілі, што мера стрымання зменена з падпіскі на ўтрыманне пад вартай.

— Здаецца, падчас суда на справядлівасць спадзявалася толькі я, хоць і разумела, дзе я жыву, — кажа спадарыня Іна. — У выніку колькі пракурор запытала, столькі і далі — 1,5 года. Я дагэтуль не прызвычаілася. Да такога нельга прызвычаіцца.

Адвакатка Ціхана падала апеляцыю, цяпер і сам Ціхан, і ягоная сям'я жывуць чаканнем разгляду скаргі Мінскім гарадскім судом.

### «Нашы дзеці заслугоўваюць большага»

Маці палітвязня кажа, што яе вельмі цешаць і падтрымліваюць добрыя водгукі пра Ціхана, якія яна цяпер часта чуе, — ад ягоных сукамернікаў ці тых, хто сустракаўся з хлопцам падчас этапавання.

— Я разумею, што я не заўважала ў ім гэтага: гонару, адвагі, прынцыповасці, якія я бачу цяпер, і пра што мне кажуць ягоныя сябры, знаёмыя, і нават чужыя людзі, — кажа жанчына.

І зазначае, што цяпер выразна бачыць: Ціхан — не адзін такі. Спадарыню Іну цешыць, што сярод маладога пакалення шмат людзей з каштоўнасцямі ды прынцыпамі.

— Нашы дзеці заслугоўваюць у гэтым жыцці нашмат большага, чым сядзець на нарах, — кажа Ціханава маці. — Яны смялейшыя і больш сумленныя, чым мы, — плацяць цяпер за нашу памяркоўнасць і абыякавасць на працягу ўсіх гэтых гадоў.

Сяброўку Ціхана Соф'ю Малашэвіч, з якой яны разам былі на маршы, суд прызнаў вінаватай паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса Беларусі: ч. 1 артыкула 339 — хуліганства, ч. 1 артыкула 342 — арганізацыя або ўдзел у дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і ч. 1 артыкула 368 — абраза прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Дзяўчыну асудзілі на 2 гады зняволення. Яе выключылі з каледжу. Абодвух — Ціхана і Соф'ю — праваабаронцы прызналі палітвязнямі.

**Ганна Ганчар belsat.eu**

# Наталля Петракова: жыць хочацца для Беларусі — новай, свабоднай, багатай

Сяргей ШЧУРКО

**Яна пачала сваю легіянерскую кар'еру ўжо ў 19 гадоў, — і адразу ў топавых заходніх клубах. А ў мінулым годзе пазбавілася працы ў нацыянальнай зборнай праз сваю грамадзянскую пазіцыю. Мая суразмоўца Наталля Петракова — лепшы брамнік у гісторыі беларускага жаночага гандбола.**

***— Што змянілася ў тваім жыцці, калі Міністэрства спорту не падоўжыла з табой кантракт праз подпіс знакамітага ліста спартсменаў за сумленныя выбары і супраць гвалту?***

— Ды нічога, акрамя майго ўнутранага свету і пільнай увагі з боку кіраўніцтва і калег. Апошнія ставіцца як да нейкага звера ў заапарку — яны мяне разглядаюць: «Ну як ты там, жывая?». Некаторыя могуць скінуць эсэмэску або напісаць у вайберы з нагоды якога-небудзь майго паста: «Наташка, вау, крута!» Дзяўчаты са зборнай лайкаюць.

***— Гэта засмучае?***

— Ды не. Мы заўсёды былі толькі калегамі, звязанымі выключна прафесійнымі адносінамі. А цяпер ужо і іх няма — пасля таго, як мяне пазбавілі пасады старшага трэнера. Засталася толькі праца метадыстам у Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі. Ну і плюс узяла гадзіны як дзіцячы трэнер — выжываць жа неяк трэба.

Праўда, мне не зусім зразумела, чаму дзіцячы трэнер у Мінску мае 700 рублёў, а ў Гомелі ў такой жа спартыўнай школе — 1600. І гэта не выбух на макаронвай фабрыцы, па сутнасці, гэта нармальная зарплата для трэнера, які мае шмат гадзін. Мне незразумела, чаму ў нас такая.

***— А гандбол цяпер дзецям увогуле патрэбны?***

— Так, і гэта абсалютна дакладна. Бацькам трэба кудысьці іх аддаць, а спорт падыходзіць больш за ўсё. Павер, я ведаю дакладна, што дзеці ў школу не рвуцца. У нас у РЦАРы 608 дзяцей, і калі паставіць іх перад выбарам, куды яны хочуць больш, то трэніроўка пераможа ў адны вароты.

Самы цікавы ўзрост у гэтым плане — 13–14 гадоў. Яны хочуць гуляць, у іх ёсць парывы. Дарослыя ўжо прагнуць стабільнасці. А наогул гэта пакаленне, канечне, не падобнае да нашага.

Мне цяперашнія дзеці падабаюцца тым, што яны так хутка не перагараюць, як мы ў іх узросце. Эканомяць на эмоцыях і нешта пакідаюць у сабе. Правільна, няма чаго гарэць, каб у 18 гадоў адчуваць сябе ў спорце бабуляй.

У той жа час ёсць момант недапрацоўкі. Але, думаю, гэта віна трэнера. Яны не хочуць выцягваць з іх жаданне і парывы да перамогі. Людзі прыходзяць адбыць свой час. А што яшчэ можна рабіць за 700 рублёў?



Фота www.handballfast.com

***— А калі плаціць ім 1700, імкненні намалююцца?***

— Тады перад дзвярыма цэнтра ў адзін момант утворыцца чарга з выпускнікоў універсітэта фізкультуры. І ўжо ніхто не захоча адбываць час. Магчыма, і са СКА пабягуць да нас. Так, гэта гучыць банальна, але зарплата заўсёды служыла добрай матывацыяй.

***— Спорт, як вядома, заўсёды быў някепскім сацыяльным ліфтам.***

— Для многіх схема ўжо адпрацаваная. Школа — спартыўны клас — БДУФК, падчас якога добра было б дзесьці перакантавацца. У лепшым выпадку гэта была б лаўка запасных БНТУ, «Гомеля» ці «Бярэсця». І ўсё — жыццё склалася. Да 24 гадоў план ёсць. І, калі задумацца, гэта класная штука.

Таму што я ў сваё 18 паняцця не мела, дзе апынуся заўтра. Іншая справа, што такая мернасць мала спрыяе разуменню таго, што свае шанцы ў спорце трэба выгрызаць. Беларуская ментальнасць? Не ведаю, можа быць.

Я з'ехала ў Нарвегію ў 19 гадоў, мне хацелася нешта памяняць. Ці хочуць дзяўчаты цяпер што-небудзь мяняць? Пытанне... Часта пытаюся: «Чаму ніхто з нашых дзяўчат-брамнікаў не з'едзе ў той жа венгерскі чэмпіянат — вельмі добры па сваім узроўні, дзе можна павышаць прафесійны ўзровень?»

***— Што ты думаеш наконт таго, што славутыя чэмпіёны ўзначалілі хіт-парад падпісантаў праўладнага ліста.***

— Мяне гэта ніколькі не здзівіла. Людзі атрымліваюць пэўныя прэферэнцыі і задаволеныя тым, што ёсць. Хоць, на мой погляд, ніякія грошы не каштуюць нават аднаго збітага чалавека. Зноў жа, усе супраць гвалту, і нават тыя, хто падпісаўся пад другім лістом, думаюць на гэты конт аднaзначна. Вось яны цяпер сядзелі б побач з намі — той жа Барбашынскі або Рутэнка — і казалі б, маўляў, рабяты, ну зразумела, што ўсё гэта хранова; але ж і вы зразумейце, у мяне сям'я, бізнес...

***— Ты цяпер заўзела за нашу мужчынскую зборную на чэмпіянаце свету?***

— Больш за ўсё Шаўцова лаялі за тое, што каманда ехала ў Егіпет без выразнай мэты. Той, якой хацелі б дасягнуць. Хоць ён, хітрая ліса, заўсёды ведае, што трэба сказаць. Што-небудзь тыпу падрыхтоўкі новага пакалення — каторага там па ліку, якое павінна будзе абавязкова стрэліць. Толькі ніхто не ведае, калі гэта адбудзецца дакладна. Таму крэдыт даверу трэнеру трэба падоўжыць зноў.

Мне ж здалося, што мы прыехалі туды не на чэмпіянат свету, а на вакацыі. Падчас перапынкаў у гульнях наш галоўны трэнер асабліва і не распінаўся.

Ну што нам перашкодзіла выйграць у славенцаў? У другім тайме каманда стаяла як укапаная. Можа, тады і трэба было прывесці яе ў пачуццё эмоцыямі, даць ёй неабходны энергетычны запал?

Параўноўваю нашу жаночую зборную з мужчынскай — і разумею, што пры прыкладна аднолькавых выніках мы падвяргаліся значна больш жорсткай крытыцы.

***— А калісьці вы перамагалі цяперашніх чэмпіёнак свету — галандак, прычым без асаблівага напружання. Атрымліваецца, яны зрабілі крок, а то і два наперад, а мы засталіся на месцы?***

— Бяда ў тым, што ў нас няма масавага спорту, як у Даніі, Славеніі або Нарвегіі. У нас у нацыянальным дзіцячым турніры «Вавёрка» ўдзельнічаюць пяць каманд дзяўчынак, тры з якіх — з Мінска. Так, пандэмія, але пяць — гэта нікчэмна мала!

Вярніце назад масавы спорт, які быў у СССР. Мы цяпер працуем кропкава, эксклюзіўна. Убачылі здольнага хлопца — і паперлі яго гадаваць. Паклалі на яго груз абавязкаў і ўзялі слова, што ён абавязкова стане вялікім гульцом.

Калісьці толькі ў Гомельскім раёне Сельмаш у гандбол гулялі ў пяці школах. Настаўнікі фізкультуры выкладалі адразу некалькі гульнявых відаў, і дзіця яшчэ ў школе магло зразумець, дзе ў яго атрымліваецца лепш. А дакладней за ўсё, той жа настаўнік сам рэкамендаваў яго дзіцячаму трэнеру.

Сёння я пытаюся ў дачкі: «Чым вы займаецеся на фізкультуры?». Кажа: «Мы вельмі просім пагуляць у валейбол!» Вядома, бо ў залі ёсць толькі сетка — вароты адсутнічаюць. Але нават у гэтым задавальненні ім адмаўляюць, таму што дзіця можа атрымаць траўму. А каму хочацца адказваць? Давайце лепш прэс пакачаем або ў даўжыню паскачам.

Здаровы лад жыцця павінен пачынацца яшчэ з дзіцячага садка. Абавязкова мусяць быць заняткі фізкультурай, абавязкова на вуліцы. І там трэба не стаяць, уткнуўшыся ў тэлефон, а працаваць з дзецьмі. Цяпер вельмі папулярнае практыкаванне — «Дзеці, давайце паходзім!». Вельмі зручна — мінімальны траўматызм.

А потым мы глядзім на скандынаўскіх хлопчыкаў і дзяўчат і думаем: а чаго ж гэта яны такія здаровыя і каардынаваныя? А ў іх яшчэ з садка дзеці ўжо знаёмыя з элементамі таго ж гандбола. Маленькія вароты, маленькі мяч, гульнявая атмасфера... І як вынік — масавы ахоп.

Мне, дарэчы, заўсёды было цікава развіць гэтую тэму і ў нас у краіне. Іншая справа, што раней на тое элементарна не хапала часу, а цяпер, мусіць, ён з'явіўся.

Ведаеш, калі пачалася ўся гэтая гісторыя са звальненнем са зборнай, то нават незнаёмыя людзі мне пісалі: «Наташа, вы без працы не застанецеся». І я думаю, што яны мелі рацыю, бо не ўяўляю сябе чалавекам, які сядзіць склаўшы рукі.

Хоць не буду хаваць: часам можа нахлынуць дэпрэсія. Я ўжо гадоў дзесяць не гляджу тэлевізар, але калі адкрываеш інтэрнэт, чытаеш пра тое, што адбываецца... Думкі з'яўляюцца розныя. Самая першая і найбольш перспектыўная — з'ехаць адсюль куды далей. Туды, дзе можна жыць у нармальнай спакойнай абстаноўцы, не баючыся выходзіць на вуліцу, не баяцца за сваю дачку, бо сёння не вярнуцца дадому можа кожны.

Калі чытаеш пра тое, што ў нас рыхтуюцца канцлагеры, то рабіць наогул нічога не хочацца. І звязваць сваю будучыню з такой краінай таксама неяк не цягне. Прыходзіш на працу і выконваеш нейкія функцыі, нібы аўтамат. Робіш добра, бо я не ўмею працаваць дрэнна. Але ствараць нешта новае...

Вось гэта дылема, з якой я змагаюся, і якую, ведаю, перажываюць многія і многія мае суайчыннікі. Жыць хочацца для Беларусі — новай, свабоднай і багатай. Той, якой яна можа стаць. Але не для той, якая яна цяпер. Я сёння тут задыхаюся. Гэта шчыра.

***— Падчас кар'еры ты магла застацца ў той жа Нарвегіі — краіне, выдатнай з любога пункта гледжання.***

— Калі я хацела вярнуцца ў гандбол пасля нараджэння дачкі, то ўжо нікому не была патрэбная. Ну а як, з маім мікраінсультам...

Цяжка сыходзіць з вялікага спорту, калі ў цябе на руках кантракт з найлепшым клубам свету — аўстрыйскім «Хіпабанкам». Калі ёсць альтэрнатыва — з'ехаць у цёплую Іспанію. Калі нескладана вярнуцца і да скандынаўскага вектару.

30 гадоў для брамніка — гэта не ўзрост. Але... З такім дыягназам мяне потым не ўзялі нават у мінскі БНТУ: «Наташка, прабач...»

Калі малады, то проста ездзіш па краінах і думаеш, дзе табе было б цікава жыць. Тая ж Нарвегія для мяне была занадта змрочная. Залішне моцны там традыцыйны ўклад жыцця. У лістападзе яны ўсёй краінай сталі на лыжы — у сакавіку з іх сышлі. Калі адпачынак у камандзе доўжыцца 20 дзён, то 12 з іх яны абавязкова павінны правесці, раніцай прабягаючы кросік, а ўвечары збіраючыся кампаніяй пагуляць у гарбаты ці пайсці ў бар. Для нарвежак жаночая супольнасць вышэй за ўсё.

«Наташа, ну гэта ж так выдатна — умацоўваць камандны дух і ў адпачынку. Пайшлі з намі пап'ём гарбаткі...» А мяне гэта злавала, бо па натуры я адзіночка. Адпрацавала — і мне трэба дадому. Нікога не бачыць і не чуць. А яны расстацца не могуць.

Харватыя мне падабалася. Добрая краіна, я яе разглядала для далейшага жыцця. Але ўсё ж яна занадта шумная. Затое яны яркія і эмацыйныя на гульнявой пляцоўцы — у гэтым іх велізарны плюс.

Датчане класныя, яны не падобныя да нарвегаў. У іх культ дома, і яны заўсёды настроены пазітыўна. Нельга хваляваацца, патрэбна заўсёды ўсміхацца. Калі ў цябе нешта здарылася, то зусім не абавязкова цягнуць гэта ў каманду. Навошта хваляваць сяброўак, хай гэта застанецца ўнутры. На людзях ты павінна быць вясёлай і жыццярадаснай.

Яшчэ спадабалася Аўстрыя. Збіралася пагуляць у «Хіпабанку» гады тры, а потым можна было б там застацца. Але, бачыш, выношваеш планы яшчэ з 13 гадоў і быццам бы ўсё робіш для гэтага... Мне сябе няма ў чым папракнуць, але жыццё ўносіць свае карэктывы. Усё ж такі вялікі спорт патрабуе ахвяр.

А цяпер кудысьці з'ехаць практычна нерэальна. У той жа Даніі аддадуць перавагу мясцоваму трэнеру.

Не ведаю, можа, памяняць прафесію... Хоць разумею, што працаваць з тымі ж маленькімі дзеткамі ў садку — гэта маё. Не чысты спорт, а фізкультура, хоць, па вялікім рахунку, нават у такім узросце бачныя задаткі дзяцей. І даць ім правільны кірунак — гэта задача, над якой хацелася б папрацаваць.

І ўсміхацца бацькам. І хваліць дзяцей, бо ў гэтым далікатным узросце яны асабліва ўспрымальныя да хвалы і падбадзёрвання. Увагі да сябе.

***— Працаваць па дацкай сістэме?***

— Ну так. А што ў мяне ўнутры... Думаю, як і ў кожнага нармальнага беларуса. Аднак навошта нам уголас казаць пра тое, што і так кожны з нас ведае? Лепш будзем усміхацца. На злосць тым, хто хацеў бы бачыць слёзы ў нашых вачах.

# Дзень народзінаў за кратамі

**У нашай новай рубрыцы мы будзем імкнуцца максімальна збіраць інфармацыю пра тых, хто сустрэне свой чарговы дзень народзінаў за кратамі.**

Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай або адправіць яму грашовы перавод да свята. Магчыма, хтосьці захоча дасляць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго надрукавалі.

Працягваем публікаваць імёны тых, хто адзначыць свой дзень народзінаў у лютым. Шчыра віншуем усіх. Жадаем моцы, здароўя і вольнай Беларусі!

## 2 сакавіка

**Віктар Сядоў** быў затрыманы 16 кастрычніка. Яго абвінавачваюць па ч. 2 арт. 293 КК



(удзел у масавых беспарадках). Яго затрымалі за відэа, на якім нібыта бачна, што ён кідае камяні на акцыі пратэсту ў Мінску. 2 сакавіка яму споўніцца 46 гадоў.

Адрас для лістоў: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

**Яўген Дзмітрыеў** адзначыць сваё 27-годдзе. Ён працаваў пажарным-ратавальнікам у МНС. Быў затрыманы 4 кастрычніка пасля «Марша вызвалення



палітвязняў» каля свайго дома ў Мінску. Меркавана, за ім сачылі.

Спачатку яму прысудзілі адміністрацыйны арышт па арт. 23.34 КаАП. Пасля заканчэння арышту ён на волю не выйшаў, стала вядома, што супраць яго распачата крымінальная справа.

Абвінавачваюць па арт. 342 КК (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх).

Утрымліваўся ў СІЗА-1 у Мінску, затым перавялі ў жодзінскі СІЗА.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8, 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

## 7 сакавіка

**Халімончык Артур** быў затрыманы ў Пінску ў ноч з 9 на 10 жніўня. Яму прад'яўлена абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК («Удзел у масавых беспарадках»).



Утрымліваецца ў СІЗА г. Баранавічы.

Сімвалічны «хросны» Артура у межах кампаніі #WeStandByYou — дэпутат Бундэстага Германіі Дзітрых Монштадт напісаў: «Я далучаюся да патрабаванняў вызваліць збольшага маладых людзей, якія несправядліва аказаліся за кратамі. Для мяне гонар стаць "хросным" Артура Халімончыка. Я патрабую яго неадкладнага вызвалення, а таксама вызвалення ўсіх іншых незаконна затрыманых палітвязняў».

Адрас для лістоў: СІЗА-6, 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

**Алана Гебрэмарыям** 7 сакавіка адзначыць сваё 24-годдзе. Яна — сябра асноўнага складу Каардынацыйнай рады, «Задзіночання беларускіх студэнтаў», актывістка «Маладзевага блоку». Алана таксама з'яўляецца прадстаўніцай Свят-



ланы Ціханоўскай па справах моладзі. Скончыла Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт. Увосень 2019 года на парламенцкіх выбарах была кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Грушаўскай выбарчай акрузе №98.

Алана была затрымана 12 лістапада ў межах крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК РБ (Арганізацыя альбо ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак).

Адрас для лістоў: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 13 сакавіка

Сваё 24-годдзе за кратамі адзначыць і **Даніла Чамаданаў** — фігурант брэсцкай «справы карагодаў», распачатай па



падзеях 13 верасня 2020 года ў горадзе (калі пратэстоўцы выйшлі на праезную частку, а іх разагнаў вадамёт).

Прад'яўлена абвінавачванне па арт. 342 КК. З 22 студзеня 2021 года знаходзіцца ў СІЗА-7.

Адрас для лістоў: СІЗА-7, 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх пamежнікаў, 37.

## 15 сакавіка

**Юрый Бялько** адзначыць за кратамі свой 38-ы дзень нараджэння. Па адукацыі ён — інжынер СПА, скончыў Вайсковую акадэмію. Перад затрыманнем працаваў менеджарам па продажах.

Юрый быў затрыманы па справе аб масавых беспарадках у ноч з 29 на 30 верасня.

Пасля яму было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК.

Спачатку Юрыя Бялько змясцілі ў ІЧУ на Акрэсціна, затым перавялі ў СІЗА-1, а потым — у СІЗА г. Жодзіна. У лістападзе яго зноў вярнулі ў СІЗА-1.

Адрас для лістоў: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 18 сакавіка

**Уладзіславу Макавецкаму** споўніцца 28 гадоў, ён мастак па адукацыі, вядомы як аўтар 24-метровай драўлянай лыжкі, якую выразаў у Беразіне. Працаваў таксама ў цэнтры рамёстваў у Лёзне. Займаецца калекцыянаваннем і рэстаўрацыяй гістарычных артэфактаў.



Яго абвінавацілі па арт. 364 КК (гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў). Атрымаў два гады калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-2, 210026, г. Віцебск, вул. Гагарына, 2.

Імёны іншых вязняў, якія адзначаць свой дзень народзінаў у сакавіку, мы апублікуем у наступным нумары.



## ВЫРАТУЙ ЖЫЦЦЁ

### Тэрмінова патрэбна ператрымка ці дом!



Гэты сабака замярзаў каля Смалявіцкага РАУС.

Пэўна, яго гаспадар таксама трапіў у бяду. На сабачае шчасце, добры чалавек не прайшоў міма. Так небарака атрымаў часовы прытулак. Але ў чалавека дома ўжо ёсць вялікі сабака, яму цяжка з двума. Патрэбна ваша дапамога!

Тэрмінова шукаем перетрымку для гэтай дзяўчынкі, а можа пашанцуе — і знойдзецца адразу дом! Відавочна, што яна напакутавалася. Худзенькая, трохі стрэсуе.

Але гэта ўсё можна вырашыць праз любоў і цярпенне. Калі ласка, дапамажыце!

Тэл. +375296951840 Надзея.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №332

Падпісана да друку 25.02.2021. 8.00. Наклад 4000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.